

**Ірэна Стасевіч-Ясюкова**, гісторык навукі і культуры, доктар гебілітаваны, прафесар у Інстытуце гісторыі навукі Польскай Акадэміі Навук (нар. 11 лютага 1931 г. у Лідзе, памерла 21 сакавіка 2011 г. у Варшаве), шчыры сябар Беларусі.

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 2 ( 78 )** **КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ** **2017 г.**

## *У НУМАРЫ:*


























**На першай старонцы выкладкі сядзіба Брахоцкага ў Мажэйкаве Лідскага раёна. 2017 г.** ***Здымак С. Судніка.***



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2128.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2017 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.09.2017 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 1,53 руб.**
**індывід. 6 мес. - 3,06 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792






# Узрасло буйным коласам зерне Скарыны
# *Пятыя Лідскія чытанні*

Бягучы 2017 год у культурным жыцці праходзіць пад знакам 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Менавіта 500 гадоў назад, а дакладней - 6 жніўня 1517 года, у Празе, адным з найбуйнейшых на той час цэнтраў кнігадрукавання, беларускім асветнікам, вучоным, гуманістам Францішкам Скарыном была выдадзена першая ва ўсходніх славян друкаваная кніга - "Псалтыр" - на старажытнабеларускай мове. Яна стала першай з дваццаці трох выдадзеных Скарынам кніг Бібліі. Выданне гэтых друкаваных кніг Бібліі паспрыяла пашырэнню кнігадрукавання, ідэй гуманізму і асветніцтва ва Ўсходняй Еўропе.




***Вядоўца Таццяна Івашэвіч***

Да 500-годдзя той знакавай падзеі была прымеркавана навуковая канферэнцыя "Пятыя лідскія чытанні", якая адбылася 19 красавіка ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы. На мерапрыемства былі запрошаны работнікі бібліятэк, мясцовыя краязнаўцы, а таксама краязнаўцы са Слоніма і Дзятлава. Падчас работы навуковай канферэнцыі ў канферэнц-зале бібліятэкі дзейнічала кніжная выстава "Ўзрасло буйным коласам зерне Скарыны", прысвечаная гісторыі друкаванай кнігі на Беларусі.



***Вітальнае слова дырэктара бібліятэкі А. Мартынава***

Спачатку прысутным быў прадэманстраваны кароткаметражны відэафільм пра Францішка Скарыну. Затым з дакладамі выступалі ўдзельнікі канферэнцыі: краязнаўцы, настаўнікі гісторыі, бібліятэчныя і музейныя работнікі і іншыя.

Так, з асвятленнем жыцця і дзейнасці беларускага першадрукара ў школьных падручніках азнаёміла настаўніца гісторыі сярэдняй школы № 17 Тарэза Капачэль; бібліяграфічны агляд кніг пра Францішка Скарыну правяла галоўны бібліёграф раённай бібліятэкі Галіна Курбыка; пра аднаго з паслядоўнікаў Скарыны, друкара Яна Карцана (які, праўдападобна, родам з Лідчыны), расказала настаўніца гісторыі Мінойтаўскай СШ Алена Мілевіч; праблему перакладу твораў старажытна-беларускай літаратуры на сучасную беларускую мову закрануў у сваім выступленні святар



***Тарэза Капачэль***



***Падчас чытанняў***



***Галіна Курбыка***



***Алена Мілевіч***



***Супрацоўнікі лідскага музея Наталля Валынец і Наталля Хацяновіч***

Свята-Георгіеўскага храма-помніка айцец Уладзімір Камінскі; па тэме "Царкоўныя кнігі Лідчыны XVIII стагоддзя" выступіў краязнавец Леанід Лаўрэш.

Краязнавец з аграгарадка Дворышча Віктар Кудла азнаёміў прысутных з некаторымі выдадзенымі ў канцы XIX стагоддзя кнігамі, якія захоўваюцца ў яго сям'і як рэліквіі (продкі Віктара Іванавіча прывезлі гэтыя кнігі з глыбіні Расіі, куды трапілі як бежанцы ў час Першай сусветнай вайны), - гэта і Евангелле, у якім больш за 900 старонак, і "Беседы о земле и тварях, в ней живущих", і кніга па гісторыі развіцця сельскай гаспадаркі "Куль хлеба и его происхождение", і кніга па медыцыне "Новое в естественном лечении". Яшчэ з адной старой кнігай - паэмай Якуба Коласа "Сымон-музыка" 1928 года выдання - пазнаёміў краязнавец з вёскі Сялец Мікалай Дзікевіч (гэта была першая прачытаная Мікалаем Мікалаевічам кніга на беларускай мове, зараз яна захоўваецца ў літаратурным аддзеле Лідскага гістарычна-мастацкага музея).



***Уладзімір Камінскі***



***Леанід Лаўрэш***



***Мікалай Дзікевіч***



***Віктар Кудла***

Агляд калекцыі друкаваных выданняў, якія захоўваюцца ў фондах згаданага музея, правяла галоўны захавальнік фондаў музея Наталля Хацяновіч.

На мерапрыемстве ў якасці дакладчыка быў запрошаны і госць са Слоніма - паэт, журналіст, краязнавец Сяргей Чыгрын. Ён выступіў з дакладам па гісторыі кнігадрукавання на Слонімшчыне.

З дзейнасцю ДАУПП "Лідская друкарня" азнаёміў прысутных яе дырэктар Мікалай Пякарскі, з дзейнасцю Выдавецкага дома грамадскага аб’яднання "ТБМ імя Ф. Скарыны" - паэт, журналіст, краязнавец Станіслаў Суднік.

Тэксты ўсіх сваіх дакладаў выступоўцы аддалі раённай бібліятэцы. З гэтых тэкстаў работнікамі бібліятэкі пазней будзе складзены зборнік па тэме "500 год беларускаму кнігадрукаванню".

***Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.***



***Сяргей Чыгрын***



***Мікалай Пякарскі***



***Станіслаў Суднік***

# КРОНІКА ЛІДЫ

Лясны адукацыйны экацэнтр адкрыўся ў старынным парку "Гарні" Лідскага раёна ў красавіку 2017 г.






20 красавіка Ордэн Маці атрымала лідзянка Марына Мардзецкая.

12 траўня Ордэн Маці атрымалі жыхаркі пасёлка Першамайскі Лідскага раёна Ала Маркель і Святлана Завала.

7 чэрвеня ў Лідзе ў СДЮШАР № 2 адкрылася зала боксу.





11 чэрвеня 2017 г. "Лідсельмаш" стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату Беларусі па міні-футболу.





20 чэрвеня жыхары Лідчыны выбралі белую чаплю сімвалам свайго раёна.

22 чэрвеня пачаўся 2-гі этап рэканструкцыі дарогі М6 “Менск - Гародня”, у тым ліку і на тэрыторыі Лідскага раёна.



# Літаратурнае аб'яднанне "Суквецце": гісторыя і сучаснасць

## *50 гадоў творчасці*

Лідская зямля багатая на таленты, дзякуючы якім культурная спадчына нашай малой Радзімы не толькі захоўваецца, але і папаўняецца.

Папаўняецца новымі імёнамі, новымі шэдэўрамі, новымі ідэямі. Літаратурная спадчына Лідчыны не выключэнне. Вось ужо на працягу 50-ці гадоў пры рэдакцыі "Лідскай газеты" актыўна вядзе працу літаратурнае аб'яднанне "Суквецце", кіраўніком якога сёння з'яўляецца малады, таленавіты, творчы чалавек - Алесь Часлававіч Хітрун.




**"Ад прадзедаў спакон вякоў..." шчыруюць паэты Лідчыны**

Лідскі край па праве лічыцца скарбніцай беларускай зямлі. Колькі таленавітых людзей нарадзілася на Лідчыне, якую велізарную спадчыну пакінулі нам нашы продкі, колькі велічных збудаванняў захавала Лідская зямля і працягвае адраджаць іх з попелу стагоддзяў! Гісторыя захавала шэраг імёнаў, якія праславілі Лідчыну. Асаблівае месца сярод усіх займаюць майст-ры слова. Менавіта яны, дзякуючы свайму таленту і ўменню бачыць тое, што непадуладна погляду простага чалавека, здолелі разглядзець і перадаць з дапа-могай мастацкага слова ўсю знешнюю і ўнутраную прыгажосць свету.

Літаратурная спадчына пісьменнікаў Лідскага краю, як сцвярджаюць многія, хто мае дачыненне да мастацтва слова, налічвае больш за пяцьсот імёнаў[1]. І гэта сцвярджэнне дае нам права з упэўненасцю заявіць, што Лідчына - гэта літаратурны край.

500 імёнаў паэтаў і пісьменнікаў! Хто ж гэтыя людзі? Якім чынам іх жыццёвыя шляхі былі звязаны з Лідчынай? На гэтыя і іншыя пытанні мы паспрабуем даць адказы, даследаваўшы тэму "Літаратурнае аб'яднанне "Суквецце": гісторыя і сучаснасць".

Свой пачатак літаратурная Лідчына бярэ з канца XVI стагоддзя, калі лідскі стараста Ян Абрамовіч выдаў у Вільні ў 1598 годзе "Катэхізіс"[2], у якім утрымліваецца 300 рэлігійных песень[3]. І калі ўважліва паглядзець на дату, то варта адзначыць, што ў 2018 годзе лідзяне адзначаць юбілей: 420 гадоў, як на Лідчыне з'явілася першая друкаваная кніга.

Жыццё звязала з лідскім краем імёны многіх вядомых у Беларусі майстроў слова:

- тут працаваў на чыгунцы Карусь Каганец;
- у гэтых месцах нарадзілася Алаіза Пашкевіч, вядомая нам пад псеўданімам Цётка;
- настаўнічаў на Лідчыне Францішак Багушэвіч[4];
- дырэктарам завода па вытворчасці цвікоў быў Уладзімір Корбан[5];
- жылі і працавалі Ніна Тарас і Валянцін Таўлай (працавалі ў газеце "Ўперад")[6];
- у гісторыі горада пакінуў свой след Янка Купала[7];
- тут нарадзілася першая беларускамоўная паэтка Адэля з Устроні, аўтарка паэмы "Мачыха" (1850 г.) і верша "Кракаў" (1850 г.)[8];
- нарадзіліся і выраслі на Лідчыне Данута Бічэль, Віктар Праўдзін[9], Хрысціна Лялько, Ірына Багдановіч, Уладзімір Клімовіч...

Больш падрабязна аб літаратурнай спадчыне Лідскага краю можна даведацца, пазнаёміўшыся з ар-

[1] Хітрун, А. "Ёсць паэзія, а ёсць рыфмацтва, або Што парой выяўляе агляд мастацкіх твораў". /Хітрун, А.//"Лідская газета", 11.01.2014 г., №3(12411), - С. 5.

[2] Субач, А. Багаты россып на выдавецкай ніве. /Субач, А.// "Лідская газета", 05.09.2009г., № 101 (11772), - С. 2.

[3] http://old.zviazda.by/ru/pril/article.php?id=110662/ Дата доступа: 25.02.2017г.

[4] Содаль, У. "Сем раз Ліду ён наведаў"/ Содаль, У.// "Лідская газета", 13.12.2008г., - С. 2.

[5] https://ru.wikipedia.org/wiki/Корбан,_Владимир_Иванович/ Дата доступа: 25.02.2017г.

[6] Хітрун, А. "Бірута песні тут збірала, а Колас нам вершы чытаў"/ Хітрун, А.// "Лідская газета", 11.09.2008г., - С. 4.

[7] Казакевіч, М. "Ніколі, браткі, не забуду, што чалавек я, хоць мужык"./ Казакевіч, М.// "Лідская газета", 29.11.2011г., № 136 (12098), - С. 3.

[8] Хітрун, А. "Бірута песні тут збірала, а Колас нам вершы чытаў"/ Хітрун, А.// "Лідская газета", 11.09.2008г., - С. 4.

[9] http://tv-lida.by/regnews/5530-lidu-posetil-izvestnyy-belorusskiy-prozaik-viktor-pravdin.html/ Дата доступа: 25.02.2017г.

тыкулам Алеся Хітруна "Бірута песні тут збірала, а Колас нам вершы чытаў" ("Лідская газета", 11.09.2008 г., - С. 4.).

Але галоўнае месца ў літаратурным жыцці Лідскага краю ўжо больш за 50 гадоў займае дзейнасць літаратурнага аб'яднання "Суквецце", якое дзейнічае пры рэдакцыі "Лідскай газеты". (Заўв. Назва аб'яднання захоўвае гучанне і напісанне на рускай і беларускай мове).

За сваю гісторыю літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" сабрала разам не адзін дзясятак майстроў слова. Пра гэта можна пачуць падчас экскурсіі ў літаратурным аддзеле Лідскага гістарычна-мастацкага музея (ЛГММ) падчас знаёмства з выставай "З мастацкім словам па жыцці", якую праводзіць не проста экскурсавод, а сам кіраўнік літаратурнага аб'яднання Алесь Хітрун.

Мы наведалі выставу і пазнаёміліся з нашымі літаратарамі завочна. Алесь Часлававіч расказаў нам аб гісторыі ўзнікнення літаратурнага аб'яднання; аб лідскіх паэтах і празаіках; аб выдавецкай дзейнасці; аб сустрэчах з пісьменнікамі і проста цікавымі людзьмі, якія праходзяць у літаратурным аддзеле ЛГММ. *Дадатак 1.*

Непасрэдна сустрэцца з лідскімі літаратарамі і атрымаць магчымасць пагутарыць з імі можа кожны, хто наведае ў трэцюю сераду месяца паседжанне літаратурнага аб'яднання "Суквецце". Менавіта ў гэты дзень кожны месяц праводзяцца паседжанні.

### Да пытання аб стварэнні літаратурнага аб'яднання

Як паказана ў энцыклапедыі "Рэгіёны Беларусі: Гродзенская вобласць" у артыкуле "Лідскае літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" (на русском языке "Лидское литературное объединение "Соцветие")[10] (гл. заўв.: Назва не перакладаецца на рускую мову. Гэты пераклад - памылка выдавецтва), і як лічыць кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Суквецце" Алесь Хітрун: літаратурнае аб'яднанне бярэ свой пачатак з 1967 года. У чэрвені яго ўзначаліў адказны сакратар газеты "Ўперад" Віктар Мікалаевіч Кучынскі[11]. Аб гэтай падзеі ёсць невялікая нататка ў газеце "Ўперад" ад 03.06.1967 г. Гэты нумар газеты ў музей перадала найстарэйшая лідская паэтэса Алеся Бурак[12]. Менавіта гэты факт і з'яўляецца адпраўной датай адліку ў гісторыі літаратурнага аб'яднання пісьменнікаў Лідчыны.

Але падчас пошуку адказу на гэтае пытанне ў нас узніклі сумненні і шэраг пытанняў. Па-першае, вывучаючы архіў "Лідскай газеты", які знаходзіцца непасрэдна ў рэдакцыі газеты, мы знайшлі артыкул "Сход літаратурнага аб'яднання" (газета "Сцяг працы", назва "Лідскай газеты" 1962-1966 г.г.) № 18, С. 4 ад 11.02.1964 г. Значыць, ужо ў 1964 годзе пры рэдакцыі працавала літаратурнае аб'яднанне.

Па-другое, у часопісе "Лідскі летапісец" (№ 4 (16), - С. 23) у артыкуле пра Дзелянкоўскага Мікалая Іванавіча гаворыцца: *"Працаваў пры лідскай газеце "Ўперад" з 1957 па 1962 г.[13], кіраваў літаратурным аб'яднаннем"* [14]. Робім яшчэ адзін вывад: у 1962 годзе аб'яднанне ўжо працавала. Паказвае на гэты факт і Алесь Хітрун у інтэрв'ю "Лідскай газеце", але, спасылаючыся на тое, што Мікалая Дзелянкоўскага ўжо няма ў жывых і дакладную дату даведацца немагчыма, было прынята рашэнне спыніцца на 1967 годзе[15].

Па-трэцяе, у артыкуле Аляксандра Мацулевіча "Лідскай газеце - 75" (часопіс "Лідскі летапісец" № 3(67), 2014 г., - С. 5-6) сустракаем наступную інфармацыю: *"Варта адзначыць, што ў 1939-1941 гг. у газеце працавалі беларускія пісьменнікі Валянцін Таўлай і Ніна Тарас. Яны паклалі пачатак згуртаванню пры рэдакцыі паэтаў і празаікаў Лідчыны. І па сённяшні дзень у газеце перыядычна выходзіць літаратурная старонка, дзе публікуюцца творы мясцовых літаратараў - сяброў створанага пры рэдакцыі літаратурнага аб'яднання "Суквецце"*...[16]

Чаму ж менавіта 1967 год з'яўляецца годам заснавання літаратурнага аб'яднання "Суквецце"? Пра гэта мы сказалі вышэй, але ўсяроўна звярнуліся яшчэ раз да кіраўніка літаратурнага аб'яднання Алеся Хітруна. Алесь Часлававіч патлумачыў: "Аб'яднанне літаратараў пры газеце "Ўперад" існавала раней за 1967 год, але вось афіцыйна, арганізацыйна першым кіраўніком яго быў абраны Віктар Мікалаевіч Кучынскі, таму было прынята рашэнне пакінуць менавіта гэты год, як год заснавання літаратурнага аб'яднання пісьменнікаў Лідчыны".

Акрамя таго, у хатнім архіве Алесі Бурак ёсць запрашэнне, адрасаванае паэтцы, наступнага зместу: *"Рэдакцыя запрашае Вас на сход літаратурнага аб'яднання пры газеце "Ўперад", якое адбудзецца ў 19.00 25 мая ў памяшканні рэдакцыі. Дата 22.05.1967 г.". Дадатак 2.*

Пасля вывучаных матэрыялаў і меркаванняў мы робім наступную выснову: літаратурнае аб'яднанне

[10] Энциклопедия "Регионы Беларуси". В 7т., Т.4. Гродненская область в 2 книгах, Кн. 2., Мн., Изд. "Беларуская энцыклапедыя ім. П.Броўкі", 2015 г., - С. 39.

[11] Заўвага. Уласныя назвы: газеты, літаратурнага аб'яднання, некаторыя прозвішчы (Бурак, Хітрун) на рускай мове захоўваюць сваё гучанне і напісанне ў адпаведнасці з беларускім напісаннем.

[12] Мацулевіч, А. "Юбілейны год для лідскага "Суквецця". / Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 01.02.2017г., № 8 (12767), - С. 19.

[13] Хітрун, А. "Бірута песні тут збірала, а Колас нам вершы чытаў"./ Хітрун, А.// "Лідская газета", 11.09.2008г., - С. 4.

[14] Сліўкін, В., Зенюкевіч, Т. Літаратурная Лідчына. / Сліўкін, В., Зенюкевіч, Т. //"Лідскі летапісец", № 4 (16), студзень-сакавік 2001г., - С. 19-29.

[15] Мацулевіч, А. "Юбілейны год для лідскага "Суквецця". / Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 01.02.2017г., № 8(12767), - С. 19.

[16] Мацулевіч, А. "Лідскай газеце - 75"/ Мацулевіч, А. // "Лідскі летапісец" № 3(67), 2014г. - С. 5-6.

ўзнікла пры рэдакцыі "Лідскай газеты" раней за 1967 год. Пра гэта сведчыць наяўнасць "Літаратурных старонак" у газеце за 1962-1966 г.г. І хутчэй за ўсё, літаратурнае аб'яднанне з'явілася яшчэ да вайны пры Валянціну Таўлаю. Менавіта ён згуртаваў пры рэдакцыі паэтаў і празаікаў Лідчыны. Значыць, літаратурнаму аб'яднанню пры "Лідскай газеце" ўжо больш за 70 гадоў. Сама ж гісторыя "Лідскай газеты" пачалася з 1939 года. Але перыяд з 1939 па 1967 год будзем лічыць перадгісторыяй "Суквецця" з-за пэўнай нерэгулярнасці дзейнасці літаб'яднанняў тых гадоў. А вось рэгулярную і бесперапынную дзейнасць літаб'яднання ад чэрвеня 1967 года спачатку без назвы, а потым з назвай "Суквецце" мы можам прасачыць ужо з месяца ў месяц, з года ў год.

### "З мастацкім словам па жыцці", або Ўспаміны кіраўнікоў аб жыцці літаратурнага аб'яднання "Суквецце"

У верасні 1972 года кіраўніцтва літаратурным аб'яднаннем было перададзена Ўладзіміру Гаўрылавічу Васько, які і даў крыху пазней яму назву "Суквецце".

Больш падрабязна аб літаратурнай дзейнасці лідскіх пісьменнікаў Уладзімір Васько напісаў у сваёй чарговай кнізе "Зігзагі лёсу" ў часцы "Паэты Лідчыны": *"Да майго прыезду ў Ліду літаратурным аб'яднаннем пры рэдакцыі газеты "Ўперад" кіраваў адказны сакратар Віктар Мікалаевіч Кучынскі. Ён жа складаў і літаратурную старонку. З маім пераходам на пасаду загадчыка аддзела пісьмаў гэтую справу даручылі мне. Яе складаннем я займаўся аж да выхаду на пенсію і яшчэ два гады, будучы на пенсіі, але ўжо не працуючы ў штаце рэдакцыі. Доўгі час літаратурнае аб'яднанне не мела сваёй назвы. Праз некаторы час я прыдумаў назву - "Суквецце". Такой яна засталася і па сённяшні дзень. Літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" - гучыць нядрэнна. І жыць яму, магчыма, у стагоддзях.*

*Пры рэдакцыі ў розныя часы гуртаваліся паэты Станіслаў Суднік, Міхась Мельнік, Алеся Бурак, Пётр Макарэвіч, Віктар Бачароў, Смарагд Сліўко, Ірэна Сліўко, Уладзімір Бурак, Леанід Віннік, Іван Гушчынскі, Святлана Цішук, Галіна Каваленка, Тадэвуш Чарнавус, Іван Саўко, Марыя Масла, Уладзімір Дронаў, Таццяна Сямёнава, Алесь Хітрун, Алена Какорына, браты Валерый і Аляксандр Мацулевічы і іншыя.*

*Акрамя таго, я рэдагаваў і складаў літаратурныя старонкі газеты з вершамі многіх згаданых паэтаў разам з іх фотаздымкамі.*

*Мы не жылі ў вузкім замкнёным коле. Нас запрашалі выступаць у школы, у педвучылішча, у індустрыяльны тэхнікум, у ПТВ. Мы ахвотна ішлі туды і чыталі там свае вершы, гутарылі з настаўнікамі, вучнямі, навучэнцамі.*

*Да таго ж у Ліду прыязджала нямала літаратараў з Мінска. Яны таксама падключалі нас да сваіх выступленняў, але ў першую чаргу заходзілі ў нашу рэдакцыю. У нас, напрыклад, за маю бытнасць пабывалі такія пісьменнікі, як Максім Лужанін, Станіслаў Шушкевіч, Аляксандр Кучар, Мікола Гроднеў, Мікалай Кругавых, Уладзімір Паўлаў, Сцяпан Гаўрусёў, Казімір Камейша, Яўгенія Янішчыц, Мікола Федзюковіч, Алесь Ставер, Міхась Скрыпка, Мікола Маляўка, Мікола Мятліцкі, Уладзімір Скарынкін і многія іншыя"* [17]. (Кніга "Зігзагі лёсу" выйшла ў канцы сакавіка 2017 г.)

З верасня 2004 года па студзень 2012 года абавязкі кіраўніка літаратурнага аб'яднання "Суквецце" выконваў Міхась Іванавіч Мельнік.

Вось што распавёў нам Міхась Іванавіч аб дзейнасці аб'яднання ў той час: "Паседжанні літаратурнага аб'яднання праходзілі ў кабінеце беларускай мовы і літаратуры ў Лідскім педагагічным каледжы (вул. Кірава, 20) кожную трэцюю сераду месяца ў 17.00. З верасня 2008 года паседжанні сталі праводзіцца ў канферэнц-зале Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы (вул. Ленінская, 10). А з 16 сакавіка 2011 года паседжанні сталі праходзіць у літаратурным аддзеле ЛГММ (вул. Замкавая, 7). Адкрыццё ж літаратурнага аддзела адбылося 22 верасня 2010 года. Сёння гэты будынак вядомы ўсім лідзянам яшчэ як домік Валянціна Таўлая. Падчас майго кіраўніцтва літаратурнае аб'яднанне налічвала каля 100 літаратараў. Гэта былі студэнты, навучэнцы, педагогі, пенсіянеры, рабочыя...

За восем гадоў былі арганізаваны творчыя сустрэчы з пісьменнікамі - землякамі, членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі: Данутай Бічэль, Уладзімірам Клімовічам, Ірынай Багдановіч, Хрысцінай Лялько, Ганнай Серахан, народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам і многімі іншымі. Прайшлі вечары бардаўскай песні, прэзентацыі зборнікаў паэзіі і прозы лідскіх аўтараў, літаратурныя сустрэчы, прысвечаныя юбілейным датам у жыцці лідскіх майстроў слова. Пісьменнікі Лідчыны выступалі ў школах горада і раёна, у каледжах, на прадпрыемствах, у Цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, у клубе грамадзян пажылога ўзросту "Актыўнае даўгалецце". З удзелам С. Сліўко, М. Мельніка, В. Пазнуховай, А Хітруна, Л. Вінніка, І. Гушчынскага, В. Бачарова на Лідскім радыё прайшлі літаратурныя перадачы. Арганізаваны сустрэчы з менскім тэатрам аднаго акцёра "Зніч" з удзелам нашага земляка акцёра і спевака Вячаслава Статкевіча і ўдзельнікамі дзяржаўнага ансамбля "Свята".

Але самае галоўнае тое, што па-ранейшаму лідскія паэты і празаікі друкавалі свае творы ў раённым выданні "Лідская газета". Адзін раз на месяц выходзіла літаратурная старонка, дзе друкаваліся творы як вядомых мастакоў слова, так і аўтараў-пачаткоўцаў". *Дадатак 3.*

Са студзеня 2012 года літаратурным аб'яднан-

[17] Васько, У. "Пераезд ў Ліду. Паэты Лідчыны " (з кнігі ўспамінаў "Зігзагі лёсу"). / Васько, У.// "Лідская газета", 17.06.2014 г., - С.4.

нем кіруе Алесь Часлававіч Хітрун. Мы ўзялі інтэрв'ю ў кіраўніка літаратурнага аб'яднання і даведаліся шмат цікавай інфармацыі і фактаў з жыцця "Суквецця" за апошнія пяць гадоў.

*- Дзе праходзяць сёння літаратурныя паседжанні майстроў мастацкага слова?*

- За ўсю гісторыю існавання літаратары збіраліся ў розных памяшканнях. Пры Ўладзіміру Васько літаратурныя паседжанні праходзілі ў сценах рэдакцыі газеты "Ўперад" (цяпер "Лідская газета"); пры Міхасю Мельніку - у былым педагагічным вучылішчы, у Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы; сёння, а калі быць дакладным, з 2011 года майстры мастацкага слова збіраюцца ў літаратурным аддзеле Лідскага гістарычна-мастацкага музея, больш вядомым нам, як домік Валянціна Таўлая[18].

*- Ці ёсць у літаратурнага аб'яднання пэўныя мэты і задачы?*

- На працягу ўсіх гадоў існавання перад сябрамі літаратурнага аб'яднання "Суквецце" стаіць шэраг задач: павышаць эстэтычны і маральны ўзровень членаў літаратурнага аб'яднання, пашыраць і паглыбляць іх кругагляд; прывіваць маладым прыхільнікам прыгожага пісьменства любоў да мастацкага слова, рускай і беларускай літаратуры, свайго народа, яго мовы і культуры; развіваць у паэтаў-пачаткоўцаў пачуццё прыгожага, эстэтычны густ, выпрацоўваць навыкі правільна і вобразна выказваць свае думкі; развіваць у сяброў літаратурнага аб'яднання творчыя здольнасці, далучаць іх да самастойнай творчай дзейнасці.

*- Як часта праходзяць паседжанні сяброў літаратурнага аб'яднання "Суквецце"?*

- Літаратары збіраюцца кожную трэцюю сераду месяца ў памяшканні літаратурнага аддзела (домік Валянціна Таўлая) ЛГММ.

*- Хто тыя людзі, якія сёння друкуюць свае вершы ў рубрыцы "Суквецце"?*

- Большасць удзельнікаў аб'яднання - гэта вядомыя ў нашым горадзе людзі: Уладзімір Васько, Міхась Мельнік, Алеся Бурак, Ганна Рэлікоўская, Святлана Цішук, Марыя Масла, Іосіф Масян, Іван Гушчынскі, Таццяна Сямёнава і многія іншыя.

Спрабуюць свае сілы ў паэзіі і маладыя паэты. Апошнія гады на старонках "Лідскай газеты" ў рубрыцы "Суквецце. Знаёмцеся" дэбютавалі Ірына Бараздзіна (25.02.2015), Юлія Палякова (29.04.2015), Наталля Анфімава (30.09.2015 г.), Станіслава Белагаловая (30.09.2015 г.), Святлана Сільвановіч (29.06.2016 г.), Анастасія Яловік (31.08.2016 г.), Жанна Сянкевіч (23.11.2016 г.) і іншыя маладыя аўтары.

*- Пра што пішуць сёння лідзяне, чаму прысвячаюць свае вершы?*

- Майстры мастацкага слова прысвячаюць свае вершы роднай зямлі, прыродзе, каханню, памятным падзеям у жыцці беларускага народа і, непасрэдна, горада Ліды, знамянальным датам, родным і блізкім людзям, роднаму гораду. Усё гэта публікуецца на старонках перыядычнага друку, а таксама ў асабістых і калектыўных зборніках.

*- А ці ёсць сярод лідскіх літаратараў тыя, хто з'яўляецца сябрам ГА "Саюза беларускіх пісьменнікаў"?*

- Так, вядома. Сярод нашых землякоў членамі "Саюза беларускіх пісьменнікаў" з'яўляюцца Данута Бічэль, Хрысціна Лялько, Ірына Багдановіч, Уладзімір Клімовіч, Уладзімір Васько, Алесь Стадуб, Станіслаў Суднік, Пётр Макарэвіч (памёр у 2014 г.), сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі Віктар Праўдзін. Колькі гадоў таму назад да літаб'яднання далучыўся знаны празаік, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў Валер Санько.

**Літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" сёння**

З жыццём літаратурнага аб'яднання сёння мы пазнаёміліся, непасрэдна наведаўшы выставу "З мастацкім словам па жыцці" літаратурнага аддзела ЛГММ. Выстава прадстаўлена стэндамі, на якіх сабраны матэрыял толькі аб 23 майстрах мастацкага слова Лідскага раёна. Таксама нашай увазе былі прапанаваны зборнікі паэзіі і прозы, выдадзеныя ў розныя гады лідскімі аўтарамі. *Дадатак 4.*

Мы даведаліся, што за больш чым паўвекавую гісторыю існавання літаратурнага аб'яднання "Суквецце" лідскія пісьменнікі друкаваліся як у мясцовым, так і ў рэспубліканскім друку, але самае галоўнае, што многія майстры слова выдалі свае зборнікі. Толькі за апошнія дзесяцігоддзі выйшла ў свет больш за 50 зборнікаў паэзіі і прозы.

Пазнаёміўшыся з матэрыяламі "Лідскай газеты" і выставай літаратурнага аддзела ЛГММ, мы склалі кніжную паліцу лідскіх літаратараў. Такім чынам, хто ж тыя 19 аўтараў, якія ўвайшлі ў гісторыю літаратурнай Лідчыны не проста як паэты, а ўжо як аўтары зборнікаў альбо кніг. Гэта:

- Ірына Бараздзіна "Из соли, сахара и перца" (2015 г.);

- Віктар Бачароў (1950 - 2004) "Разговор" (1996 г.), "Пора брать" (1998 г.), "Калі адзвінеў званок" (1998 г.), "Дембель неизбежен" (1999 г.), "Стихи из прошлого века" (2001 г.), пасмяротна выйшлі зборнікі "Золотая тёлка, или По следам золотого телёнка" (2006 г.), "Птица из Персидского залива" (2010 г.)[19];

- Алеся Бурак "Прастора дабрыні" (2008 г.);

- Уладзімір Бурак "Дарогі розныя бываюць" (2011 г.);

- Уладзімір Васько "На схілах берагоў" (1997 г.), "Прасветленасць" (1981 г.), "Кругаварот жыцця" (2011 г.), "Лясная рапсодыя" (2013 г.)[20], "Зігзагі лёсу"

---

[18] Мацулевіч, А. "Пасяджэнні літаб'яднання "Суквецце" - па новаму адрасу". / Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 05.05.2011 г., № 49 (12011), - С. 4.

[19] Хітрун, А. "У нашай памяці ён - паэт, настаўнік, аптыміст" (да 65-годдзя з дня нараджэння Віктара Бачарова)/ Хітрун, А.// "Лідская газета", 25.02.2015 г., - С. 17.

[20] Мацулевіч, А. "Лясная рапсодыя" Уладзіміра Васько/ Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 15.08.2013 г., № 91(12351), - С. 4.

(2017 г.);

- Леанід Віннік "Под погасшими звёздами" (1996 г.), "Мелодии печального дождзя" (1997 г.), "Настольгия" (1999 г.), "Откровение" (2000 г., у суаўтарстве з Л. Пырскім);

- Іван Гушчынскі "Ідзі і вяртайся" (2010 г.);

- Уладзімір Дронаў "Моя душа не знает покоя" (2006 г.), "Не зная покоя" (2011 г.)[21];

- Пётр Макарэвіч (1938-2014) "Злітак" (1997 г.), "Расінкі беларускіх слоў", "Птица свободы" (2011 г.) і інш.;

- Алесь Мацулевіч "Леў і ключы" (2015 г.)[22];

- Валерый Мацулевіч "Струны души" (2011 г.)[23], "Чалавек са свечкай" (2014 г.);

- Міхась Мельнік "Скрыжаванне" (1996 г. у суаўтарстве з Пятром Чаборам), "Время и судьбы" (2004 г. у суаўт. з. Л. Віннікам: фотаальбом пра людзей Лідчыны кан. XX - пач. XIX ст.), "Лодка жыцця" (2009 г.)[24];

- Юлія Палякова "Моменты и Монстры" (2016 г.);

- Таццяна Сямёнава "Осенний вальс" (2012 г.)[25], "Позвала судьба в дорогу" (2016 г.);

- Смарагд Сліўко (1931-2006 г.) "Прошчай, двадцатый век" (2001 г.), "От сердца к сердцу" (2006 г.), "Прподлись, мгновение..." (2007 г.), "Радужное сияние" (2012 г.)[26];

- Алесь Стадуб "Твае вочы" (1997 г.), "Вузел" (1998 г.), "Споведзь натхнення" (1999 г.), "Букет настрою" (2000 г.), "Летапіс пачуццяў" (2000 г.), "Водгук ісціны" (2007 г.), "Вандроўка між гадамі" (2009), "Шэпты крыл" (2010 г.), "Скрыжалі" (2012 г.), "Дотык волі" (2013); "Мільянерка" (2014 г.) і інш.;

- Станіслаў Суднік "Пагоня за мову" (1992 г.), "Мой Грунвальд" (1999 г.), "Лідскія скрыжалі" (2008 г.), "Літва" (2011 г.);

- Святлана Цішук "На крылах белай вароны" (1998 г.).

У лідскі перыяд жыцця выйшла з друку некалькі кніг Валера Санько з яго агульных двух дзясяткаў: "Грэх на іх нязмыўны", "Звіняць жаўрукі ў чарнобыльскім небе", "Сучаснае беларускае літаратурнае жыццё" (2015 г.), "Карыды вогненныя іскры" (2016 г.) і інш.

Шмат кніг, выдадзена лідзянамі, якія жывуць за межамі рэгіёна, але гэта тэма іншага даследвання.

Акрамя кніг, асаблівае месца займае яшчэ шэраг зборнікаў паэзіі і прозы, якія таксама папоўнілі кніжную паліцу лідскіх літаратараў. З 1998 па 2015 год выйшлі ў свет 8 літаратурна-мастацкіх зборнікаў "Ад лідскіх муроў". Зборнікі складзены Станіславам Суднікам з дапамогай на розных этапах іншых пісьменнікаў і паэтаў. У іх уключаны творы лідскіх аўтараў, крытыкаў, даследчыкаў літаратуры, кампазітараў. Увайшлі ў зборнікі матэрыялы, што тычыцца літаратурнага жыцця Лідчыны; матэрыялы, апублікаваныя ў розны час або падрыхтаваныя да друку.

У 2008 годзе ў Лідзе выйшла ў свет кніга "Шануйце роднае слова! (Анталогія твораў лідскіх літаратараў пра беларускую мову)", укладзеная Міхасём Мельнікам.

Яшчэ зборнікі паэзіі лідскіх аўтараў, у якія ўвайшлі вершы, прысвечаныя гораду Лідзе, выйшлі ў 2008 г.: "Мой любы горад Ліда" (зборнік паэзіі падрыхтаваны Цэнтральнай раённай бібліятэкай і прысвечаны 685-годдзю г. Ліды, аўтар-складальнік Зенюкевіч Тамара Іосіфаўна); у 2013 г. - "Мой горад - гонар мой" (зборнік вершаў лідскіх аўтараў, прысвечаны 690-годдзю г. Ліды, аўтар-складальнік рэдактар "Лідскай газеты" Кацярына Адамаўна Серафіновіч). У гэтых зборніках паэты Лідчыны выказалі свае найлепшыя пачуцці да роднага краю, сваю любоў і адданасць роднай зямлі, роднаму гораду.

Сёння ў літаратурным аддзеле ЛГММ праходзяць сустрэчы не толькі з майстрамі слова нашага раёна, але і вядомымі беларускімі літаратарамі. Шэраг знамянальных дат, падзей і сустрэч, якія прайшлі ў рамках працы літаратурнага аб'яднання за апошнія час, мы паспрабавалі сабраць у храналагічную табліцу і заўважылі, што з кожным годам колькасць мерапрыемстваў не памяншаецца, а павялічваецца, гэта сведчыць аб тым, што лідскія аўтары вядуць актыўную працу на літаратурнай ніве. *Дадатак 5*.

На літаратурныя сустрэчы да лідзян у розныя гады прыязджалі:

- рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Маладосць" Вікторыя Трэнас ("Лідская газета" ад 05.05.2011 г.) ,

- старшыня Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Людміла Кебіч ("Лідская газета" ад 11.10.2011 г.) ,

- вядомая паэтка Данута Бічэль ("Лідская газета" ад 19.03.2013 г.) ,

- паэтка, член Саюза пісьменнікаў Расіі Ларыса Пастух ("Принеманские вести" ад 25.04.2013 г.),

- галоўны рэдактар часопісаў "Ave Maria" і "Наша вера", паэтка, наша зямлячка Хрысціна Лялько ("Лідская газета" ад 17.09.2013 г.) ,

[21] Хітрун, А. "Вдохновил Пятигорск, а Лида нашла ему место в поэзии" (Владимиру Дронову - 85 лет)/ Хітрун, А.// "Лідская газета", 29.04.2015 г., № 16 (12572), - С. 11.

[22] Яхантава, О. Пад сілу і драматургічны жанр. (Аб зборніку паэзіі "Леў і ключы" А. Мацулевіча) / Яхантава, В.// "Лідская газета", 11.11.2014 г., № 128 (12536), - С. 4.

[23] Хітрун, А. "Юбілей маладога творцы" (Валерыю Мацулевічу - 30)./ Хітрун, А.// "Лідская газета", 03.08.2013 г., № 86 (12346), - С. 4.

[24] Хітрун, А. "У сэрцы нясу, нібы скарб запаветны, праменна-праўдзівыя словы Купалы" (Міхасю Мельніку - 65 год)./ Хітрун, А.// "Лідская газета", 02.09.2015 г., № 68 (12624), - С. 17.

[25] Ковальчук, А. "Пока мы живы, ещё не поздно что-то изменить!"/ Ковальчук, А.// "Принеманские вести", 20.08.2015 г., № 33 (851), -С. 8.

[26] Гушчынскі, І. "Звязаны лёсам"/ Гушчынскі, І. // "Лідская газета", 13.12.2011 г., - С.5.

- майстар дэтэктыўнага жанру, наш зямляк, Віктар Праўдзін ("Лідская газета" ад 27.05.2015 г.) ,

- паэт, наш зямляк, Міхаіл Баранчык і паэтка Лізавета Палеес ("Лідская газета" ад 25.11.2015 г.) ,

- вядомыя пісьменнікі Леанід Дранько-Майсюк і Эдуард Акулін ("Лідская газета" ад 29.06.2016 г.) ...

Не раз наведвалі Лідчыну паэт і літарвтуразнавец Міхась Скобла, Ганна Серэхан (Шаўчэнка), старшыня Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянцін Дубатоўка, гарадзенскія паэты і пісьменнікі: Юрка Голуб, Рычард Бялячыц, Аляксей Пяткевіч, Сяргей Астравец, пісьменнік са Слоніма Сяргей Чыгрын і інш.

За ўсю гісторыю існавання літаратурнага аб'яднання "Суквецце" да сапраўдных майстроў слова мы можам з упэўненасцю аднесці пісьменнікаў старэйшага пакалення. На старонках "Лідскай газеты" апошнія гады ім часта прысвячаюць нататкі і артыкулы. Паэты-юбіляры атрымліваюць не толькі віншаванні, але падзякі ад ўсіх лідзян за свае заслугі і бясспрэчны талент. На старонках "Лідскай газеты" такія артыкулы-падзякі былі апублікаваны ў гонар юбілееў наступных аўтараў: Пятра Макарэвіча (13.04.2013 г.); Марыі Масла (15.09.2012 г.); Уладзіміра Васько (03.01.2012 г., 28.12.2016 г.); Віктара Бачарова (25.02.2015 г.); Уладзіміра Дронава (29.04.2015 г.); Смарагда Сліўко (13.12.2011 г.); Аляксея Сымановіча (29.07.2015 г.); Івана Гушчынскага (ад 05.07.2011 г., 17.08.2016 г.), Леаніда Вінніка (17.08.2016 г.), Алесі Бурак (14.12.2010 г., 23.12.2015 г.), Ірэны Сліўко (27.01.2016 г.), Міхася Мельніка (11.11.2014 г.). *Дадатак 6.*

Некаторыя лідскія аўтары ў нашы дні карыстаюцца асаблівай папулярнасцю і павагай. Так, Уладзімір Васько, дзякуючы свайму майстэрству, зацікавіў чытачоў сваімі кнігамі "Кругаварот жыцця" і "Лясная рапсодыя". У 2008 годзе Ўладзімір Гаўрылавіч уганараваны Дыпломам I ступені за перамогу ў творчым конкурсе, арганізаваным Раённым выканаўчым камітэтам і рэдакцыяй "Лідскай газеты" да 685-годдзя заснавання горада Ліды. Таксама Дыпломамі пераможцаў уганараваны Алеся Бурак і Смарагд Сліўко (пасмяротна).

У кастрычніку 2016 года ў Гародні прайшоў абласны фестываль паэзіі сярод настаўнікаў "Паэзія - рух душы". Прызёрамі конкурсу сталі дзве лідзянкі: Ганна Рэлікоўская ў намінацыі "Любоўная і філасофская лірыка" і Людміла Русь у намінацыі "Радзіма, родны край, прырода".

Значнымі поспехамі  ў працы літаратурнага аб'яднання вызначаецца і краязнаўчая дзейнасць. На паседжаннях абмяркоўваецца гэты важны кірунак. Краязнаўцы і гісторыкі распавядаюць аб сваіх знаходках, даследчых працах.

Выйшлі кнігі пісьменнікаў-краязнаўцаў:

- Міколы Дзікевіча - “Дзітрыкі. Згукі заснуўшай цывілізацыі” (2010 г.); “Сялец. Прынёманская рэчаіснасць” (2010 г.);

- Анастасіі Каладзяжнай - "Этапы жыццёвых дарог" (2014 г.), у якой сабраны матэрыял пра Валянціна Таўлая. Кніга выдадзена да 100-годдзя з дня нараджэння паэта;

- Леаніда Лаўрэша - “Ліда на старых малюнках, паштоўках, фотаздымках” (разам з Уладзімірам Круцікавым, 2001 г.); “Генерал Кіпрыян Кандратовіч” (2007 г.); “Грэка-каталіцкая (ўніяцкая) царква на Лідчыне” (2012 г.); “І зорнае неба над галавой. Нарысы з гісторыі астраноміі” (2013 г.); “Ліда ўчора і сёння. Гісторыя горада ў выявах” (2013 г.); “Вандалін Шукевіч. Беларускі археолаг і краязнаўца” (2014 г.); “Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне” (2016 г.); “Маламажэйкаўская царква: гістарычны нарыс” (2017 г.) і інш.

Пазнаёміўшыся са справаздачамі, прадастаўленымі нам кіраўніком літаратурнага аб'яднання "Суквецце", мы не толькі падлічылі паэтаў, якія за апошнія 5 гадоў друкавалі свае вершы на літаратурных старонках у "Лідскай газеце", але і вывелі свой "рэйтынг папулярнасці": хто часцей за ўсё публікаваўся ў рубрыцы "Суквецце". Першае месца заняў Уладзімір Васько - 37 публікацый вершаў, другое - Валерый Мацулевіч - 27, трэцяе - Алеся Бурак - 18. *Дадаткі 7, 8.*

Таксама мы склалі табліцу "Колькасць публікацый вершаў у рубрыцы "Літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" пры "Лідскай газеце" за 2012-2016.". Як аказалася, штогод у "Лідскай газеце" выходзіла ад 8 да 10 літаратурных старонак, на якіх у год друкавалася ад 84 да 99 вершаў. Усяго за 5 гадоў было надрукавана 445 вершаў: на беларускай мове - 226, рускай мове - 219. *Дадатак 9.*

Жыццё літаратараў Лідчыны пастаянна бруіць. Майстроў паэзіі і прозы запрашаюць на розныя сустрэчы, культурна-масавыя мерапрыемствы. Удзел паэтаў адразу падымае святочны настрой у прысутных. З літаратурным аб'яднаннем супрацоўнічаюць прадстаўнікі рэлігійных канфесій, з задавальненнем запрашаюць майстроў прыгожага пісьменства ў школы, бібліятэкі, музеі.

Толькі ў СШ № 11 г. Ліды штогод праводзяцца сустрэчы з лідскімі майстрамі слова ў рамках прадметных тыдняў рускай і беларускай мовы і літаратуры. У госці да нас прыходзілі Алесь Хітрун, Ганна Рэлікоўская, Сяргей Чарняк, Ірына Бараздзіна, Іван Гушчынскі, Уладзімір Васько, Іосіф Масян, Уладзімір Дронаў, Святлана Пыпець, Пётр Макарэвіч, Міхась Мельнік, Валерый Мацулевіч, Станіслаў Суднік.

У 2016 годзе на сустрэчу да навучэнцаў прыйшлі Алесь Хітрун, Ганна Рэлікоўская, Сяргей Чарняк; у 2015 г. прайшла прэзентацыя кнігі Ірыны Бараздзіной "Из соли, сахара и перца"; у 2014 г. выступалі Іван Гушчынскі, Уладзімір Васько, Алесь Хітрун, Ганна Рэлікоўская, Іосіф Масян; у 2013 г. - Уладзімір Дронаў, Святлана Пыпець, Пётр Несцер; у 2012 г. - Міхась Мельнік, Сяргей Чарняк, Валерый Мацулевіч, Ганна Рэлікоўская, Станіслаў Суднік; у 2011 г. - Пётр Макарэвіч, Сяргей Чарняк. *Дадатак 10.*

У 2014 годзе ў Лідзе ўпершыню прайшоў конкурс майстроў мастацкага слова імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям". Пераможцамі конкурсу сталі Ўладзімір Васько і Станіслаў Суднік. Ірэна Сліўко

ўзнагароджана спецыяльным дыпломам за папулярызацыю творчасці Смарагда Сліўко. Астатнія 6 удзельнікаў конкурсу былі ўзнагароджаны дыпломамі за ўдзел. Усяго прынялі ўдзел 9 аўтараў.

У 2015 годзе артыкул аб літаратурным аб'яднанні "Суквецце" трапіў на старонкі энцыклапедыі "Рэгіёны Беларусі. Гродзенская вобласць". *Дадатак 11.*

У 2016 годзе літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям" прайшоў другі раз. Мы наведалі гэтае мерапрыемства і сталі яго сведкамі. Усяго ў конкурсе прынялі ўдзел 27 аўтараў.

Па рашэнні журы прэміяй III ступені быў узнагароджаны Ўладзімір Васько, які даслаў на конкурс фантастычнае апавяданне "На залатой планеце", прэміяй II ступені - Ганна Рэлікоўская (вершы на школьную тэматыку), прэміяй I ступені - Святлана Цішук (вершы і п'еса "Каток-футбаліст"). Вельмі ўразіла і здзівіла нас тое, што адразу мы змаглі ўбачыць такую колькасць пісьменнікаў Лідскага краю. Усе яны зусім розныя: не проста маладыя людзі і людзі ва ўзросце, а розныя па інтарэсах і сферы дзейнасці: настаўнікі, урачы, інжынеры, рабочыя, прадпрымальнікі, прадаўцы, бухгалтары, аграномы, пенсіянеры. І аб'ядноўвае іх адно - гэта любоў да слова.

Аб тым, што нашы майстры мастацкага слова - людзі неардынарныя і незвычайна таленавітыя, доказвае яшчэ адзін факт. Пазнаёміўшыся з тэматыкай вершаў, апублікаваных у рубрыцы "Суквецце" і паэтычных зборніках, мы заўважылі чатыры вершы Алесі Бурак, па аднаму вершу Уладзіміра Васько і Аляксандра Мацулевіча, прысвечаныя паэтам Лідчыны і літаратурнаму аб'яднанню "Суквецце". У іх вобразна і дакладна перададзены і характар літаратараў, і талент кожнага, і заслугі, і значэнне для нас, чытачоў, і ўсёй літаратурнай Лідчыны ў цэлым. *Дадатак 12.*

Асаблівую ўвагу ў нашым даследаванні мы хочам звярнуць на спіс выкарыстаных крыніц. У ім мы сабралі максімальную колькасць артыкулаў раённых перыядычных выданняў, у якіх ідзе гаворка аб дзейнасці лідскіх літаратараў. Гэта таксама своеасаблівы дадатак да працы. Калі пазнаёміцца з кожным артыкулам, то можна дакладна даведацца аб літаратурнай Лідчыне: яе гісторыі, людзях, дасягненнях...

**Завяршэнне**

Пазнаёміўшыся з матэрыяламі "Лідскай газеты", на старонках якой заўсёды друкуюцца вершы майстроў мастацкага слова нашага раёна, наведаўшы выставу літаратурнага аддзела ЛГММ "З мастацкім словам па жыцці", асабіста сустрэўшыся з нашымі паэтамі, мы з упэўненасцю сцвярджаем: у літаратурным жыцці горада важнае месца займае літаратурнае аб'яднанне "Суквецце", створанае больш за 50 гадоў таму назад пры рэдакцыі "Лідскай газеты".

У недалёкім мінулым па горадзе плыла паэзія Віктара Бачарова, Леаніда Вінніка, Смарагда Сліўко, Пятра Макарэвіча. Сёння трывала ўвайшлі ў свет паэзіі і больш маладыя паэты Лідчыны: Аляксандр і Валерый Мацулевічы, Аляксей Сымановіч, Алесь Хітрун, Ганна Рэлікоўская і многія іншыя. На словы лідскіх паэтаў напісана немалая колькасць песень, некаторыя з іх нават з'яўляюцца візітнай карткай нашага горада.

Амаль у кожным выпуску літаратурнай старонкі з'яўляюцца новыя імёны. А колькі таленавітых літаратараў яшчэ не заявілі пра сябе? Колькі новых імёнаў прыйдуць на змену старэйшаму пакаленню? Хочацца даць невялікую параду тым, хто яшчэ толькі плануе звязаць сваё жыццё з літаратурай або толькі пачынае пісаць: не прапусціце час, пазнаёмцеся з пісьменнікамі старэйшага пакалення. Сёння яны - сапраўдныя майстры мастацкага слова. Яны могуць даць вам свае парады, дапамагчы настроіцца на лірычную хвалю кожнаму, яны чакаюць сустрэч з паэтамі-пачаткоўцамі.

Гіпотэза нашага даследавання даказана: літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" - гэта культурны цэнтр Лідскага краю, які аб'ядноўвае людзей творчых, духоўна багатых, гатовых да здзяйснення самых цікавых задумак і ідэй.

Практычнае значэнне даследавання заключаецца ў тым, што яно можа быць выкарыстана пры вывучэнні літаратурнага краязнаўства Лідчыны, на пазакласных занятках па літаратуры, для правядзення літаратурных вечарын, экскурсій у гісторыю літаратуры нашай малой Радзімы.

**Спіс выкарыстаных крыніц:**

1. Анашкевіч, Н. Литературная гостиная "Не проходите мимо". / Анашкевіч, Н.// "Лідская газета", № 92 (12648), 25.11.2015 г., - С. 11.

2. Арэхва, Я. Пад ветразямі творчасці (М. Мельнік "Лодка жыцця"). / Арэхва, Я.// "Лідская газета", 05.09.2009 г., № 101 (11772), - С. 2.

3. Бальцэвіч, Т. "Лідчына літаратурная"./ Бальцэвіч, Т.//"Лідская газета", 07.07.2012 г., №75 (12187), - С. 5.

4. Бічэль-Загнетава, Д. Зерне адборнае слоў. (Да 70-годдзя Уладзіміра Васько). /Бічэль-Загнетава, Д. // "Лідскі летапісец", № 1 (37), студзень-сакавік 2007 г., - С. 91-94.

5. Бурак, А. "…Чытачы чакаюць кнігу"./ Бурак, А.// "Лідская газета", 18.08.2009 г., № 93 (12208), - С.4.

6. Васько, У. "…Каб праўдай дыхалі радкі" (Пятру Макарэвічу - 70 гадоў). / Васько, У.// "Лідскі летапісец", № 2 (42), красавік - чэрвень 2008 г., - С. 82-88.

7. Васько, У. "Переезд у Ліду. Паэты лідчыны " (з кнігі ўспамінаў "Зігзагі лёсу"). / Васько, У.// "Лідская газета", 17.06.2014 г., - С. 4.

8.Васько, У. "А за лугам гармонік грае песню даўніх шчаслівых трывог…" (З нагоды юбілею Івана Гушчынскага). /Васько,У.// "Лідская газета", 05.07.2011 г., № 74 (12036), - С. 5.

9.Васько, У. "Падводзіць вынікі мне рана…" (Уладзіміру Васько - 75 гадоў). / Васько, У.// "Лідская газета", 03.01.2012 г., № 1 (12113), - С.5.

10. Васько, У. З нагоды юбілею Уладзіміра Бурака. / Васько, У.// "Лідская газета", 07.03.2012 г., № 27 (12139), - С. 3.

11. Васько, У. Алесі Бурак - 85 год. / Васько, У.// "Лідская газета", 23.12.2015 г., № 100 (12656), - С. 14.

12. Гушчынскі, І. "Звязаны лёсам"./ Гушчынскі, І. // "Лідская газета", 13.12.2011 г., - С. 5.

13. Жалкоўскі, А. "… І вершам з бярозавым сокам" (Пятру Макарэвічу - 70). / Жалкоўскі, А. // "Принеманские вести", 17.04.2008 г., - С. 5.

14. Казакевіч, М. "Ніколі, браткі, не забуду, што чалавек я, хоць мужык"./ Казакевіч, М.// "Лідская газета", 29.11.2011 г., № 136 (12098), - С. 3.

15. Ковальчук, А. "Пока мы живы, ещё не поздно что-то изменить!"/ Ковальчук, А.// "Принеманские вести", 20.08.2015 г., № 33 (851), - С. 8.

16. Макарэвіч, П. Паэт Смарагд Сліўко. Да 75-годдзя з дня нараджэння. / Макарэвіч П.// "Лідскі летапісец", № 4 (36), кастрычнік - снежань 2006 г., - С. 51- 52.

17. Макарэвіч, П. "Галоўнае ў паэзіі - сэрца"./ Макарэвіч, П.// "Принеманские вести", 25.04.2013 г., № 17 (730), - С. 6.

18. Мацулевіч, А. "Паэт, настаўнік, беларус". Міхасю Мельніку - 60. / Мацулевіч, А.// "Лідскі летапісец", № 3-4 (47 - 48), ліпень - снежань 2009 г., - С. 31-35.

19. Мацулевіч, А. "Будуць у нас і "суквеццеўскія" святы". / Мацулевіч, А. // "Лідская газета", 04.09.2012 г., № 100 (12212), - С. 5.

20. Мацулевіч, А. "Юбілейны год для лідскага "Суквецця". / Мацулевіч, А. // "Лідская газета", 01.02.2017 г., № 8 (12767), - С. 19.

21. Мацулевіч, А. "Пасяджэнні літаб'яднання "Суквецце" - па новаму адрасу". / Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 05.05.2011 г., № 49 (12011), - С. 4.

22. Мацулевіч, А. "Гучалі вершы мясцовых творцаў". / Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 17.09.2013 г., № 105 (12365), - С. 4.

23. Мацулевіч, А. Літаратурныя сустрэчы. Данута Бічэль: "У снах я жыву ў родных Біскупцах". / Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 19.03.2013 г., № 30 (12290), - С. 4.

24. Мацулевіч, А. "Лідчына - край паэтычны". / Мацулевіч, А.//"Лідская газета", 11.10.2011 г., № 116 (12078), - С. 4.

25. Мацулевіч, А. "Лясная рапсодыя" Ўладзіміра Васько./ Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 15.08.2013 г., № 91 (12351), - С. 4.

26. Мацулевіч, А. "Данута Бічэль: "Я ў снах бываю ў родных Біскупцах". / Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 19.03.2013 г., № 30 (12290), - С. 4.

27. Мацулевіч, В. "Творить - вот сущность человека". / Мацулевіч, В.// "Лідская газета", 29.07.2015 г., № 58 (12614), - С. 5.

28. Мацулевіч, А. "У гасцях у Цёткі". / Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 20.07. 2016 г., № 56 (12713), - С. 8.

29. Мацулевіч, А. "Светлые "Моменты" и мрачные "Монстры" Юлии Поляковой". / Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 03.05.2016 г., № 37 (12694), - С. 11.

30. Мацулевіч, А. "Прэзентацыя кнігі пра Ліду (да 690-годдзя)". / Мацулевіч, А.// "Наша слова", 18.09.2013 г., № 38 (1137), - С. 4.

31. Мацулевіч, А. Звучали стихи и молитвы. / Мацулевіч, А.// "Лідская газета", 03.10.2013 г., № 112 (12372), - С. 3.

32. Мацулевіч, А. "Лідскай газеце - 75" / Мацулевіч, А. // "Лідскі летапісец", № 3 (67), 2014 г. - С. 5-6.

33. Мацулевіч, А. "Талантливый педагог и не менее талантливая поэтесса. Ирина Бороздина"./ Мацулевіч, А. // "Лідская газета", № 54 (12610), 15.07.2015 г., - С. 17.

34. Мацулевіч, А. "Сваёй малой радзімай майстар дэтэктыва лічыць Лідчыну"/ Мацулевіч, А. // "Лідская гезета", 27.05.2015 г., № 41 (12597), - С.8.

35. Мацулевіч, А. "Встреча с городом детства"/ Мацулевіч, А. // "Лідская газета", 25.11.2015 г., № 92 (12648), - С.11.

36. Мельнік, М. 50 гадоў сваіх не прычакаў. Леанід Віннік. / Мельнік, М.// "Лідскі летапісец", № 2 (34), красавік - чэрвень 2006 г., - С. 14.

37. Мельнік, М. "Счастлив я, что его застал и стихи заучил до корки". Мельнік, М.// "Лідская газета", 16.02.2010 г., - С. 6.

38. Міхайлаў, А. Майстры слова ў гасцях у вартавых граніцы. / Міхайлаў, А. // "Лідская газета", 27.07.2016 г., № 58 (12715), - С. 17.

39. Никоненко, О. Быть поэтом: как это? (интервью с Алексеем Сымановичем) / Никоненко, О. // "Принеманские вести", 20.03.2014 г., № 12 (777), - С. 6.

40. Петрулевич, Л. "Дом для литераторов". / Петрулевич, Л.// "Лідская газета", 24.06.2010 г., № 69 (11887), - С. 2.

41. Рамановіч, А. Дабразычлівыя парады майстроў слова (Літаратурныя сустрэчы Уладзіміра Васько). / Рамановіч, А. // "Лідская газета", 19.07.2014 г., № 80 (12488), - С. 4.

42. Сліўкін, В., Зенюкевіч, Т. Літаратурная Лідчына. / Сліўкін, В., Зенюкевіч, Т. //"Лідскі летапісец", № 4 (16), студзень - сакавік 2001 г., - С. 19 - 29.

43. Содаль, У. "…Сем раз Ліду ён наведаў" / Содаль, У. // "Лідская газета", 13.12.2008 г., - С. 2.

44. Субач, А. Багаты россып на выдавецкай ніве. / Субач, А. // "Лідская газета", 05.09.2009 г., № 101 (11772), - С. 2.

45. Суднік, С. 80 гадоў Алесю Стадубу. / Суднік, С. // "Лідскі летапісец", № 2 (54), красавік - чэрвень 2011 г., - С. 51 - 56.

46. Суднік, С. Уладзіміру Васько -75. / Суднік, С. // "Лідскі летапісец", № 1 (57), студзень - сакавік 2011 г., - С. 15.

47. Суднік, С. Смарагд Фёдаравіч Сліўко. 80 гадоў з дня нараджэння. / Суднік, С. // "Лідскі летапісец", № 4 (56), кастрычнік - снежань 2014 г., - С.11.

48. Суднік, С. Пятро Макарэвіч. 75 гадоў з дня нараджэння. / Суднік, С.// "Лідскі летапісец", № 4 (52), кастрычнік-снежань 2010 г., - С. 13-15.

49. Суднік, С. Суднік Станіслаў Вацлававіч. Аўтабіяграфія. /Суднік, С. // "Лідскі летапісец", № 3 - 4 (27 - 28) ліпень - снежань 2004 г., - С. 17.

50. Суднік, С. Мельнік Міхась Іванавіч. Біяграфія. / Суднік, С. // "Лідскі летапісец", № 3 - 4 (27 - 28) ліпень - снежань 2004 г., - С. 17.

51. Хітрун, А. "Бірута песні тут збірала, а Колас нам вершы чытаў"./ Хітрун, А.// "Лідская газета", 11.09.2008 г., - С. 4.

52. Хітрун, А. "Адметны талент. Марыі Масла - 55 гадоў"./ Хітрун, А.// "Лідская газета", 15.09.2012 г., № 105 (12217), - С. 4.

53. Хітрун, А. "З юбілеем. Пятру Макарэвічу - 75!"./ Хітрун, А.// "Лідская газета", 13.04.2013 г., № 41 (12301), - С. 4.

54. Хітрун, А. "Ёсць паэзія, а ёсць рыфмацтва, або Што парой выяўляе агляд мастацкіх твораў"./ Хітрун, А. // "Лідская газета", 11.01.2014 г., № 3 (12411), - С. 5.

55. Хітрун, А. "У нашай памяці ён - паэт, настаўнік, аптыміст" (да 65-годдзя з дня нараджэння Віктара Бачарова)./ Хітрун, А.// "Лідская газета", 25.02.2015 г., - С. 17.

56. Хітрун, А. "Вдохновил Пятигорск, а Лида нашла ему место в поэзии" (Владимиру Дронову - 85 лет). / Хітрун, А.// "Лідская газета", 29.04.2015 г., № 16 (12572), - С. 11.

57. Хітрун, А. "Творчасць членаў літаратурнага аб'яднання пад кіраўніцтвам Алеся Хітруна пры рэдакцыі "Лідская газеты". / Хітрун, А.// "Лідская газета", 21.12.2016 г., № 99 (12756), - С. 19.

58. Хітрун, А. "Творчасць членаў літаратурнага аб'яднання пад кіраўніцтвам Алеся Хітруна пры рэдакцыі "Лідская газеты". / Хітрун, А.// "Лідская газета", 29.06.2016 г., № 50 (12707), - С. 11.

59. Хітрун, А. "Юбілей маладога творцы" (Валерыю Мацулевічу - 30). / Хітрун, А.// "Лідская газета", 03.08.2013 г., № 86 (12346), - С. 4.

60. Хітрун, А. Сябе ў паэзіі не люблю, а люблю паэзію ў сабе. Ірыне Бараздзіной - 60 год. / Хітрун, А. // "Лідская газета", № 16 (12572), 25.02.2015 г., - С. 17.

61. Хітрун, А. "Знакомьтесь: Анфимова Наталья Анатольевна". / Хітрун, А.// "Лідская газета", 30.06.2015 г. - С. 11.

62. Хітрун, А. "Знакомьтесь: Юлия Полякова". / Хітрун, А. // "Лідская газета", 29.04.2015 г., - С. 11.

63. Хітрун, А. "Знакомьтесь: Белоголовая Станислава Ивановна". / Хітрун, А.// "Лідская газета", 30.06.2015 г., - С. 11.

64. Хітрун, А. "Знаёмцеся: маладыя паэты Лідчыны" Анастасія Яловік. / Хітрун, А. // "Лідская газета", 31.08.2016 г., № 68 (12725), - С. 11.

65. Хітрун, А. Знаёмцеся: Святлана Сільвановіч. / Хітрун, А. // "Лідская газета", 23.11.2016 г., - С. 11.

66. Хітрун, А. Знаёмцеся: Жанна Сянкевіч "Мая творчасць - гэта голас маёй душы". / Хітрун, А.// "Лідская газета", 31.08.2016 г., № 68 (12725), - С. 11.

67. Хітрун, А. "Прывітанне табе, горад Ліда" (60 год з дня нараджэння Леаніда Вінніка). / Хітрун, А.// "Лідская газета", 17.08.2016 г., № 64 (12721), - С. 11.

68. Хітрун, А. "Івану Гушчынскаму - 65 год". / Хітрун, А. // "Лідская газета", 17.08.2016 г., № 64 (12721), - С. 11.

69. Хітрун, А. "Вершы сяброў пра нашу Ліду"./ Хітрун, А. // "Лідская газета", 02.09.2015 г., № 68 (12624), - С. 17.

70. Хітрун, А. "У сэрцы нясу нібы скарб запаветны, праменна-праўдзівыя словы Купалы" (Міхасю Мельніку - 65 год)./ Хітрун, А. // "Лідская газета", 02.09.2015 г., № 68 (12624), - С. 17.

71. Хітрун, А. "Уладзіміру Васько - 80 гадоў"./ Хітрун, А. // "Лідская газета", 28.12.2016 г., № 68 (12624), - С. 11.

72. Хітрун, А. "Уладзіміру Васько - 75 гадоў"./ Хітрун, А.// " Лідская газета ", 03.01.2011 г., № 1 (12113), - С. 5.

73. Хітрун, А. "Алесі Бурак - 80 гадоў. / Хітрун, А. // "Лідская газета", 14.12.2010 г., № 140 (11956), - С. 5.

74. Хітрун, А. Лідчына літаратурная. Апавядаю пра "Лясную рапсодыю" і яе аўтара./ Хітрун, А.// "Лідская газета", 04.01.2014 г., № 1 (12409), - С. 6.

75. Хітрун, А. Ірэне Сліўко - 75 год. / Хітрун, А.// "Лідская газета", 27.01.2016 г., № 7 (12664), - С. 11.

76. Хітрун, А. "Заўсёды сэрца поўніцца тым, што вечна помніцца" Алесі Бурак - 80. / Хітрун, А. // "Лідскі летапісец", № 4 (52), кастрычнік - снежань 2010 г., - С. 54-62.

77. Хітрун, А. Бачароў Віктар Мітрафанавіч. 60 гадоў з дня нараджэння. / Хітрун, А.//"Лідскі летапісец", № 1 (49), студзень - сакавік 2010 г., - С.60 - 67.

78. Цішук, С. Святлана Цішук. 75 гадоў з дня нараджэння. / Цішук, С. // "Лідскі летапісец", № 2 (62), красавік - чэрвень 2013 г., - С. 16 - 18.

79. Хітрун, А. "Для мяне паэзія - свята, а ў гэтым свяце шмат маіх сяброў". Івану Гушчынскаму - 60 год. / Хітрун, А. // "Лідскі летапісец", № 3 (55), ліпень-верасень 2011 г., - С. 54-59.

80. Энцыклапедыя "Рэгіёны Беларусі". У 7 Т., Т.4. Гродзенская вобласць у 2 кнігах, Кн. 2., Мн., Выд. "Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі", 2015 г., - С. 39.

81. Яхантава, О. Пад сілу і драматургічны жанр. (Аб зборніку паэзіі "Леў і ключы" Аляксандра Мацулевіча) / Яхантава, В.// "Лідская газета", 11.11.2014 г., № 128 (12536), - С. 4.

82. http://old.zviazda.by/ru/pril/article.php?id=110662/ Дата доступу: 25.02.2017 г.

83. https://ru.wikipedia.org/wiki/Корбан,_Владимир_Иванович/ Дата доступу: 25.02. 2017 г.

84. http://tv-lida.by/regnews/5530-lidu-posetil-izvestnyy-belorusskiy-prozaik-viktor-pravdin.html/ Дата доступу: 25.02.2017 г.

***Наталля Мікалаеўна Анашкевіч,***
***настаўніца рускай мовы і літаратуры.***

*Дадатак 1.*



***Сустрэча вучняў СШ № 11 г. Ліды з кіраўніком літаратурнага аб'яднання "Суквецце" падчас экскурсіі "З мастацкім словам па жыцці"***

*Дадатак 2.*

**Артыкулы мясцовых выданняў "Сцяг працы", "Уперад", "Лідскі летапісец", дзе ўпершыню згадваецца аб літаратурным аб'яднанні паэтаў Лідскага краю**

Дзелянкоўскі (Дубровін) Мікалай Іванавіч – нарадзіўся 02.02.1932 года ў мястэчку Скідзель. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ (1952-57). Працаваў у лідскай газеце "Уперад" (1957-1962), кіраваў літаратурным аб'яднаннем. Пазней карэспандэнт газеты "Мінская праўда" (1962-73), БелТА (1973-77), адказны сакратар рэдакцыі часопісаў "Родная прырода" (1977-83) і "Беларуская мінуўшчына" (1993-94), намеснік рэдактара газеты "Рэклама-плюс" (1994-95) і "Беларускай лясной газеты" (1995-97). Член Беларускага Саюза журналістаў (1960), сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1995).



Мікалай Дзелянкоўскі

Друкаваўся ў 1949 года. Выдаў кнігі: "**Стваральнікі**" (1957), "**Нясвіж**" (1979), "**Стоўбцы**" (1981, у сааўт.), "**Родная краса**" (1981), "**Прыгажосць неба**" (1984), "**Бацькоўскі парог**" (1985), "**Скідзель**" (1987), "**Сяброўствы. Знаёмствы. Сустрэчы**" (1992). Аўтар сцэнараў тэлефільмаў і п'ес.

***"Лідскі летапісец", № 4 (16), 2001 г. - С. 23***



## У літаратурным аб'яднанні

У нядзелю ў рэдакцыі газеты «Сцяг працы» сабраліся пачынаючыя літаратары Лідчыны на сход раённага літаратурнага аб'яднання. У госці да мясцовых аўтараў прыйшлі вядомы беларускі пісьменнік Янка Брыль, маладыя паэты Уладзімір Караткевіч і Рыгор Барадулін, журналіст, супрацоўнік «Сельской газеты» Якаў Міско.

Супрацоўнік рэдакцыі М. Васілеўскі расказаў аб мінулай рабоце літаратурнага аб'яднання, зрабіў агляд твораў, змешчаных у апошні час на старонках газеты «Сцяг працы». З разборам вершаў мясцовых аўтараў выступіў супрацоўнік р[...] В. Кучынскі.

Потым прачыталі свае [...] настаўнік Іван Івашэвіч, [...] шклозавода «Нёман» [...] Маціеўскі, інструктар ГК [...] талля Гарбачова, служа[...] лай Маторын.

Цікавымі і карыснымі [...] заўвагі, парады, пажада[...] шых гасцей. На сходзе вы[...] Я. Брыль і Р. Барадулін.

Выбрана бюро літар[...] аб'яднання ў складзе [...] век: М. Васілеўскі (ста[...] І. Івашэвіч, В. Кучынскі, [...] торын, П. Ясінскі.

***Артыкул з газеты "Сцяг працы", 11.02.1964 г., № 18, - С. 4***



## ДА ЎВАГІ ЧЛЕНАЎ ЛІТАРАТУРНАГА АБ'ЯДНАННЯ

21 сакавіка склікаецца сход членаў літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі газеты «Сцяг працы». Пачатак — у 13 гадзін у рэдакцыі. Будуць абмяркоўвацца вершы паэта Мікалая Маторына.

На сход запрашаюцца ўсе мясцовыя аўтары (хто піша вершы, байкі, апавяданні, нарысы, гумарэскі і г. д.). Пажадана, каб прыбыўшыя на сход прынеслі свае творы.

Бюро літаб'яднання.

***Артыкул з газеты "Сцяг працы", 19.03.1964 г., № 34, - С. 4***



## СХОД ЛІТАРАТУРНАГА АБ'ЯДНАННЯ

Нядаўна адбыўся сход літаратурнага аб'яднання пры газеце «Уперад». Прысутныя абмеркавалі вершы пачынаючых аўтараў А. Топаля, Д. Сайко, С. Кішко і другіх. У абмеркаванні прынялі актыўны ўдзел і прапанавалі карысныя заўвагі настаўніца А. Бурак, пенсіянерка А. Жванская, мастак М. Марозаў, навучэнцы С. Кішко, А. Макарэвіч, Г. Адамсон і другія. Размова атрымалася шчырая і цікавая. Члены аб'яднання выказалі свае меркаванні па стылю, сюжэту, ідэйнаму зместу, выкарыстанню вобразаў у літаратурных творах. Лепшыя вершы, апавяданні былі адабраны літаб'яднаннем для чарговай «Літаратурнай старонкі».

На сходзе вялася размова аб удзеле мясцовых літаратараў у падрыхтоўцы да 50-годдзя Савецкай улады. Выступаючыя гаварылі, што мала твораў наступіла на конкурс, які аб'яўлен газетай «Уперад».

Адначасова былі вырашаны арганізацыйныя пытанні. Старшынёй літаратурнага аб'яднання пры газеце выбран адказны сакратар рэдакцыі В. М. Кучынскі.

***"Уперад", 03.06.1967 г.***



УПЕРАД

РЭДАКЦЫЯ

22

Бурак

***Запрашэнне***
***(з хатняга архіва Алесі Бурак):***
***"Рэдакцыя запрашае Вас на сход літаратурнага аб'яднання пры газеце "Уперад", якое адбудзецца ў 19.00 25 мая ў памяшканні рэдакцыі".***
***Дата 22.05.1967 г.***

*Дадатак 4*

**Зборнікі паэзіі і прозы лідскіх аўтараў**















*Дадатак 5*

## Адметныя падзеі літаратурнага жыцця на Лідчыне
## Храналагічная табліца

**Адбыліся мерапрыемствы з удзелам літаратараў**:

**2008 год**

09.2008 г. - прэзентацыя зборніка паэзіі "Мой любы горад Ліда"(укладальнік Зенюкевіч Тамара Іосіфаўна, бібліятэкар ЦРБ імя Я. Купалы) і падвядзенне вынікаў літаратурнага конкурсу, прысвечанага 685-годдзю горада Ліды. Пераможцамі сталі Ўладзімір Васько, Іосіф Масян, Алеся Бурак, Смарагд Сліўко (пасмяротна).

**2009 год**

22.04.2009 г. - у актавай зале Лідскага каледжа сустрэча з віцебскім пісьменнікам і перакладчыкам Арцёмам Арашонкам.

15.09.2009 г. - у Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы сустрэча з Міхасём Скоблам і Крысцінай Лялько.

15.09. 2009 г. - сустрэчы ў Ёдкаўскай і Першамайскай школах з Міхасём Скоблам і Крысцінай Лялько.

30.09.2009 г. - у Лідскай цэнтральнай бібліятэцы

прэзентацыя кнігі Міхася Мельніка “Лодка жыцця”.

07.11.2009 г. - 60 гадоў адзначыў кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Суквецце" М. Мельнік.

18.11.2009 г. - у Лідскай цэнтральнай бібліятэцы прэзентацыя кнігі Сяргея Астраўца “каты Ёзафа Ратцынгера”;.

28.11.2009 г. - літаратурная сустрэча лідскіх паэтаў у Дварцы Дзятлаўскага раёна;

2.12.2009 г. - у актавай зале Лідскага каледжа па Савецкай літаратурна-музычная сустрэча з Эдуардам Акуліным і Леанідам Дранько-Майсюком.

2.12.2009 г. - літаратурна-музычная сустрэча з Эдуардам Акуліным і Леанідам Дранько-Майсюком у Крупаўскай школе;

9.12.2009 г. - літаратурная сустрэча ў 11-й школе.

16.12.2009 г. - літаратурная сустрэча паэта Кірыла Сыцько і барда Сяржук Чарняка ў Дзітвянскай школе.

16.12.2009 г. - 80 гадоў з дня нараджэння Смарагда Сліўко (1931-2006).

**2010 год**

20.01.2010 г. - прэзентацыя часопіса “Верасень” на Лідчыне. Удзел бралі Эдуард Акулін і Леанід Дра-нько-Майсюк. Імпрэзы прайшлі ў Мінойтаўскай сярэдняй школе, у СШ № 16 г. Ліды і ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы.

21.01.2010 г. - сустрэча з пісьменнікам У. Арловым і бардам З. Бартосікам у Бярозаўцы.

8.09.2010 г. - у Лідскай бібліятэцы імпрэза да 100-годдзя з дня нараджэння Ларысы Геніюш з удзелам Міхася Скоблы.

22.09.2010 г. - адкрыццё Літаратурнага аддзела Лідскага гістарычна-мастацкага музея (вул. Замкавая, 7).

22.09.2010 г. - у Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы прэзентацыя аповесці (3-й) Алеся Нічыпара “Цмокава скура” і кнігі вершаў Івана Гушчынскага “Ідзі і вяртайся”.

17.11.2010 г. - прэзентацыя зборніка паэзіі Алеся Стадуба "Шэпты крыл".

2411.2010 г. - літаратурная сустрэча да 80-х угодкаў Уладзіміра Караткевіча ў в. Ходараўцы Лідскага раёна.

27.11.2010 г. - малой зале Лідскага палаца культуры прэзентацыя зборніка песень на вершы Рычарда Грушы “Беларуская зорка”.

17.12.2010 г. - 80 гадоў адзначыла найстарэйшая паэтка Лідчыны Алеся Бурак.

**2011 год**

16.03.2011 г. - першы сход літаратурнага аб'яднання "Суквецце" ў літаратурным аддзеле ЛГММ, домік Валянціна Таўлая (вул. Замкавая, 7)

14.04.2011 г. - не стала таленавітага журналіста Аляксандра Жалкоўскага, сябра ўсіх літаратараў Лідчыны старэйшага пакалення. У літаратурным аддзеле ЛГММ яму прысвечаны асобны стэнд.

20.04.2011 г. - прэзентацыя кнігі Ўладзіміра Дронава "Не зная покоя".

18.05.2011 г. - прэзентацыя кнігі Ўладзіміра Васько "Кругаварот жыцця".

28.05.2011 г. - імпрэза “Хай радасць з вачэй вашых блісне. Песні філаматаў і філарэтаў” у Лідскім гістарычна-мастацкім музеі.

15.06.2011 г. - прэзентацыя кнігі Валерыя Мацулевіча "Струны души".

15.07.2011 г. - прэзентацыя кнігі Станіслава Судніка "Літва".

05.08.2011 г. - музей наведала дачка Валянціна Таўлая - Галінка.

17.08.2011 г. - прэзентацыя кнігі Ўл. Бурака "Дарогі розныя бываюць".

30.11.2011 г. - літаратурныя сустрэчы з Эдуардам Акуліным і Леанідам Дранько-Майсюком у Ганчарскай СШ і Лідскім каледжы.

17.12.2011 г.- канцэрты паводле песень філаматаў у Крупаўскай школе і Доміку Таўлая.

**2012 год**

22.02. 2012г. - сустрэча з Ірынай Багдановіч у доміку Таўлая.

14.03.20012 г. - сустрэча з чытачамі, прысвечаная 65-годдзю Раісы Баравіковай.

18.03.2012 г. - імпрэза да Сусветнага дня паэзіі ў Лідскім памежным атрадзе з удзелам паэта Станіслава Судніка.

22.03.2012 г. - сустрэча ў Доме афіцэраў з прыхільнікамі духоўнай кнігі.

26.04.2012 г. - прэзентацыя кнігі Тацціны Сямёнавай "Осенний вальс".

04.05.2012 г. - адкрыццё выставы, прысвечанай А. Жалкоўскаму ў доміку Таўлая.

5.05.2012 г. - канцэрт па песнях філаматаў у Беліцкай СШ.

16.05.2012 г. - у Лідскім музеі прэзентацыя кнігі Леаніда Лаўрэша “Грэка-каталіцкая (ўніяцкая) царква на Лідчыне”.

17.08.2012 г. - 30 гадоў кіраўніку літаратурнага аб'яднання "Суквецце" Алесю Хітруну.

16.09.2012 г. - 55 гадоў адзначыла Марыя Масла.

24.10.2012 г. - імпрэза ў Лідскім каледжы да 100-годдзя з дня нараджэння Пятра Бітэля;

2.11.2012 г. - тры сустрэчы (у Лідскім каледжы, у клубе “Актыўнае даўгалецце” і ў Цэнтральнай бібліятэцы) з віцебскай паэткай Ірынай Лобан (Груманздь).

22.12.2012 г. - прэзентацыя кнігі (пасмяротна) Смарагда Сліўко "Радужное сияние".

**2013 год**

19.02.2013 г. - выстава "Абуджаная памяць", прысвечаная 15-годдзю часопіса "Лідскі летапісец"

06.03.2013 г. - сустрэча з Данутай Бічэль.

14.03.2013 г. - прэзентацыя зборніка Алесі Бурак "Прастора дабрыні".

14.04.2013 г. - сустрэча з Пастух Л. М.

15.04.2013 г. - 75 гадоў Пятру Макарэвічу.

18.04.2013 г. - выстава "Вясёлка творчасці". Удзельнікі - Марыя Масла, Тацціна Сямёнава, Ганна Рэлікоўская, Алесь Хітрун.

25.07.2013 г. - 20-годдзе са дня ўсталявання помніка Ф. Скарыну ў г. Лідзе "Не згасне слова друкара".

04.08.2013 г. - 30 гадоў адзначыў малады лідскі паэт Валерый Мацулевіч (1983 г.н.).

01.09.2013 г. - прэзентацыя кнігі Ўладзіміра Васько "Лясная рапсодыя".

14.09.2013 г. - прэзентацыя зборніка "Мой горад - гонар мой", прысвечанага 690-годдзю горада Ліды. Укладальнік зборніка - галоўны рэдактар "Лідскай газеты" Кацярына Серафіновіч.

25.09.2013 г. - у Лідзе Еўрапейскі дзень моў з удзелам паэтаў Міхася Скоблы і Лявона Баршчэўскага.

27.09.2013 г. - Вечар духоўнай паэзіі. Мерапрыемства ля крыжоў па вуліцы Касманаўтаў з удзелам С. Судніка, М. Масла, А. Мацулевіча, С. Чарняка, А. Хітруна.

13.11.2013 г. - літаратурныя сустрэчы ў в. Дворышча, Лідскім каледжы і Палацы творчасці дзяцей і моладзі з паэтамі Эдуардам Акуліным і Леанідам Дранько Майсюком;

22.12.2013 г. - адкрыццё выставы ў бібліятэцы-філіяле № 4 "Пан Тадэвуш" да 215-годдзя Адама Міцкевіча.

**2014 год**

29.01.2014 г. - "Краты вершамі пілаваў" - мерапрыемства, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння В. Таўлая.

08.02.2014 г. - 100 гадоў Валянціну Таўлаю, адкрыццё мемарыяльнай дошкі паэту на будынку Літаратурнага аддзела ЛГММ. У Лідскай раённай бібліятэцы прайшла прэзентацыя кнігі Анастасіі Каладяжнай "Этапы жыццёвых дарог". Кніга прысвечана жыццю і дзейнасці В. Таўлая.

9.04.2014 г. - літаратурныя сустрэчы з паэтамі Эдуардам Акуліным і Леанідам Дранько-Майсюком у Мажэйкаве і Лідскай цэнтральнай бібліятэцы.

16.04.2014 г. - прэзентацыя кнігі Валера Санько "Грэх на іх нязмыўны".

15.05.2014 г. -паэтычныя сустрэчы з з паэтамі Эдуардам Акуліным і Леанідам Дранько-Майсюком у Ходараўцах і Бярозаўцы.

16.05.2014 г. - вечарына ў Лідскай раённай бібліятэцы, прысвечаная памяці Рыгора Барадуліна з удзелам Зміцера Бартосіка.

6.06.2014 г. - у Доміку Таўлая прэзентацыя кнігі Леаніда Лаўрэша "Ліда ўчора і сёння. Гісторыя горада ў выявах".

20.062014 г. - у Цэнтральнай раённай бібліятэцы імпрэза, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння Васіля Быкава.

29.06.2014 г. - сустрэча з літаратарамі Меншчыны (Міхаілам Баранчыкам, Лізаветай Палеес).

08.07.2014 г. - 50 гадоў Ганне Рэлікоўскай.

8.07.2014 г. - у Лідскай раённай бібліятэцы прэзентацыя кнігі Дзмітрыя Люціка "Нёманскі фронт".

11.07.2014 г. - гадавіна - вечар памяці Вячаслава Пыпеца "Гісторыя жыцця, апетая ў музыцы".

20.08.2014 г. - у Доміку Таўлая прэзентацыя кнігі Леаніда Лаўрэша "Вандалін Шукевіч".

29.08.2014 г. - прэзентацыя кнігі Леаніда Лаў-рэша "Вандалін Шукевіч" у Бярозаўцы.

04.09.2014 г. - дабрадатны агонь у Лідзе - "Дарога да святыняў" (сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі ў школах горада і ў дзіцячай школе мастацтваў, пасадка алеі памяці: Анатоль Бутэвіч, Міхась Башлыкоў, Вадзім Спрынчан, Яўген Пясецкі і інш.).

20.09.2014 г. - адкрыццё выставы "Згукі заснуўшай цывілізацыі. Вёска пачатку XX стагоддзя" да 90-годдзя з дня нараджэння Мікалая Дзікевіча.

21.09.2014 г. - 60 гадоў Станіславу Судніку.

23.09.2014 г. - у Лідскай раённай бібліятэцы адбылася літаратурная вечарына з удзелам паэта Станіслава Судніка і барда Сяргея Чарняка.

26.09.2014 г. Станіслаў Суднік і Сяргей Чарняк наведалі Нясвіж. Тут літаратурная сустрэча з вучнямі нясвіжскай школы № 1 і навучэнцамі педагагічнага каледжа адбылася ў бібліятэцы імя Паўлюка Пранузы.

29 верасня 2014 г. у Менску ў сядзібе ТБМ адбылася літаратурная вечарына з удзелам паэта Станіслава Судніка і барда Сяргея Чарняка.

03.10.2014 г. - 75 гадоў "Лідскай газеце" - мерапрыемства ў музеі.

15.10.2014 г. - прэзентацыя кнігі Валерыя Мацулевіча "Чалавек са свечкай"

21.10.2014 г. - сустрэча з сябрамі клуба "Ліра", з паэтамі горада Баранавічы (Міхасём Маліноўскім, Наталляй Несцярук, Людмілай Шувалавай, Нінай Шавель, Галінай Ліс, Алесем Корневым, Міхасём Скрыпкам, Іванам Асосам, Тамарай Здановіч).

12.11.2014 г. - беларускае паэтычнае слова зноўку ў падарожжы па Лідчыне з выдатнымі беларускімі паэтамі, падзвіжнікамі ў справе папулярызацыі беларускай паэзіі Леанідам Дранько-Майсюком і Эдуардам Акуліным. У гэты раз госці з Менска наведалі школы вёскі Бердаўка і пасёлка Першамайскі.

19.11.2014 г. - 65 гадоў Міхасю Мельніку (07.11.1949 г. н.) - вечар "Жыву з адкрытаю душою, нібы наіўнае дзіця..."

14.12.2014 г. - пахаванне Пятра Макарэвіча (15.04.1938 г. н.)

17.12.2014 г. - падвядзенне вынікаў раённага літаратурнага конкурсу імя В. Навіцкай "Дарослыя - дзецям". Пераможцамі сталі: Уладзімір Васько і Станіслаў Суднік.

**2015 год**

18.02.2015 г. - у ЛГММ літаратурны вечар памяці, прысвечаны 65-годдзю з дня нараджэння Віктара Бачарова (08.02.1950 г.- 03.10.2004 г.).

19.02.2015 г. - 60 гадоў адзначыла лідская паэтэса Ірына Бараздзіна (1955 г.н.).

11.03.2015 г. - прэзентацыя 11-га нумара часопіса "Верасень" на Лідчыне Леанідам Дранько-Майсюком і Эдуардам Акуліным. На гэты раз слынных беларускіх паэтаў і папулярызатараў беларускай літаратуры ды беларускай мовы прымалі Ваверская і Дзітвянская школы.

15.04.2015 г. - III лідскія чытанні, прысвечаныя 175-годдзю з дня нараджэння Францішка Багушэвіча.

29.04. 2015 г. - прэзентацыя 11-га нумара літаратурна-мастацкага часопіса для моладзі "Верасень" на Лідчыне. На гэты раз рэдактар часопіса паэт і бард Эдуард Акулін ды сталы аўтар выдання, паэт Леанід Дранько-Майсюк наведалі самае Панямонне - вёскі Пескаўцы і Беліцу.

05.05.2015 г. - Дзень друку, адкрыццё выставы "І слова клікала ў бой..." (у доміку В. Таўлая).

22.05.2015 г. - сустрэча ў Доміку Таўлая мясцовых літаратараў і навучэнцаў з пісьменнікам, майстрам дэтэктыўнага жанру Віктарам Праўдзіным, нараджэнцам горада Ліды, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, які нядаўна адзначыў 60-гадовы юбілей.

10.05.2015 г. - 30 гадоў адзначыў малады паэт Аляксей Сымановіч (1985 г.н.)

10.06.2015 г. - сустрэча з пісьменнікам Міхасём Скоблам і спявачкай Таццянай Матафонавай.

14.06.2015 г. - выступленне паэта Станіслава Судніка і барда Сяржука Чарняка ў школьным летніку "Эрудыт" для найбольш адораных дзяцей у пасёлку Дзітва Лідскага раёна.

14.06.2015 г. - удзел Ірыны Бараздзіной у рэгіянальнай конкурснай праграме "Кірмаш талентаў".

17.06.2015 г. - прэзентацыя ў літаратурным аддзеле ЛГММ кнігі Ірыны Бараздзіной "Из соли, сахара и перца".

22.06.2015 г. - сустрэча з пісьменніцай Ірынай Шатыронак.

06.09.2015 г. - свята беларускага пісьменства ў Шчучыне з удзелам лідскіх літаратараў: Алеся Хітруна, Ганны Рэлікоўскай, Ірыны Бараздзіной.

08.09.2015 г. - адкрыццё выставы "Ад пяра гусінага да кампутара сучаснага".

26.09.2015 г. - з нагоды Еўрапейскага дня моў Ходараўскую СШ наведалі паэт і перакладчык Міхась Скобла ды спявачка Таццяна Матафонава з прэзентацыяй кнігі "Галасы з-за небакраю".

11.11.2017 г. - чарговы літаратурны дэсант на Лідчыну беларускіх паэтаў Леаніда Дранько-Майсюка і Эдуарда

Акуліна. Літаратурныя сустрэчы праходзілі пад знакам прэзентацыі 12-га нумара часопіса "Верасень". Сустрэчы адбыліся ў Тарноўскай і Ёдкаўскай школах.

24.11.2015 г. - сустрэча з членамі Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Дзмітрыем Радзівончыкам і Браніславам Ермашкевічам - "Перад тым, як на Парнас, завітай, паэт, да нас!"

5.12.2015 г. - працоўная сустрэча ў Лідзе гарадзенскіх і лідскіх сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў ды лідскага літаб'яднання "Суквецце". З Гародні прыехалі нова-абраны старшыня Гарадзенскага абласнога аддзялення СБП Валянцін Дубатоўка, былы старшыня Юрка Голуб, паэт Рычард Бялячыц. З лідскага боку ў сустрэчы ўзялі ўдзел сябры СБП Алесь Стадуб, Уладзімір Васько і Станіслаў Суднік, а таксама цяперашні кіраўнік "Суквецця" Алесь Хітрун і былы кіраўнік Міхась Мельнік.

17.12.2015 г. - 85 гадоў адзначыла найстарэйшая паэтка Лідчыны Алеся Бурак.

2015 год - артыкул аб літаратурным аб'яднанні "Суквецце" трапіў на старонкі энцыклапедыі "Рэгіёны Беларусі. Гродзенская вобласць".

**2016 год**

20.01.2016 г. - прэзентацыя літаратурнага альманаха беларусаў замежжа "Беларус" за 2015 год. за "авальным столікам" літаб'яднання "Суквецце" ў лідскім "Доміку Таўлая".

27.01.2016 г. - сустрэча з беларускімі пісьменнікамі Л. Дранько-Майсюком і Э. Акулíным вучняў Гудскай базавай школы і СШ №1 у канферэнц-зале Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.

28.01.2016 г. - юбілей (75 гадоў) Ірэны Сліўко.

30.01.2016 г. - прэзентацыя кнігі Паўла Севярынца "Беларуская глыбіня" ў Песках Лідскага раёна. На літаратурную сустрэчу сабралася звыш 20 чалавек з Ліды, Бярозаўкі, Беліцы, Шырокага і іншых мясцін паўднёвай часткі Лідскага раёна.

24.02.2016 г. - выступленне ў Лідскім каледжы паэтаў Леаніда Дранько-Майсюка і Эдуарда Акуліна.

24.02.2016 г. - пашыранае паседжанне літаб'яднання "Суквецце" пры "Лідскай газеце" ў Лідскім літаратурным музеі (Домік Таўлая) з удзелам паэтаў Эдуарда Акуліна і Леаніда Дранько-Майсюка.

29.02.2016 г. - выступленне ў Лідскай дзіцячай мастацкай школе мастацтваў на мерапрыемстве, прысвечаным 125-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

2.03. 2016 г. - літаратурная сустрэча ў СШ № 9 г. Ліды. На сустрэчу са школьнікамі прыйшлі паэты Алесь Хітрун - старшыня літаб'яднання "Суквецце", паэт Станіслаў Суднік і бард Сяржук Чарняк.

16.03.2016 г. - прэзентацыя літаратурна-мастацкага альманаха "Ад лідскіх муроў" № 8 у Доміку Таўлая.

23.03.2016 г.- прэзентацыя зборніка вершаў лідскай паэтэсы Юліі Паляковай "Моменты и Монстры".

20.04.2016 г. - літаратурная сустрэча з гарадзенскімі літаратарамі у Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы.

04.05.2016 г. - сустрэча з пісьменніцай-зямлячкай Хрысцінай Лялько.

18.05.2016 г. - літаратурная гадзіна "Ные сэрца і радасцю, і болем", прымеркаваная да 100-годдзя з дня нараджэння беларускай паэтэсы Ніны Тарас.

06.06.2016 г. - 60 гадоў з дня нараджэння Леаніда Вінніка (1956-2006 г.).

06.07.2016 г. - сустрэча з пісьменніцай-зямлячкай Ірынай Багдановіч.

07.07.2016 г. - 65 гадоў Івану Гушчынскаму.

15.07.2016 г. - адкрыццё выставы "Жыве мая ліра нанова!" да 140-годдзя з дня нараджэння Цёткі.

24.07.2016 г. - выступленне сяброў літаб'яднання "Суквецце" ў памежатрадзе.

8.08.2016 г. - літаратурная сустрэча з паэтам Міхасём Скоблам і спявачкай Таццянай Грыневіч-Матафонавай у школьным лагеры пры Мінойтаўскай сярэдняй школе Лідскага раёна.

11.08.2016 г. - выступленне паэта Станіслава Судніка і барда Сяржука Чарняка у прышкольным летніку Мінойтаўскай СШ Лідскага раёна.

14.09.2016 г. - прэзентацыя зборніка Т. Сямёнавай "Позвала судьба в дорогу".

03.10.2016 г. - абласны фестываль паэзіі сярод настаўнікаў у Гародні "Паэзія - рух душы". Сярод лепшых вершаў у намінацыі "Любоўная і філасофская лірыка" сталі творы Ганны Рэлікоўскай, а ў намінацыі "Радзіма, родны край, прырода" ў ліку прызёраў - Людміла Русь.

10.10.2016 г. - сустрэча вучняў 11-х класаў СШ № 11 г. Ліды з пісьменнікамі Лідчыны, сябрамі літаратурнага аб'яднання "Суквецце". У госці да вучняў і настаўнікаў завіталі кіраўнік літаратурнага аб'яднання Алесь Хітрун, паэтэса Ганна Рэлікоўская і лідскі бард Сяржук Чарняк.

1.11.2016 г. - наведванне Лідчыны прадстаўнікамі рэдакцыі інтэрнет-часопіса "Прайдзісвет" Ганнай Янкута і Ігарам Крэбсам. Першая сустрэча адбылася ў Ганчарскай СШ Лідскага раёна. Другая сустрэча прайшла ў Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы.

23.11.2016 г. - сустрэча з самымі вядомымі творамі Максіма Багдановіча. "І зорка гарыць, і не вяне вянок" - пад такой назвай прайшлі Лідскія літаратурна-музычныя зазімкі ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы.

04.12.2016 г. - вечар памяці "Паміж небам і цішынёй", прысвечаны лідскаму паэту Пятру Макарэвічу.

20.12.2016 г. - падвядзенне вынікаў II літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям". Прэміяй III ступені ўганараваны Ўладзімір Васько, які даслаў на конкурс фантастычнае апавяданне "На залатой планеце", прэміяй II ступені - Ганна Рэлікоўская (вершы на школьную тэматыку), прэміяй I ступені - Святлана Цішук (вершы і п'еса "Каток-футбаліст").

20.12.2016 г. - вечар памяці "Пад знакам Стральца", прысвечаны да 85-годдзя з дня нараджэння Смарагда Сліўко.

**2017 год**

25.01.2017 г. - урачыстае мерапрыемства ў Лідскай раённай бібліятэцы з нагоды 80-годдзя Ўладзіміра Васько (02.01.1937 г. н.), сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, таленавітага пісьменніка нашага часу, кіраўніка літаратурнага аб'яднання "Суквецце" з 1972 па 2004 год.

15.03.2017 г. - прэзентацыя кнігі Леаніда Лаўрэша "Маламажэйкаўская царква: гістарычны нарыс" у Лідзе.

1.04.2017 г. - літаратурная сустрэча паэтаў Міхася Мельніка, Івана Гушчынскага і барда Сяргея Чарняка з вучнямі Ходараўскай школы.

19.04.2017 г. - прэзентацыя кнігі Ўл. Васько "Зізгагі лёсу" ў літаратурным аддзеле ЛГММ.

7.06.2017 г. - прэзентацыя новай кнігі вядомага беларускага майстра гістарычнай літаратуры Ўладзіміра Арлова "Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі" ў канферэнц-зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.

14.06.2017 г. - прэзентацыя кнігі Ўл. Дронава ў ДШМ.

21.06.2017 г. - урачыстае святкаванне 50-гадовага юбілею літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" ў ЛГММ.

*Дадатак 7*

**Спіс сяброў літаратурнага аб'яднання "Суквецце", чые вершы былі апублікаваны на старонках "Лідскай газеты" за 2012-2016 гг.**

(складзены па дадзеных кіраўніка літаб'яднання Алеся Хітруна)

1. Ала Юшко
2. Алесь Стадуб
3. Алесь Хітрун
4. Алесь Мацулевіч
5. Алеся Бурак
6. Алеся Лесіна
7. Аліса Смоліна
8. Аляксей Сыманович
9. Аляксандр Слука
10. Алеся Шчэліна
11. Анатоль Зайко
12. Анастасія Сіраж
13. Анастасія Шадзюль
14. Анастасія Яловік
15. Анжэла Данілевіч
16. Ганна Будзько
17. Ганна Мік'янец
18. Ганна Рэлікоўская
19. Ганна Серэхан
20. Валерый Мацулевіч
21. Валянціна Дарашэнка
22. Валянціна Троцкая
23. Васіліса Пазнухова
24. Віктар Бачароў
25. Віялета Лучко
26. Уладзімір Бурак
27. Уладзімір Васько
28. Уладзімір Дронаў
29. Уладзімір Нікулін
30. Уладзімір Руль
31. Уладзімір Шынкарук
32. Вяслава Сычэўская
33. Данута Бічэль
34. Дар'я Буча
35. Дзяніс Летуноўскі
36. Яўген Пац
37. Кацярына Руль
38. Алена Какорына
39. Алена Сакалова
40. Алена Сіманчык
41. Алена Шпілеўская
42. Лізавета Пракоп
43. Жана Сянкевіч
44. Іван Гушчынскі
45. Іван Русецкі
46. Іван Салаўёў
47. Ігар Рудзько
48. Ігнат Ярачкін
49. Іна Міхалюк
50. Ірына Багдановіч
51. Ірына Бараздзіна
52. Ірына Маркевіч
53. Ірэна Сліўко
54. Іосіф Масян
55. Хрысціна Лялько
56. Ларыса Канчэўская
57. Ларыса Пастух
58. Леанід Віннік
59. Леапольд Пырскі
60. Лера Швакель
61. Лідзія Івуць
62. Лілея Пушкарова
63. Людміла Чаропка
64. Людміла Шот
65. Максім Вельб
66. Маргарыта Бірук
67. Марыя Масла
68. Марыя Рамана
69. Міхась Мельнік
70. Міхаіл Баранчык
71. Наталля Анфімава
72. Наталля Ташко
73. Вольга Мохар
74. Вольга Рудзевіч
75. Вольга Цяслюк
76. Павел Дзедуль
77. Пётр Макарэвіч
78. Пётр Несцер
79. Рычард Шурмей
80. Святлана Антонік
81. Святлана Пыпець
82. Святлана Цішук
83. Святлана Сільвановіч
84. Сямён Кантаровіч
85. Сяргей Вецер
86. Сяргей Марцінкевіч
87. Смарагд Сліўко
88. Станіслава Белагаловая
89. Станіслаў Суднік
90. Таіса Сямёнава
91. Таццяна Вайтукевіч
92. Таццяна Сямёнава
93. Таццяна Саўчук
94. Таццяна Шведава
95. Таццяна Шот
96. Часлаў Чымбар
97. Юльяна Барэйша
98. Юлія Бурак
99. Юлія Палякова
100. Яна Крывеня
101. Яніна Догель

Усяго: 101 прозвішча

*Дадатак 8*

**Рэйтынг актыўнасці і папулярнасці лідскіх аўтараў**

Рэйтынг публікацый паэтаў Лідчыны ў рубрыцы "Суквецце", складзены ў ходзе даследавання па прадстаўленых штогадовых справаздачах кіраўніка літаратурнага аб'яднання Алеся Хітруна за 2012-2016 г.г.

1. Уладзімір Васько - 37
2. Валерый Мацулевіч -27
3. Алеся Бурак -18
4. Алесь Мацулевіч -17
5. Таццяна Сямёнава -17
6. Міхась Мельнік - 15
7. Аляксей Сымановіч-14
8. Ларыса Канчэўская-12
9. Іосіф Масян-11
10. Ірэна Сліўко -11
11. Марыя Масла-11
12. Сяргей Вецер -10
13. Уладзімір Бурак -10
14. Алесь Стадуб -9
15. Ганна Рэлікоўская -9
16. Уладзімір Дронаў -9
17. Алесь Хітрун -8
18. Ірына Бараздзіна -7
19. Анатоль Зайко -6
20. Іван Русецкі -6
21. Святлана Антонік-6
22. Юлія Палякова-6
23. Валянціна Дарашэнка-5
24. Алена Какорына -5
25. Іван Гушчынскі -5
26. Станіслава Белагаловая-5
27. Алена Сакалова -4
28. Валянціна Троцкая -4
29. Віктар Бачароў -4
30. Ганна Серахан -4
31. Данута Бічэль -4
32. Міхаіл Баранчык-4
33. Пётр Макарэвіч -4
34. Святлана Пыпець -4
35. Хрысціна Лялько -4
36. Чэслаў Чымбар -4
37. Анастасія Яловік-3
38. Вяслава Сычэўская -3
39. Пётр Несцер -3
40. Святлана Сільвановіч-3
41. Сяргей Марцінкевіч -3
42. Яўген Пац-3
43. Яніна Догель -3
44. Ала Юшко -2
45. Алена Сіманчык-2
46. Васіліса Пазнухова -2
47. Вольга Цяслюк -2
48. Дзяніс Лятуноўскі-2
49. Жана Сянкевіч -2
50. Іна Міхалюк -2
51. Леанід Віннік -2
52. Наталля Анфімава -2
53. Уладзімір Нікулін -3
54. Смарагд Сліўко -2
55. Станіслаў Суднік -2
56. Таіса Сямёнава -2
57. Уладзімір Шынкарук -2
58. Алена Шпілеўская -1
59. Анастасія Сіраж -1
60. Анастасія Шадзюль-1
61. Анжэла Данілевіч-1
62. Алеся Лесіна -1
63. Аліса Смоліна-1
64. Аляксандр Слука -1
65. Аляксандра Шчэліна -1
66. Віялета Лучко -1
67. Вольга Мохар -1
68. Вольга Рудзевіч-1
69. Ганна Будзько -1
70. Ганна Мік'янец -1
71. Дар'я Буча -1
72. Лізавета Пракоп -1

73. Іван Салаўёў -1
74. Ігар Рудзько -1
75. Ігнат Ярачкін -1
76. Ірына Багдановіч-1
77. Ірына Маркевіч -1
78. Кацярына Дуло -1
79. Ларыса Пастух -1
80. Леапольд Пырскі-1
81. Лера Швакель -1
82. Лідзія Івуць-1
83. Лілія Пушкарова -1
84. Людміла Чаропка-1
85. Людміла Шот -1
86. Максім Вельб-1
87. Маргарыта Бірук -1
88. Марыя Рамана-1
89. Наталля Ташко -1
90. Павел Дзедуль -1
91. Рычард Шурмей -1
92. Святлана Цішук -1
93. Сямён Кантаровіч -1
94. Таццяна Вайтукевіч -1
95. Таццяна Саўчук -1
96. Таццяна Шведава -1
97. Таццяна Шот-1
98. Уладзімір Руль-1
99. Юльяна Барэйша-1
100. Юлія Бурак -1
101. Яна Крывеня-1

*Дадатак 9*

**Колькасць апублікаваных вершаў у рубрыцы "Літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" пры "Лідскай газеце" за 2012-2016 г.г.**

**Зводная табліца апублікаваных вершаў за 5 гадоў (2012-2016 г.г.)**

| Год друку вершаў на літ. старонцы ў "Лідскай газеце" | Год | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2012 | 2013 | 2014 | 2015 | 2016 | Усяго за 5 год |
| Вершы на бел. мове | 51 | 44 | 46 | 40 | 45 | 226 |
| Вершы на рус. мове | 37 | 47 | 37 | 59 | 39 | 219 |
| Усяго надрукавана вершаў | 88 | 91 | 83 | 99 | 84 | 445 |
| Усяго літаратурных старонак | 9 | 8 | 9 | 10 | 10 | 46 |

По дадзеных справаздач за 2012-2016 г.г. кіраўніка літаратурнага аб'яднання "Суквецце" Алеся Хітруна

*Дадатак 10*

**Сустрэчы вучняў СШ №11 г. Ліды з сябрамі літаратурнага аб'яднання "Суквецце"**



***Літаратурная гасцёўня "Паэты Ліды пра сябе і свой горад", 2014 г.***



***Літаратурная гасцёўня "І жартам, і ўсур'ёз", 2016 г.***

*Дадатак 11*

**Артыкул "Лідскае літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" ў энцыклапедыі "Рэгіёны Беларусі"**

ЛИ́ДСКОЕ ЛИТЕРАТУ́РНОЕ **ОБЪЕДИНЕ́НИЕ «СОЦВЕ́ТИЕ»**. Осн. в 1967 в г. Лида при редакции газ. «Вперёд» (ныне «Лідская газета») как лит. объединение. С 1972 совр. название. Руководители В.Н.Кучинский (с 1967), В.Г.Васько (с 1972), И.М.Мельник (с 2004), А.Ч.Хитрун (с 2012). Осн. направления деятельности — повышение эстетического и содержательного уровня произведений членов лит. объединения, совершенствование их кругозора, содействие развитию творческих способностей и самостоятельному поиску новых форм и средств выразительности; становление молодых литераторов; краеведение; проведение культурно-массовых мероприятий. В разное время в работе лит. объединения участвовали поэты С.Судник, М.Мельник, А. и В. Бурак, П.Макаревич, В.Бочаров, С. и И. Сливко, Л.Винник, И.Гущинский, С.Тишук, Г.Коваленко, Т.Черноус, И.Савко, М.Масло, В.Дронов, Т.Семёнова, А.Хитрун, Е.Кокорина, В. и А. Мацулевичи и др. Гостями и участниками лит. вечеров были М.Лужанин, С.Шушкевич, А.Кучер, Н.Гроднев, Н.Круговых, В.Павлов, С.Гаврусёв, К.Камейша, Н.Малявко и др. В 2010-е гг. вышли сб-ки конкурсных стихотворений «Мой город — честь моя» (к 690-летию Лиды), поэтические «Осенний вальс» Т.Семёновой, «Осязание воли» А.Стадуба, «Круговорот жизни» В.Васько, «Человек со свечой» В.Мацулевича, «Лев и ключи» А.Мацулевича, «Из соли, сахара и перца» И.Бороздиной, переводов «Птица свободы» П.Макаревича, прозы «Лесная рапсодия» В.Васько и др.

*А.Ч.Хитрун.*

*Дадатак 12*

**Вершы лідскіх аўтараў аб літаратурным аб'яднанні "Суквецце"**

Вершы **Алесі Бурак** аб майстрах мастацкага слова, сябрах літаратурнага аб'яднання "Суквецце"

**Чатыры Алесі**

*Знакамітым і шчырым беларусам*
*Алесю Жалкоўскаму, Алесю Стадубу,*
*Алесю Хітруну - Алеся Бурак.*

На кватэры, а не ў лесе,
За сталом Бурак Алесі
Засядала шмат людзей -
Кожны ў справах дабрадзей.
Паў -"Суквецця" сабралося
І Алесі падалося,
Што сярод імёнаў тых
Яе цёзкаў - больш за ўсіх.
Першы з іх - Алесь Жалкоўскі,
Чалавек разумны, свойскі,
Журналіст, тварэц, рэдактар,
Мудрых допісаў ён аўтар.
У Стадуба, у Алеся,
Што ні твор - Радзіме песня,
Беларус ён шчыры, слаўны
Ў галаве выносіць планы,
Як і што трэба зрабіць,
Каб на свеце лепей жыць.
А малодшанькі Алесік,
Ён - Хітрун, штодзень калесіць
Ў Ліду на веласіпедзе,
Каб знайсці падтрымку недзе
Сваім творам, сваім планам,
А найбольш - свайму жаданню
Павучыцца, памудрэць,
Каб душою не старэць,
Літаратарам каб стаць,
Ад жыцця каб не адстаць.
Тры Алесі - тры мужчыны,
А чацвёртая - жанчына
Аб усім вялі размову,
Сэнс шукалі ў кожным слове,
А найбольш аб роднай мове -
Беларускасці аснове.
Радаваўся нашай згодзе
Міхась Мельнік пры народзе.
*27.08.2007 г.*
*(Верш са зборніка Алесі Бурак "Прастора дабрыні" 2008 г., с. 48 - 49.)*

**Міхасю Мельніку**

Мельнік - хлопец, хоць - куды,
Ён - не тоўсты, не худы,
Ганарыцца ён вусамі,
Сярод нас - адметны самы,
Вершы ў скрыню ён збірае -
Вельмі важны статус мае:
Кіраўнік "Суквецця" ён,
Не бярэ ўжо хлопца й сон,
Перагружаны работай:
Правіць вершы... Вось турбота!
*2007г. (Верш са зборніка Алесі Бурак "Прастора дабрыні" 2008 г., - с. 50.)*

**Удзячнасць**

Мясцовыя паэты - верныя сябры,
Кранае ваша мудрая прысутнасць,
Размовы, спрэчкі аж да позняе пары
І злых намераў поўная адсутнасць.
Нялёгка вашы падлічыць тварэнні,
Што на "Скрыжалях Лідчыны" сашліся:
Тут "Водгук ісціны", "Вясёлкавае ззянне",
"Прасторы дабрыні", у "Паэмах" шмат пазнання
І "Злітак" роздуму, і "Розныя дарогі"…
На "Лодачцы жыцця" плыву к дабру ў цішы,
Імкнуся ў свет з "Варонай белай" разам,
Жыву ў сугучнасці са "Струнамі душы",
"На схілах берагоў" бываю час ад часу,
"Іду і вяртаюся" ў "Восеньскі вальсок",
"Лясной рапсодыяй" адаграваю душу…
Падборкай паэтычных галасоў
У "Суквецці" нашым ганарыцца мушу.
Удзячна вам, сябры, за творчыя здабыткі,
За хваляванне і нераўнадушнасць,
За кнігі - найкаштоўны мой набытак,
У якім няма варожасці і бяздушша.
*(Надрукавана ў газеце "Принеманские вести" № 51 (816), 18.12.2014 г.)*

***Уладзімір Васько***

**Лідскія паэты ў космасе**

На невядомую планету,
у невядомы час
закінуў лёс зямных паэтаў -
ну проста на Парнас.
А там натхнення, як паветра!
Самое ў рот цячэ.
І не было на шчасце, ветру,
што мог бы здзьмуць іх прэч.
І так на творчасць пацягнула
і ўздыбіла душу!
Бурак Алеся аж уздыхнула:
- Паэму напішу!
- Але на чым? - заўважыў Суднік.-
Паперы ж тут няма…
Гушчынскі рэзка слова ўсунуў:
- Мне кум дасць ці кума!
- А дзе твой кум?! - падскочыў Мельнік.-
- Яны ж вунь на Зямлі.
Дык што ты тут пра іх нам мелеш?! -
- Мялі, мялі, мялі! -
ўсё ж нехта падтрымаў паэта, -
- Табе заплацім мы за гэта. -
І стала весялей.
А на двары стаяла лета,
пах "Сонечны" алей.
- Мы пра Сямёнаву забылі…
Мо ў вас папера ёсць? -
- Перавяла я ўсю на былі,
паслала ў "Маладосць".
Тут Рэлікоўская сказала:
- Не кінем таленты ў бядзе.
Я помню, некалі пісала
санеты кіем па вадзе.
Пакуль спрачаліся, шумелі
і смажылі траску,
два Мацулевічы прыселі
і пішуць па пяску:
"Мы паляцелі ў космас рана,
як на траве расла раса,
каб адарвацца ад туману,
які Зямлю апаясаў"…
Тут ветрык ласкава падыхаў
і скінуў стому з рук.
Бараздзіна сказала ціха:
- Я чаю завару.
Замітусіўся шпарка Дронаў:
- Навошта гэты чай?
Я захапіў гарэлкі мора.
Ты, Іра, выбачай.
Пакуль Хітрун нарэзваў сала,
лупіў Стадуб яйко,
верш на хусцінцы напісала
паэтка І. Сліўко.
- А дзе ж Васько? - схапіўся Міша
і выцер з рук алей.
- А ён пра космас нешта піша
алоўкам па скале.
Там мы жылі, пілі і елі,
вадзілі карагод.
Там па-сяброўску і сустрэлі
касмічны Новы год.
*(Надрукавана ў "Лідскай газеце" 30.12.2015 г., - с. 14.)*

***Алесь Мацулевіч***

**Мы - паэты!**

Чакаем трэцяй серады -
чарговае сустрэчы.
Настане дзень той, і тады
зноў разам мы, паэты.
Збіраемся "Суквеццем" зноў
у доміку Таўлая,
бо ў Лідзе існуе даўно
традыцыя такая.
Мы на сустрэчы, бы на ўрок,
прыносім сшыткі, кніжкі,
таму што творчы мы народ,
вянок паэтаў лідскіх.
Збіраемся "Суквеццем" зноў
у доміку Таўлая
паэтаў Лідчыны вянок,
прынёманскага краю.
Ціхенька кніжка шалясціць
ці сшытачак лістамі -
і непрыкметна час ляціць
у гутарках, чытанні.
Збіраемся "Суквеццем" зноў
у доміку Таўлая.
Майстры паэзіі, са слоў
Паэмы мы ствараем.
*(Надрукавана ў "Лідскай газеце" 21.12.2016 г.)*

*Леанід Лаўрэш*

# Грэка-каталіцкая парафія ў Нагародавічах

**Нагародавічы** - старажытная маёмасць Радзівілаў, якія, як і паўсюдна ў сваіх маёнтках, заклалі тут пратэстанцкі збор, - пісаў Антон Балабанскі ў артыкуле "Нагародзічы. Матэрыялы да манаграфіі Лідскага павета", удакладніўшы пры гэтым, што ён карыстаўся архівамі Гародні і Вільні[1].

У XVI-XVII ст. вёска Нагародавічы - уласнасць сям'і Вельямінаў-Руцкіх[2]. Па другой версіі, на пачатку XVII ст. Нагародавічы належалі Навагр646дскай кафедральнай царкве, і потым маёмасць перайшла да будучага мітрапаліта Язэпа Руцкога герба Воз з прыдомкам Вельямін, сына Шчаснага Вельямінавіча Руцкога, "служэбніка" Яна Кішкі, жмудскага старасты[3]. Вельяміны (альбо Вельямінавічы) пражывалі на Навагрaдчыне ўжо ў канцы XV ст. і валодалі маёнткам Рута і таму зваліся Вельямінамі - Руцкімі[4].

З 20 па 26 ліпеня 1617 г. менавіта ў Нагародавічах адбылася 1-я генеральная капітула (кангрэгацыя) базыльянскіх манастыроў ВКЛ: *"Былі скліканы з усіх манастыроў, а менавіта з Віленскага, Навагрaдскага, Менскага, Жыровіцкага, Быценскага старцы гэтых манастыроў, а з некаторых айцы ... у фальварак ягамосці (Язэпа Руцкога) з'ехаліся ... дзевятнаццатага ліпеня, у суботу"* [5].

У паседжаннях прымалі ўдзел два езуіты, *"каб радзіцца, а не для прыняцця рашэнняў"* [6]. На капітуле ў Навагародавічах прысутнічаў Язафат Кунцэвіч, якога Язэп Руцкі прызначыў тады памочнікам Полацкага архіепіскапа[7].

Ва ўступнай прамове мітрапаліт Руцкі сказаў, што запланаваная ім рэформа мае на мэце славу Божую, а сродкам яе ёсць паляпшэнне духоўнага стану царквы, *"стан духоўны немагчыма паправіць інакш, як толькі праз абнаўленне ордэна* (базыльянскага - *Л.Л.*) *менавіта ў грэцкім абрадзе, каб на ўсе вышэйшыя царкоўныя пасады браліся асобы з ордэна. Для абнаўлення ордэна іх патрэбна шмат, не могуць гэта быць старыя, але паправіць ордэн можна праз маладых, калі ім будзе дадзена адукацыя, выхаванне ў ордэне як ў духу, гэтак і ў навуках"* [8].

Ордэн ўзяў на сябе адукацыю і выхаванне насельніцтва, утрыманне ўсіх уніяцкіх вучэльняў, капітула прыняла рашэнне аб стварэнні базыльянскай сістэмы адукацыі, якая мела вялікі пазітыўны ўплыў на развіццё нашай Бацькаўшчыны. У дакуменце ўніяцкай царквы 1824 г. "О средствах умножения в Греко-униатском духовенстве просвещения" ёсць такі ўрывак: *"Каля 1615 г. уніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі задумаў даць іншае ўладкаванне цэлай рускай іерархіі і ў ёй адукацыі духавенства. ...Таму па радзе езуітаў і па ўзоры іх ордэна ён даручыў ордэну базыльянаў клопат аб свецкіх вучылішчах і на гэта атрымаў дазвол у папы Паўла V. 3 снежня 1615 г. ...мітрапаліт завёў такія вучылішча, а ў 1617 г. яны ўжо былі ў Навагрaдку і ў Менску, як сведчыць пра гэта першы базыльянскі сход, які адбыўся ў Навагародзічах* (тут памылка, насамрэч - у Нагародавічах, - *Л.Л.*)" [9].

Новы статут змяніў манаскае адзенне, быў уведзены чорны манскі габіт[10]. Было ўнармавана нават ужыванне манахамі піва: *"Піва да стала толькі дзве кварты належыць наліваць* (кварта, 0.8 л. - *Л.Л.*), *а калі болей, дык падпіўка* (маладога, не моцнага піва - *Л.Л.*) *... кожнаму брату наліваць па два разы ў кубкі ... памерам у кварту ..."* [11].

Галоўным ў новым базыльянскім ордэне стала цэнтралізацыя. Раней манастыры не былі з'яднаны і не мелі адзінага кіраўніцтва[12]. Гісторык Жуковіч П.Н., цытуючы першага біёграфа мітрапаліта Руцкога, Ра-

[1] Kurjer Wilenski № 243 (3133), 6 wrzesnia 1934.

[2] Slownik Geograficzny Krolestwa Polskiego… Warszawa. 1895. T. 14. S. 558.

[3] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Wroclaw - Krakow, 1997. T. 11. S. 459.

[4] Лісейчыкаў Дзяніс. Мітрапаліт Іосіф Вельямін-Руцкі і яго тастамант // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 2. Мінск, 2010. С. 34-35.

[5] Археографический сборник документов, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1900. Т. 12. С. 7-8.

[6] Там жа. С. 8.

[7] Нарис історії Василіянського Чину Святого Йосафата. Рым, 1992. С. 117.

[8] Археографический сборник документов, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1900. Т. 12. С. 9.

[9] АВАК. Т. 16. Вильна. 1889. С. 521.

[10] Стрельбицкий И. Х. Униатские церковные соборы с конца XVI века до воссоединения униатов с православной церковью. Одесса, 1891. С. 70.

[11] Археографический сборник документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1900. Т. 12. С. 16.

[12] На Навагародзіцкай капітуле быў прыняты статут, распрацаваны Руцкім на аснове правіл св. Васіля на ўзор статутаў рымска-каталіцкіх манаскіх ордэнаў і ўтворана Віленская (Літоўская) кангрэгацыя Св. Тройцы, якая аб'яднала манахаў пяці падначаленых Руцкаму манастыроў. Галоўныя рысы абноўленага ордэна бызыльянаў можна звесці да некалькіх пунктаў:

фаіла Корсака паведамляў: *"Руцкі прыйшоў да думкі пра неабходнасць больш трывалай пастаноўкі ўсёй справы ўладкавання жыцця манахаў, каб пасля яго смерці справы не прыпыніліся. З гэтай мэтай ён склаў статут Базыліянскага ордэна і на Нагародавіцкай кангрэгацыі палажыў заснаванне самога ордэна"* [13]. І далей: *"Як вядома, толькі да часу першай (Нагародавіцкай) базыльянскай кангрэгацыі 1617 г. Руцкі напісаў ... першы том правілаў манаскага жыцця"* [14].

Цалкам матэрыялы Першай Нагародавіцкай кангрэгацыі надрукаваны ў Т. 12 "Археографического сборника документов, издаваемых при управлении Виленского учебного округа" [15]. Тэксты гэтага тома, былі знойдзены ў Жыровіцкім манастыры стацкім дарадцам О. В. Шчарбіцкім[16].

У 1635 г. Нагародавічы купіў Ян Булгак *"з жонкай сваёй"* Ганнай Ярашанкай. Мітрапаліт Руцкі прадаў Нагародавічы з дваром, *"цяглымі і чыншавымі"* сялянамі, ставам, *"азёрамі і сажалкамі"* і з *"царквой у тым фальварку"*. Акт куплі-продажу ўнесены ў трыбунальскія кнігі ў 1652 г.[17]

У купчай ад 26 кастрычніка 1635 г., якая была складзена пры продажы мітрапалітам Руцкім фальварка Нагародавічы Яну Булгаку, напісана: *"в держанье ... подали есьмо фольваркъ нашъ, ... зъ церковью въ томъ фольварку, до которое церкви и грунту придано волокъ пулторы, то есть: подъ священником волока одна, а под подданымъ его полъ волоки, которая то церковь вечными часы застовати маетъ..."* [18].

У 1661 г. Булкак прадаў нядаўна набытыя Нагародавічы Ераміі Крывіцкаму (герба Любіч), дзедзічу Крыўцаў Пінскага павета. У 1692 г. Юры Крывіцкі трэць маёмасці перапісаў сваёй сястры Тэадоры Сідаровіч, уладальніцы Парэчча ў Слонімскім павеце і потым судзіўся за перададзеную маёмасць з Сідаровічамі.

У XVIII ст. Нагародавічы належалі Тызенгаўзам, у 1782 г. маёмасць прададзена генералу Ігнату Мараўскаму (1744-1790). Пасля яго смерці праз суд маёмасць была падзелена на часткі, большую з якіх купіла беліцкая старасціна Ленская. У першай палове XIX ст. яна прадала Нагародавічы з некалькімі фальваркамі Ігнату Дмахоўскаму[19].

У 1759 г. адбылося вылучэнне Нагародавіцкай парафіі з вялікай Зблянскай[20], да гэтага часу асобнай парафіі ў Нагародавічах не было і, відочна, царква была філіяльнай.

Першая драўляная царква ў Нагародавічах пабудавана мітрапалітам Руцкім, аб чым сведчылі дакументы, якія знаходзіліся ў царкве яшчэ пры канцы XIX ст. У сучасных крыніцах напісана, што царква пабудавана ў 2-й палове XIX ст., але "Слоўнік геаграфічны…" паведамляе, што да перабудовы 1894 г. яна захоўвала свой першапачатковы выгляд[21].

Візітацыя 1792 г. сцвярджае, што: *"Царква пад тытулам Св. Мікалая ў павеце Слонімскім, Лідскім дэканаце, фундацыі Яснавялебнага пана Вельяміна Руцкога Мітрапаліта"* [22]. Царква мела тытул Св. Мікалая. У 1784 г. калятары царквы - пісар ВКЛ Мураўскі і крайчы Слонімскага павета Тызенгаўз[23], у 1792 г. пісар ВКЛ Мураўскі[24].

У 1784 г. візітатар Васіль-Нупрэй Марцінеўскі, цырынскі дэкан, напісаў: *"Драўляная, крытая гонтай, з дзвюма вежамі, патрабуе рамонту"* [25]. У 1792 г. царква *"драўляная, дах і вежы - руіны, перад усім патрэ-*

1) Адноўленыя манастыры паміж сабой будуць аб'яднаныя і будуць тварыць адно манаскае цела; 2) На чале ордэна стаіць мітрапаліт, ён клапаціцца пра яго рост; 3) Мітрапаліт будзе найвышэйшым настаяцелем ордэна, але кіраваць ім будзе протаархімандрыт, капітула (манаскі збор) выбірае яго на ўсё жыццё (да яго смерці) са звычайных манахаў, ён не можа быць біскупам; 4) Протаархімандрыту будуць дапамагаць кіраваць чатыры кансультары (дарадцы), выбраныя да смерці генеральнай капітулай. Калі адзін з іх памрэ (ці стане біскупам), протаархімандрыт і тры кансультара выберуць чацвёртага, які будзе выконваць гэты абавязак да новай генеральнай капітулы; 5) Манастырамі кіруюць ігумены, якіх протаархімандрыт, па парадзе сваіх кансультараў, прызначае на чатыры гады; 6) Генеральную капітулу без мітрапаліта склікае сам протаархімандрыт, кожныя чатыры гады, ці, калі будзе неабходнасць, часцей. Калі протаархімандрыт памрэ, генеральным вікарыем (гэта значыць настаяцелем ордэна) будзе яго спавядальнік. У гэтым выпадку мітрапаліт павінен неадкладна склікаць генеральную капітулу для выбару новага протаархімандрыта: 7) Ордэн і іерархія павінны быць неразрыўна аб'яднаныя. Мітрапаліту Руцкому даручана атрымаць у караля прывілей, каб мітрапалітам быў толькі базыльянін. - Гл: Нарис історії Василіянського Чину Святого Йосафата. Рым, 1992. С. 118-119.

[13] Жукович П. Н. Жизнеописание митр. Иосифа Вельямина Рутского, составленное митр. Рафаилом Корсаком, и сочинение Рутского об улучшении внутреннего строя униатской церкви / П. Н. Жукович // Христианское чтение. 1909. № 8-9. С. 1099.

[14] Жукович П. Н. Жизнеописание митр. Иосифа Вельямина Рутского, составленное митр. Рафаилом Корсаком, и сочинение Рутского об улучшении внутреннего строя униатской церкви / П. Н. Жукович // Христианское чтение. 1909. № 8-9. С. 1102.

[15] Археографический сборник документов издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1900. Т. 12. С. 7-17.

[16] Там жа. С. IX.

[17] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Wroclaw - Krakow, 1997. T. 11. S. 459.

[18] АВАК. Т. 11. Вильна. 1880. С. 114.

[19] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Wroclaw - Krakow, 1997. T. 11. S. 460.

[20] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. А. 126 - 126 адв.

[21] Slownik Geograficzny Krolestwa Polskiego… Warszawa. 1895. T. 14. S. 558.

[22] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г. А. 1.

[23] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага дэканата. 1784 г. А. 124 адв.

[24] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 1.

[25] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. А. 80.

*бны вялікі рамонт, могілкі з крыжамі жалезнымі 25 лакцей, агароджаныя і з брамай ... Уваход у царкву праз бабінец, дзверы на падвойных жалезных завесах з зашчапкай, з ланцугом і прабоямі. Другія дзверы на падвойных жалезных завесах з зашчапкай і ланцугом, жалезнымі прабоямі і з навесным замком. У царкве хор, агароджаны балясінамі, столь ... з дошкі, адзіночных лавак - дзве, амбон і канфесіянал сталярнай работы, пафарбаваныя, парэнчы з пафарбаванымі дзверцамі на жалезных завесах з зашчапкамі, двое бакавых дзвярэй, адны з іх з навесным замком"* [26].

У царкве быў вялікі і чатыры бакавыя алтары. Вялікі алтар з абразом Св. Мікалая і абразом Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі з срэбнымі вотамі, абразок Чанстахоўскай Найсвяцейшай Панны Марыі. Прастол драўляны, на ім даразахавальніца сталярнай работы, у якой, у даразахавальніцы захоўваліся Святыя дары[27]. Як вядома, прастолы ў царкве апраналіся ў тры, ці па меншай меры ў два абрусы паміж якімі захоўваўся антымінс; на версе абрусаў заўсёды знаходзіцца кампарал (ілітон)[28]. Гэтыя абрусы мыў сам святар. Старыя, якія не мела сэнсу мыць, спальваліся. Прастол заўсёды пакрываўся пасля службы покрывам, і святар павінен быў клапаціцца пра яго чысціню і ахайнасць.

У 1792 г. царква была ў дрэнным стане: *"Царква з купалам на даху падобна на руіну і таму абавязваем ... звярнуцца да яснавяльможных калятараў каб зрабіць рамонт, а калі яны адмовяцца, рупліва звярнуцца да пабожных парафіян, каб праз складкі атрымаць грошы на дах і рэстаўрацыю гэтай святыні, бо калі праз год і 6 тыдняў пасля падпісання гэтага дакумента не будзе перакрыта і адрэстаўравана, тады выракам мясцовага дэкана павінна быць зачынена"* [29].

Таксама візітатар 1792 г. Андрыян Бутрымовіч, суфраган полацкі, даводзіць, што *"прастол, дзе захоўваюцца Святыя дары, павінен быць прыстойным і ахайным, таму лепей яго схаваць чым трымаць"* і прапануе мець срэбную дараносіцу Святых Дароў для хворых[30]. Да хворага, святар павінен быў адпраўляцца, ўзяўшы з сабою Святыя Дары ў адмысловым срэбным ці свінцовым сасудзе. Таму у царкве на прастоле павінна знаходзіцца даразахавальніца, у якой захоўваецца лыжачка, перад імі павінна гарэць свечка, прынамсі па нядзельных і святочных днях падчас літургії[31].

Каля царквы, як належыць, меліся могілкі *"часткова агароджаныя, брама-дзверы на завесах. Звон вісіць у вежы, важыць 2 камяні, другі таксама падвешаны, важыць 10 фунтаў. Трэці ў купале (царквы), важыць 12 фунтаў"* [32].

Мелася *"капліца, на зямлі ягамосцяў паноў Мураўскіх, пісараў ВКЛ, у вёсцы Зачэпічы. Драўляная, старая, з начыння мала што мае, ... неагароджаная, афіляваная да Ногародавіцкай царквы, ніякіх фундушоў не мае, не мае рухомых рэчаў, якія б былі пералічаны ў генеральнай візіце ..."* [33]. У 1792 г. Зачэпічы належалі Развадоўскім, *"капліца адрамантаваная, саломай крытая, ніякай фундушоў і начыння не мае, у патрэбах з Нагародавіч фінансуецца"* [34].

Сярод іншых пабудоў каля плябані ў 1784 г. узгадваецца пякарня[35], у 1792 г. яе ўжо няма. Па класіфікацыі Д. В. Лісейчыкава плябань хутчэй можна аднесці да бедных, чым заможных. З пабудоў, якія неабходна мець, каб лічыцца заможнай, яна мае толькі варыўню.

Першым вядомым нам нагародавіцкім святаром быў Тэадор Няўлазка (?), ён узгадваецца ў 1696 г.[36] Кунцэвіч Васіль быў высвечаны пінска-тураўскім епіскапам Г. Дашковічам-Гарбацкім у Пінску 18.11.1776 г., з 12.03.1784 г. па 16.01.1792 г. адміністратар царквы[37]. Канцэвіч Марк (1746 - ?) паходзіў з сям'і святара, высвечаны ў 1767 г. (?), у 1800 г. ужо былы адміністратар царквы ў Нагародавічах[38]. Хазановіч Палікарп, высвечаны луцкім епіскапам С. Лявінскім у Варшаве 04.08.1785 г., з 08.09.1786 па 24.01.1792 гг., адміністратар царквы ў Радзівонішках, з 1795 г. адміністратар царквы ў вёсцы Нагародавічы, *"звычаяў незаганных, навук сярэдніх"* [39]. У 1832 г. святар Нагародавіцкай царквы Сцепурынскі (Сцяпура) Юры[40], а ў дакуменце ад 25.02.1837 г. Сцепурынскі (Сцяпура) Ігнат (1810 - ?)[41].

Літоўскія епархіяльныя ведамасці за 1886 г. пісалі: *"... 85 чалавек падпісалася пад падзякай святару Яну Паўловічу, якога пераводзяць у Слонім-*

[27] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 1.

[28] Там жа. А. 1.

[29] Абрусы на прастоле сімвалізуюць вопратку Хрыста. Верхні абрус у форме белай хусткі мае грэцкую назву "ілітон" (у традыцыях Заходняй царквы korporal) і сімвалізуе тканіну, якой была абвіта галава Хрыста ў момант, калі яго клалі ў труну.

[30] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 2 адв.

[31] Там жа

[32] Хрусцевич Г. История Замойского собора (1720 года). Вильна. 1880. С. 223-225.

[33] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. А. 82.

[34] Там жа. А. 128 адв.

[35] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 2 адв.

[36] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. А. 82.

[37] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 402.

[38] Там жа. С. 327.

[39] Там жа. С. 282.

[40] Там жа. С. 498.

[41] Там жа. С. 498.

*скую царкву ... наша старая царква ў в. Нагародавічы, клапатлівасцю а. Паўловіча прыведзена ў належную спраўнасць. Былая Зачэпінская прыпісная царква з руінаў прыведзена ў спраўнасць ..."* [42].

У канцы XIX ст. у царкве служылі 1 святар і 2 псаломшчыкі. Царква мела 60 дзесяцін зямлі (з іх: 2 д. сядзібнай, 33 д. пад раллю, 13 д. сенажаці, 10 д. зараслі). Прафію складалі 290 двароў, вернікаў: мужчын - 1160, жанчын - 1135 чалавек[43].



***Вінцэнт Дмахоўскі. Нагародавічы.***

Пасля перабудоў і рамонтаў Нагародавіцкая сучасная *"трохзрубная царква складаецца з прамавугольных у плане прытвора, малітоўнай залы і пяціграннай апсіды з бакавой рызніцай. Архітэктурная выразнасць храма дасягаецца сродкамі аб'ёмнай кампазіцыі, яе прасторавым і ярусным нарастаннем да вертыкальнай дамінанты - ад нізкага прытвора да высокага цэнтральнага зруба і, нарэшце, да паліганальнай апсіды і нізкай рызніцы"* - напісаў Кулагін А.М.[44]

Неабходна сказаць і пра яшчэ адну сакральную пабудову ў Нагародавічах, пра якую піша "Слоўнік геаграфічны…" - старажытны касцёл у стылі італьянскага барока пабудаваны ў XVI ст. Першапачаткова гэта быў кальвінскі збор (бацька мітрапаліта Іосіфа Руцкога - Фелікс Руцкі быў кальвіністам, і будучы мітрапаліт ў маладосці менавіта з кальвінізму перайшоў у ўнію). З часам касцёл быў закінуты і пераўтвораны ў склад, а часткова ў жылыя памяшканні і атрымаў назву "скарбец". Згодна з "Слоўнікам геаграфічным…", у варшаўскім часопісе "Каласы" за 1871 ці 1872 гг. друкаваліся малюнкі з выявамі "скарбца" [45]. Можна меркаваць, што малюнкі ўладальніка маёнтка, мастака Вікенція Дмахоўскага, друкаваліся ў артыкуле Е. Хлапіцкага "Малюнкі з тэкі падарожнай" у 1869 г.[46]

На цікавым малюнку 1843 г. ўладальніка маёнка мастака Вінцэнта Дмахоўскага злева, сярод дрэў бачны купал-банька[47] з крыжам царквы, у цэнтры пабудовы фальварка, а справа - барочны "скарбец".



*516. Nahorodowicze. Lamus--skarbczyk, przed 1939 r.*

***Скарбец да 1939 г.***

У 1934 г. былая барочная пабудова, так званы "скарбец" выконвала функцыі лямуса, а гаспадар, Станіслаў Дмахоўскі, памятаў, што гэта былы кальвінскі збор[48]. Дакладна вядома, што да 1939 г. "скарбец" яшчэ існаваў, бо гісторык і краязнавец Антон Грымайла-Прыбытка ў 1936 г. пісаў пра: *"жылы панскі дом з лістоўніцы, пабудаваны Тызенгаўзам ў сярэдзіне XVIII ст. і добра захаваны "скарбец" - былы кальвінскі збор і касцёл з паловы XVI ст., верагодна пабудаваны Руцкім… У 1569 г. перад Люблінскай уніяй тут быў праведзены з'езд дысідэнцкіх біскупаў"* [49].

[42] Литовские епархиальные ведомости № 44. 1886. С. 451.

[43] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильна, 1893. С. 92.

[44] Кулагін А.М. З архітэктурнай спадчыны / Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага р-на. Мінск, 1997. С. 362-364.

[45] Slownik Geograficzny Krolestwa Polskiego… Warszawa. 1895. T. 14. S. 558.

[46] Chlopicki E. Kartki z teki podroznej // Klosy. 1869. № 9.

[47] Назва паходзіць ад лацінскага слова baneum (так зваўся пуката-ўвагнуты посуд, якім карысталіся для абмывання ў тэрмах і купальнях, пазней - у баптыстэрыях пры абрадзе хрышчэння.

[48] Kurjer Wilenski № 243 (3133), 6 wrzesnia 1934.




***Нагародавіцкая царква. Сучасны выгляд.***

Архітэктурны стыль указвае, што "скарбец", верагодна, не быў кальвінскім зборам, прыкладам архітэктуры пратэстанскага збору нам можа служыць капліца ў Гайцюнішках. Магчыма, капліца ў Нагародавічах пабудавана тады, калі гэта маёмасць належала Наваградскай царкве і мітрапаліту Язэпу Руцкому, ці нават пазней, пры Тызенгаўзах[50].

Газета "Слова" ў 1935 г. паведаміла, што праваслаўны люд Лідчыны паважае памяць маршала Пілсудскага: *"Падчас праваслаўных адпустаў у вёсках Нагародавічы і Збляны (так званыя Пакровы), на якія сабраліся каля 2 000 чалавек, пасля заканчэння набажэнства, праваслаўны люд разам з святарамі прайшоў працэсіяй на могілкі да крыжа, пастаўленага ў памяць маршала, дзе на каленях адпраўлена ўрачыстае набажэнства за спакой душы маршала Пілсудскага"* [51].

Прэса стала друкавала тэксты падобнага кшталту, з Нагародавічаў: *"Памерла ў нас адна бедная, бедная кабета, якая жыла амаль выключна з жабрацтва. Дачка яе, Волька, ня маючы нічога за душой, хацела пахаваць сваю матку з удзелам мясцовага сьвяшчэнніка А. Сярпова. Пайшла яго маліць, кажучы, што заплаціць яна ня можа, бо не мае за што купіць нават кавалка хлеба. Бацюшка сказаў, што ў такім выпадку ён можа ўзяць кусок палатна. А дзяўчына і гэтага не мела. Тады бацюшка і дзіякан сказалі, што няма чаго прасіць, бо задарма не паедзем, а матушка сказала, што можна і так закопваць - не вылезе"* [52].

**Акт генеральнай візітацыі Нагародавіцкай царквы[53]**

**А. 1.**

**Вёска Нагародавічы.**

Царква пад тытулам Св. Мікалая ў Слонімскім павеце, Лідскім дэканаце, фундацыі Яснавялебнага пана Вельяміна Руцкога, мітрапаліта, зараз у каляцыі Яснавяльможных паноў Мураўскіх. Драўляная, дах і вежы - руіны, перад усім патрэбны вялікі рамонт, могілкі з крыжамі жалезнымі 25 локцяў, агароджаныя і з брамай ... Уваход у царкву праз бабінец, дзверы на падвойных жалезных завесах з зашчапкай, з ланцугом і прабоямі. Другія дзверы на падвойных жалезных завесах з зашчапкай і ланцугом, жалезнымі прабоямі і з навясным замком. У царкве хор агароджаны балясінамі, столь і падлога з дошкі, адзіночных лавак дзве, амбон і канфесіянал сталярнай работы, пафарбаваныя, пара пафарбаваных дзвярэй на жалезных завесах з зашчапкамі, двое бакавых дзвярэй, адны з іх з навясным замком.

***Вялікі алтар*** сталярнай работы, пафарбаваны, з абразом Св. Мікалая, ... з засовай, абразам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі: на ім промень ... срэбны, вотаў срэбных - 3, таблічак срэбных - 6, малых - 3, сярдэчка - 1, крыжык срэбны, шаты з тканіны, абразок Чанстахоўскай Найсвяцейшай Панны Марыі, рэлiквіярыяў[54] за шклом - пара 1, фіранак з кітайкі блакітных - пара 1, а іншая (пара) жоўтая старая. Прастол драўляны, на ім дараносіца сталярнай работы, ... пафарбаваныя, дзе захоўваюцца Святыя Дары ў срэбнай даразахавальніцы, усярэдзіне пазалочанай, з каронай уверсе і пазалочаным крыжам. Вялікае ўкрыжаванне пафарбаванае, драўлянае з пасійкай. Падсвечнікаў алтарных з волава - пар 3, настольных старых - 1 пара. Ручнікоў - 2. Абрус. Антымінс[55] яснавялебнага мітрапаліта Фларыяна Грабніцкага[56], покрыўка драўляная, сталярнай работы ... . заслона алтара пафарбаваная. Падушка пад Службоўнік камвольная (з чэсанай воўны, *рэд.*), дзве драўляные прыступкі.

---

[49] Antoni Grzymala-Przybytko. Krotki przewodnik turystyczny po powiatach Lidzkim i Szczuczynskim. Lida. 1936. S. 30.

[50] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Wroclaw - Krakow, 1997. T. 11. S. 460.

[51] Slowo № 287 (4136) 19 pazdziernika 1935.

[52] Беларуская Газета № 6, 26 жніўня 1933.

[53] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г. А. 1-2 адв.

[54] Рэліквіяр - ёмістасць для захавання рэліквій.

[55] Antimins - Антымінс (грэч. Anti - замест і лат. Mensa - Прастол). Ва ўсходнім абрадзе плат з ушытай у яго часціцай мошчаў якога-небудзь святога і надпісам біскупа. Неабходная прыналежнасць для здзяйснення поўнай Літургіі. Асвячаецца па адмысловым чыне толькі біскупам. Чатырохвугольны, з ільняной або шаўковай матэрыі плат, на якім паказваецца палажэнне Хрыста ў магілу; па кутах змяшчаюцца выявы чатырох евангелістаў, а на верхнім баку ўшываюцца часціцы мошчаў.

[56] Фларыян Грабніцкі (1664?, - 18 ліпеня 1762) - Скончыў Львоўскі папскі калегіюм (паводле іншых звестак - Віленскую акадэмію), доктар тэалогіі. Член ордэна базыльянаў (1709), епіскап віцебскі (1716-19), архіепіскап полацкі (1719-62), мітрапаліт кіеўскі (1748-62). Удзельнік Замойскага сабору грэка-каталіцкай царквы (1720). Ахвяраваў сродкі на адбудову Полацкага Сафійскага сабора.

***Бакавы алтар*** сталярнай работы, пафарбаваны, з абразом Св. Юзафа на маляваным палатне. Прастол драўляны, на ім драўлянае ўкрыжаванне з корпусам, алавяных падсвечнікаў - 2 пары. Ручнік - 1. ... абрус. Антымінс яснавялебнага мітрапаліта Грабніцкага. Заслона алтара драўляная, пафарбаваная.

***Другі бакавы алтар*** сталярнай работы, пафарбаваны, з абразом Звяставання Найсв. Панны Марыі. Прастол драўляны, на ім драўляная заслона алтара з корпусам. Драўляных падсвечнікаў - 2 пары. Ручнік - 1. .. абрус. Заслона алтара драўляная, пафарбаваная. Драўляны прыступак.

***Трэці бакавы алтар*** сталярнай работы, пафарбаваны

**А. 1 адв.**

з абразом Св. Тадэвуша, намаляваным на тканіне. Прастол драўляны, на ім драўляных падсвечнікаў - пара 1. Ручнік тканы - 1, абрус. Заслона алтара драўляная, пафарбаваная, 4 прыступкі.

***Чацвёрты бакавы алтар*** сталярнай работы з абразом Св. Антонія, намаляваны на тканіне, на ім срэбная таблічка і срэбны сыгнет з чэшскім шклом - 1. На Прастоле драўлянае ўкрыжаванне з корпусам, падсвечнікаў драўляных - пара 1. Ручнік тканы - 1, абрус. Заслона алтара драўляная, пафарбаваная, 1 прыступак.

***Срэбнае царкоўнае начынне.*** Паціраў срэбных з дыскасам, унутры пазалочаных - тры. Даразахавальніца - 1. Лыжачка срэбная - 1.

***Іншае начынне.*** Алавяная трайная мерніца, алавяных ампулак ... пара 1. Кадзільніца вялікая старая, алавяная Даразахавальніца для хворых, лыжачка ... - 1. Званоў алтарных - 8. Званоў у вежы - 2. У купале сігнатурка - 1. Кацялок вялікі для свянцонай вады - 1. Трымальнік паходні … жалезны - 1. Крыж працэсіяльны, пафарбаваны, з корпусам, харугвы гарусавыя з living рознымі абразамі, старыя - 4. Пераносны малы алтар простай работы з абразом Найсв. Панны Марыі па палатне з фіранкамі жоўтай кітайкі.

***Літургічнае ўбранне***. Рыза напалову залатога шыцця, кармазінавыя з галуном белым бантаеравым, з усім неабходным. 2-гая цяжкага шоўку, жоўтая з сінім, з усім неабходным. 3-цяя камлотавая, зялёная з ... 4-тая жалобная, з кітайкі, старая, патрабуе рамонту. Бурс дзве.

***Бялізна.*** Альбы[57] - дзве, швабскія з карункамі і гумераламі, старыя ... . Альба ... з гумералам, комжычак - 3. Кампаралаў - 6. Пурыфікатараў - 8. Паскаў камвольных - 3.

***Кнігі.*** Службоўнік ін-фоліо супрасльскі, другі службоўнік малы, стары трэбнік пашарпаны стары, другі новы супрасльскага друку, набыты мясцовым парахам. Евангелічка польская, евангелле з навукамі кс. Каржанецкага, навукі кс. Нароцкага, васьмігласнік[58] супрасльскага друку. Тэалогія маральная кс. Карынчэўскага, метрыкі хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў у трох кнігах. Інвентар парафіян, адна кніга.

***Землі плябаніі.*** Плябанія мела зямлю ў даўняй пацэсіі 3 валокі. Як бачна з ранейшых генеральных візітаў ... была заменена дваром па волі калятара, яснавяльможнага пана Мураўскага генер.-лейтэнанта войска Літоўскага, бо былое наданне грунтавалася на невядомых дакументах, як быццам толькі на вуснай дамове з Яснавялебным панам Мітрапалітам. Па меркаванні мясцовых улад, без агульнай дамовы. ... замененая зямля плябаніі запісана ў інвентар двара і ў карту, выкананую эканомам нагародавіцкім Юзафам Плаўскім і такім чынам:

... пляц адным бокам ляжыць ад Апанаса Карловіча, гэта значыць ад шнуроў сядзібных вёскі Нагародавічы. 2-гім бокам - ад сцяны (мяжы, *рэд.*) зямлі двара, адным канцом да мяжы Зачэпіцкай там жа і Гезгалаўскай, другім да сцяны за ракой Дзятлаўкай,

**А. 2.**

якая аддзяляе зямлі двара ад Сельскіх (вёскі Сялец ?), 12 моргаў і 220 прутоў у той жа змене ад дарогі за вёскай. Паласа 2-я ляжыць адным бокам ад участка Сельскага, другім бокам - да вёскі Нагародавічы, другім - да мяжы Зачэпічаў, трэцім - да ракі Дзятлаўкі, памер - 22 моргі і 75 прутоў, тут жа маецца неўжываная зямля памерам 3 моргі. У другім кавалку не выкарыстанай ляжыць палова, адным бокам да сцяны, якая аддзяляе першы палетак ад другога і да царкоўнай зямлі. Другім, ад сялянскіх шнуроў - далейшае апісанне царкоўнай зямлі - шнуроў сялянскіх, адным канцом да мяжы Зачэпічаў, другім да лесу, які завецца Яліна, ці ад дарогі на Зачэпічы і Лешыцы, мае моргаў 14 ... .

[...]

Усёй зямлі з сенажаццю і неўжыванай - 3 валокі, 13 моргаў і 64 пруты.

Плябань на той жа замененай зямлі, ад двара і ад царквы ў бок вёскі, уезд з вуліцы, будынак пабудаваны за кошт скарбу з круглага дрэва. У плябані маецца: светлая хата з каморай, абабітай дошкай. Вокнаў белага шкла - 4, вокнаў малых - 1, печ кафляная, белая з комінам, які выходзіць вонкі. Столь і падлога з дошкі, трое дзвярэй на жалезных завесах і з клямкамі. Сені з дрэва, пасля іх хата плябані ... саломай пакрытая, за ёй - варыўня, якая мае 2 сцяны, каля яе шопка, купленая сучасным парахам за 24 зл. у Апанаса Капковіча, суседа. У тым жа шэрагу - тры гаспадарчыя хлявы, каля якіх хлеў ... куплены за 15 зл. у Дамініка Капковіча, суседа. Гэтыя ўсе хлявы крытыя саломай. Насу-

---

[57] Альба (лат. alba - "белая") - доўгае белае літургічнае адзенне клірыкаў, падперазанае вяроўкай. Нашэнне альбы абавязкова для клірыка, які здзяйсняе літургію. Выраблеецца з тонкай ільняной, баваўнянай ці ваўнянай тканіны. Паходзіць ад старажытнарымскай доўгай кашулі, якую насілі пад тунікай. Яе аналагамі ва ўсходняй царкве з'яўляюцца стыхар і, у святароў, подрызнік.

[58] Актоіх.

праць, цераз дарогу, добрае гумно з падвойнай брамай, каля яго адна адрына з дзвюмя брамамі і свіран з дзвярмі на бегунках з засаўкай і жалезнай зашчапкай, з прабоямі, пакрытая саломай. Усе гэтыя пабудовы часткова за кошт скарбу, часткова за кошт сучаснага святара пабудаваны.

Дакументы. Фундушу няма, і ніякага няма ... дзе бы знаходзілася, акрамя візітаў, як напрыклад, візіта вялебнага святара Бялькевіча, сурагатара гарадзенскага ад 1763 года, другая візіта вялебнага святара Пятровіча, дэкана Лідскага ад 1768 г., візіта вялебнага святара Скарымскага ад 1754 г., дэкрэт ад 1759 г. з ... суда мітрапаліта аб адасабленні парафіі ад Зблянскай царквы, візіта вялебнага святара Ануфрыя Марцінеўскага, дэкана

**А. 2 адв.**

Цырынскага, плябана Любчанскага ад 1784 г., 31 мая. Увага. Фундавана на вечны час 6 коп жыта вялебным святаром Пятровічам.

Капліца ў Зачэпічах, вёсцы яснавялебных паноў Развадоўскіх, зараз знаходзіцца і да нагародавіцкай парафіяльнай царквы належыць, ... адрамантаваная, саломай крытая, ніякіх фундушоў і начыння не мае, у патрэбах з Нагародавіч фінансуецца.

Пры гэтай царкве адміністратар, вялебны святар Васіль Кунцэвіч, высвечаны яснавялебным панам Гедэонам Гарбацкім, біскупам Пінскім і Тураўскім у 1776 г., дня 18 лістапада ў Пінску. Пераведзены на месца з дыяцэзіі Пінскай ... у 1784 г. ...

Так як замена зямлі і сенажаці і перанясенне новапабудаванай плябані адбылося без выраку ўладаў, дык ... двор можа праз сілу гвалтоўна запатрабаваць зямлю, таму трэба ім усё растлумачыць пра сваю зямлю і сенажаць, якія былі некалі замененыя, і пра плябань, і прасіць яснавяльможных калятараў падпісаць дакумент, які забяспечыць і ўзаконіць такую замену ... будзе лепей ... калі можна будзе мець карту, на якой будзе абазначана зямля і сенажаць плябані.

Царква з купалам на даху падобна на руіну і таму абавязваем ... звярнуцца да яснавяльможных калятараў, каб зрабіць рамонт, а калі яны адмовяцца рупліва звярнуцца да пабожных парафіян, каб праз складкі атрымаць грошы на дах і рэстаўрацыю гэтай святыні, бо калі праз год і 6 тыдняў пасля падпісання гэтага дакумента пакрыта і адрэстаўравана не будзе, выракам мясцовага дэкана павінна быць зачынена.

Калі стане вядома ..., што зямля нададзеная для шпіталя забраная дварам і P.K.C.W. палкоўнікам Слонімскім рэквізаваная, тады ... прасіць іх як пабожных людзей, а калі трэба, так і нават праз закон даводзіць. Прастол дзе захоўваюцца Святыя дары павінен быць прыстойным і ахайным, таму лепей яго схаваць чым трымаць. Дараносіцу для Святых Дароў для хворых трэба мець з срэбра, прасіць аб гэтым вялебнага святара дэкана ... .

Пункты альбо Епіскапскія Распараджэнні і (кнігу) "Прыпадкі" ... каб меў перад вачыма і пільна і часта іх чытаў: сабе і сваім парафіянам ладзіць канферэнцыі ці экзамены штомесяц і штоквартал, ніколі не прапускаць, каб рэгулярна праводзіў набажэнства, трымаў пільнасць і дбайнасць у парафіі, меў чуласць да душ і жыццяў табе даручаных, ... прамовы рабіць. Быць узорным і цвярозым як належыць духоўнаму стану, пільна гэтым дэкрэтам рэфармацыйным замацоўваем і даём распараджэнне.

**Парафіяне Нагародавіцкай грэка-каталіцкай царквы ў 1829 г.[59]**

***Дзедзічная вёска Нагародавічы яснавяльможнай пані Дмахоўскай***

1. Антон Вайчык, 39 г.; жонка Антона Анна, 26 г.; Разалія Вайчык, 34 г.; дачка Разаліі Кацярына, 16 г.; дачка Антона Фурэлата, 9 г.; дачка Антона Канстанцыя, 3 г.; дачка Разаліі Аўдоцця, 1 г.

2. Аляксандр Вайчык, 36 г.; пляменнік Аляксандра, Адам, 7 г.; Агата Вайчык, 36 г.; дачка Агаты Вікторыя, 18 г.; дачка Агаты Канстанцыя, 8 г.; жонка Аляксандра Фрузына, 29 г.; дачка Аляксандра Людвіся, 7 г.; дачка Агаты Анна, 2 г.

3. Міхал Сямашка, 69 г.; сын Міхала Міхал, 20 г.; сын Міхала Дамінік, 44 г.; сын Даמініка Ян, 22 г.; сын Дамініка Раман, 9 г.; сын Дамініка Сільвестр, 3 г.; жонка Міхала Пракседа, 49 г.; дачка Дамініка Анна, 30 г.

4. Даніла Шыкуць, 39 г.; брат Данілы Эльяш, 15 г.; брат Данілы Міхал, 12 г.; брат Данілы Францішак, 9 г.; сястра Эльяша Хвядора, 16 г.; сястра Эльяша Магдалена, 4 г.; жонка Данілы Аўдоцця, 37 г.; дачка Данілы Мар'яна, 10 г.

5. Ян Піліповіч, 43 г.; брат Яна Антон, 29 г.; жонка Яна Францішка, 34 г.; дачка Яна Леанора, 5 г.; жонка Антона Агата, 25 г.; дачка Антона Язафата, 1 г.

6. Максім Амелянчык, 79 г.; сын Максіма Максім, 25 г.; сын Максіма Юзаф, 5 г.; зяць Максіма Адам Вайчык, 49 г.; сын Адама Мікалай, 49 г.; сын Адама Сымон, 12 г.; сын Адама Ежы, 5 г.; сын Адама Казімір, 8 г.; сын Адама Міхал, 3 г.; сын Максіма Паўлюк, 1 г.; жонка Адама Фруксына, 22 г.; жонка Максіма Разаля, 36 г.

7. Ерамей Амелянчык, 69 г.; сын Ерамея Конрад, 23 г.; сын Ерамея Герась, 18 г.; сын Ерамея Мікалай, 6 г.; сын Ерамея Даніла, 28 г.; сын Данілы Адам, 4 г.; жонка Ерамея Анна, 49 г.; жонка Данілы Агата, 27 г.; дачка Данілы Настасся, 4 г.

8. Павел Карповіч, 69 г.; зяць Паўла Васіль Вайчык, 29 г.; жанчыны лацінскага абраду.

9. Базыль Шукуць, 39 г.; сын Агаты Смаковіч Баніфацый, 27 г.; жонка Базыля Разалія, 29 г.; маці Разаліі Агата Смаковіч, 59 г.

10. Гжэгаш Капковіч, 38 г.;сын Гжэгаша Сцяпан, 10 г.; сын Гжэгаша Вінцэнт, 3 г.; брат Гжэгаша Міхал, 29 г.; жонка Гжэгаша Крысціна, 29 г.; дачка Гжэгаша Цiліна, 3 г.; жонка Міхала Палюся, 37 г.; дачка

[59] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Спіс парафіян Лідскай грэка-каталіцкага дэканату 1829 г. А. 43-50.

Гжэгаша Марцеля, 4 г.

11. Лаўрэнцій Стойка, 15 г.; жанчыны лацінскага абраду.

12. Лукаш Піліповіч, 40 г.; брат Лукаша Андрэй, 24 г.; брат Лукаша Раман, 45 г.; сын Рамана Сцяпан, 5 г.; жонка Андрэя Кацярына, 24 г.; дачка Андрэя Тэфіла, 1 г.; дачка Рамана Хвядора, 10 г.; дачка Рамана Тэкля, 5 г.

13. Юзаф Піліповіч, 40 г.; сын Юзафа Максім, 11 г.; сын Юзафа Вінцэнт, 5 г.; сын Юзафа Якуб, 1 г.; жонка Юзафа Крысціна, 39 г.; дачка Юзафа Мар'яна, 20 г.; дачка Юзафа Зоф'я, 18 г.; дачка Юзафа Петранеля, 2 г.

14. Васіль Шыкуць, 69 г.; сын Васіля Васіль, 24 г.; сын Васіля Тамаш, 5 г.; жонка Васіля Агата, 29 г.; дачка Васіля Анна, 1 г.

15. Міхал Шыкуць, 25 г.; брат Міхала Ян, 20 г.; сын Міхала Мікалай, 5 г.; сын Міхала Васіль, 1 г.; жонка Яна Анна, 24 г.; дачка Яна Кацярына, 1 г.

16. Марцін Шыкуць, 40 г.; жонка Марціна Палюся, 39 г.; сястра Мар'яны Анна, 18 г.; сястра Марціна Мар'яна, 28 г.; дачка Марціна Магдалена, 1 г.

17. Даніла Капковіч, 30 г.; сын Данілы Караль, 14 г.; брат Данілы Вінцэнты, 5 г.; жонка Данілы Хвядора, 40 г.; Аўдоцця Капковіч, 49 г.

18. Ян Капковіч, 30 г.; Васіль Піліповіч, 29 г.; сын Васіля Вінцэнт, 5 г.; сын Яна Мікалай, 4 г.; жонка Яна Ульяна, 30 г.; жонка Васіля Мар'яна, 31 г.

19. Кандрат Капковіч, 55 г.; сын Кандрата Ігнацій, 20 г.; жонка Кандрата Мар'яна, 45 г.; дачка Кандрата Юзафата, 11 г.

20. Ян Чашэйка, 50 г.; сын Яна Пётр, 14 г.; сын Яна Гарасім, 9 г.; сын Яна Якуб, 1 г.; жонка Яна Хвядора, 40 г.; жонка Пятра Кацярына, 41 г.

21. Гжэгаш Сямашка, 60 г.; сын Гжэгаша Аляксандр, 19 г.; жонка Гжэгаша Мар'яна, 50 г.

22. Аляксандр Піліповіч, 18 г.; сын Наталлі Сцяпан, 9 г.; сын Дароты Караль; Наталля Піліповіч, 48 г.; дачка Наталлі Разалія, 14 г.; удава Дарота, 21 г.

23. Мар'ян Смаковіч, 24 г.; прымак Мар'яна Ян Амелянчык, 21 г.; жонка Мар’яна Ўльяна, 22 г.; жонка Яна Марцеля, 23 г.; дачка Яна Настасся, 2 г.

24. Дзяніс Шыкуць, 50 г.; сын Дзяніса Ян, 20 г.; жонка Яна Марта, 23 г.;

25. Юзаф Захара, 45 г.; сын Юзафа Васіль, 11 г.; сын Юзафа Антон, 1 г.; Казімір Ваўчэцкі, 17 г.; жанчыны лацінскага абраду.

26. Юзаф Чашэйка, 50 г.; брат Юзафа Раман, 30 г.; жонка Юзафа Ева, 52 г.; жонка Рамана Анна, 31 г.; дачка Рамана Мар'яна, 3 г.

27. Дзям'ян Януш, 51 г.; жонка Дзям'яна Юстына, 35 г.; дачка Дзям’яна Мар'яна, 13 г.; дачка Агаты Агата, 14 г.; дачка Юстыны Тэкля, 2 г.

28. Габрыэль Капковіч, 54 г.; сын Габрыэля Валенты, 24 г.; жонка Габрыэля Магдалена, 52 г.; дачка Габрыэля Юстына, 10 г.; жонка Валенты Мар'яна, 36 г.; дачка Валенты Багуміла, 2 г.

29. Сцяпан Капковіч, 50 г.; Юзаф Вайчык, 65 г.; сын Сцяпана Каспар, 3 г.; жонка Сцяпана Ева, 42 г.; дачка Сцяпана Малгажата, 24 г.; дачка Сцяпана Мар'яна, 14 г.; жонка Юзафа Мар'яна, 36 г.; дачка Юзафа Леанора, 2 г.

30. Васіль Капковіч, 46 г.; сын Васіля Леан, 21 г.; сын Васіля Юзаф, 17 г.; сын Васіля Ян, 14 г.; жонка Васіля Анна, 41 г.; дачка Васіля Аўдоцця, 25 г.; дачка Васіля Леанора, 10 г.; дачка Васіля Тэрэза, 8 г.

***Дзедзічны засценак Гезгалы Найяснейшай панны князёўны Радзівіл з Нясвіжа***

1. Міхал Хрышчановіч, 59 г.; сын Міхала Геранім, 35 г.; сын Гераніма Язафат, 8 г.; жонка Міхала Анна, 56 г.; жонка Гераніма Анна, 33 г.; дачка Гераніма Францішка, 2 г.

2. Андрэй Хрышчановіч, 37 г.; сын Андрэя Караль, 17 г.; сын Андрэя Барыс, 8 г.; сын Андрэя Вінцэнт, 2 г.; Сцяпан Хрышчановіч, 80 г.; сын Сцяпана Антон, 2 г.; сын Сцяпана Ян, 1 г.; жонка Сцяпана Людвіся, 46 г.; дачка Сцяпана Францішка, 26 г.; дачка Францішкі Канстанцыя, 2 г..

3. Юзаф Балабанскі, 48 г.; сын Юзафа Тэадор, 11 г.; сын Юзафа Ян, 8 г.; сын Юзафа Леан, 7 г.; сын Юзафа Юзаф, 2 г.; жонка Юзафа Аўдоцця, 36 г.; жонка Юзафа Пракседа, 51 г.; дачка Юзафа Вінцэнта, 2 г.

4. Тамаш Балабанскі, 45 г.; сын Тамаша Пётр, 2 г.; Магдалена Балабан, 68 г.; жонка Тамаша Тэрэза, 26 г.

5. Якуб Касько, 44 г.; сын Якуба Станіслаў, 15 г.; сын Якуба Антон, 3 г.; сын Крысціны Эльяш, 16 г.; Юстына Касько, 60 г.; жонка Якуба Альжбета, 27 г.; дачка Крысціны Кацярына, 17 г.

6. Сымон Хрышчановіч, 25 г.; брат Сымона Дамінік, 20 г.; брат Сымона Ян, 16 г.; брат Сымона Адам, 8 г.; жонка Сымона Агата, 29 г.

7. Раман Шчотка, 56 г.; сын Рамана Марцін, 36 г.; сын Трахіма Францішак, 27 г.; сын Марціна Тамаш, 7 г.; сын Марціна Мікалай, 4 г.; жонка Рамана Тэкля, 58 г.; жонка Марціна Настасся, 36 г.; дачка Марціна Тэадора, 5 г.; дачка Марціна Тэкля, 6 г.; дачка Марціна Марта, 3 г.

8. Тарас Тананушка, 53 г.; сын Тараса Цыпрыян, 21 г.; сын Тараса Ігнацій, 3 г.; дачка Тараса Кацярына, 17 г.; дачка Тараса Антоля, 15 г.; дачка Тараса Антаніна, 5 г.; дачка Тараса Анна, 18 г.

9. Ян Хрышчановіч, 18 г.; сын Сцяпана Мікалай, 11 г.; сын Сцяпана Амбражэй, 8 г.; жанчыны лацінскага абраду.

10. Дзмітрый Хрышчановіч, 56 г.; жонка Дзмітрыя Настасся, 48 г.; дачка Дзмітрыя Анна, 21 г.; дачка Дзмітрыя Эльявэла, 8 г.

11. Сымон Таўкун, 38 г.; сын Сымона Вінцэнт, 2 г.; жонка Сымона Барбара, 48 г.; дачка Сымона Караліна, 17 г.; дачка Сымона Тэрэза, 8 г.; дачка Сымона Марта, 7 г.; дачка Сымона Паўліна, 2 г.

12. Андрэй Тананушка, 66 г.; сын Андрэя Эльяш, 11 г.; сын Андрэя Віктар, 20 г.; сын Андрэя Сымон, 26 г.; жонка Андрэя Палюся, 59 г.; жонка Сымона Тэадора, 21 г.; дачка Сымона Тэкля, 5 г.; жонка Віктара Альжбета, 27 г.

13. Аляксандр Тананушка, 37 г.; сын Аляксандра Адам, 5 г.; Трахім Тананушка, 49 г.; Эльяш Тананушка

ка, 25 г.; жонка Аляксандра Мар'яна, 31 г.; дачка Аляксандра Агнешка, 3 г.; дачка Аляксандра Магдалена, 2 г.

14. Ян Хрышчановіч, 76 г.; сын Яна Антон, 15 г.; сын Яна Вінцэнт, 5 г.; жанчыны лацінскага абраду.

15. Вінцэнт Яварэц, 47 г.; брат Вінцэнта Сцяпан, 26 г.; сын Вінцэнта Людвік, 3 г.; жонка Вінцэнта Тэадора, 37 г.; дачка Вінцэнта Леанора, 16 г.; дачка Вінцэнта Вінцэля, 10 г.;дача Вінцэнта Алена, 2 г.

16. Андрэй Смольскі, 32 г.; Ян Смольскі, 26 г.; жонка Андрэя Настасся, 28 г.; дачка Андрэя Канстанцыя, 3 г.

17. Якуб Яварэц, 26 г.; сын Якуба Андрэй, 21 г.; сын Якуба Вінцэнт, 4 г.; жанчыны лацінскага абраду.

18. Сын Палюсі Караль, 28 г.; сын Палюсі Францішак, 17 г.; Палюся Хрышчановіч, 56 г.

19. Сын Крысціны Сымон, 24 г.; сын Крысціны Фелікс, 21 г.; Крысціна Хрышчановіч, 56 г.; дачка Крысціны Кацярына, 18 г.; дачка Крысціны Мар'яна, 15 г.

20. Караль Хрышчановіч, 38 г.; сын Караля Пётр, 18 г.; сын Караля Ігнацій, 11 г.; сын Караля Язафат, 2 г.; сястра Караля Кацярына, 26 г.; сястра Настасся, 18 г.

21. Андрэй Тукалоўскі, 36 г.; брат Андрэя Юзаф, 18 г.; жонка Юзафа Анна, 26 г.;

22. Ігнацій Хрышчановіч, 42 г.; жанчыны лацінскага абраду.

23. Гжэгаш Хрышчановіч, 60 г.; сын Гжэгаша Юзаф, 29 г.; брат Гжэгаша Аляксандр, 76 г.; сын Аляксандра ..., 21 г.; жонка Гжэгаша Тэадора, 49 г.; дачка Гжэгаша Альжбета, 21 г.; дачка Гжэгаша Мар'яна, дачка Гжэгаша Пракседа, 14 г.; дачка Аляксандра Барбара, 20 г.

24. Дзмітрый Хрышчановіч, 31 г.; жонка Дзмітрыя Антаніна, 27 г.; дачка Дзмітрыя Юстына, 4 г.; дачка Дзмітрыя Ева, 2 г.; маці Настассі Анна, 68 г.; сястра Дзмітрыя Францішка, 28 г.; дачка Францішкі Юзэфа, 2 г.

25. Пётр Хрышчановіч, 17 г.; брат Пятра Адам, 15 г.; сын Кацярыны Антон, 26 г.; брат Пятра Якуб, 8 г.; дачка Кацярыны Тэкля, 21 г.

26. Марцін Яварэц, 66 г.; сірата Марціна Вінцэнт Касько, 26 г.; сын Вінцэнта Міхал, 3 г.; жонка Марціна Кацярына, 46 г.

27. Ян Пухоўскі, 28 г.; брат Яна Баніфацый, 21 г.; сястра Яна Тэрэза, 24 г.; сястра Яна Мар'яна, 18 г.; сястра Яна Агата, 13 г.; сястра Яна Тэадора, 11 г.; дачка Тэрэзы Марта, 2 г.

28. Ян Балабанскі, 89 г.; сын Яна Ян, 40 г.; жонка Яна Алена, 31 г.; дачка Яна Паўліна, 17 г.; дачка Яна Вікторыя, 2 г.

29. Казімір Зальчоўскі, 46 г.; сын Казіміра Ян, 10 г.; Сцяпан Яварэц, 32 г.; Мар'яна Басай, 33 г.; жонка Сцяпана Магдалена, 28 г.; дачка Сцяпана Барбара, 2 г.

30. Эльяш Пухоўскі, 29 г.; сын Эльяша Антон, 2 г.; Кацярына Пухоўская, 70 г.; дачка Кацярыны Агата, 20 г.; дачка Кацярыны Магдалена, 21 г.

31. Сымон Пухоўскі, 52 г.; сын Сымона Станіслаў, 21 г.; сын Сымона Вінцэнт, 18 г.; сын Сымона Ян, 13 г.; сын Сымона Ігнацій, 8 г.; сын Сымона Міхал, 2 г.; сын Палюсі Мікалай, 21 г.; сын Палюсі Данель, 11 г.; здымае кут Ежы Хрышчановіч, 31 г.; сын Ежы Юстын, 3 г.; жонка Ежы Анна, 28 г.

32. Аляксандр Зубарцэвіч, 52 г.; сын Аляксандра Якуб, 19 г.; сын Аляксандра Ян, 11 г.; сын Аляксандра Сымон, 3 г.; жонка Аляксандра Марта, 46 г.

33. Базыль Апольскі, 59 г.; сын Базыля Ян, 26 г.; сын Базыля Францішак, 18 г.; сын Базыля Якуб, 11 г.; здымаюць кут: Гжэгаш Балабанскі, 71 г.; сын Гжэгаша Міхал, 36 г.; сын Яна Ян, 2 г.; дачка Базыля Вікторыя, 24 г.

34. Дамінік Хрышчановіч, 48 г.; сын Даменіка Ян, 17 г.; бацька Анны Павел Пяр'яновіч, 71 г.; Ігнацій Пучко, 33 г.; сын Ігнацыя Сымон, 2 г.; сын Даменіка Тамаш, 3 г.; сын Даменіка Ігнацій, 1 г.; жонка Даменіка Анна, 33 г.; дачка Даменіка Зоф'я, 14 г.; дачка Даменіка Мар'яна, 4 г.; дачка Даменіка Тэкля, 2 г.; жонка Ігнацыя Агата, 31 г.; дачка Ігнацыя Язафата, 2 г.

***Дзедзічная вёска Зачэпічы Найяснейшай панны князёўны Радзівіл з Нясвіжа***

1. Міхал Пышко, 69 г.; сын Міхала Ян, 16 г.; сын Мар'яны Мікалай, 8 г.; сын Мар'яны Сымон, 6 г.; жанчыны лацінскага абраду.

2. Юзаф Пышко, 52 г.; сын Юзафа Пётр, 28 г.; сын Юзафа Міхал, 2 г.; сын Пятра Сцяпан, 1 г.; жонка Язафата Марта, 38 г.; дачка Юзафа Леанора, 17 г.; жонка Яна Філіна, 52 г.; жонка Пятра Альжбета, 21 г.

3. Ануфрый Яновіч, 42 г.; сын Ануфрыя Юзаф, 8 г.; сын Ануфрыя Ігнацій, 7 г.; сын Ануфрыя Леон, 3 г.; сын Ануфрыя Міхал; жонка Ануфрыя Даміцеля, 36 г.; дачка Палюсі Агнешка, 21 г.; дачка Палюсі Францішка, 19 г.; дачка Ануфрыя Магдалена, 3 г.

4. Мацей Шкуль, 76 г.; сын Мацея Мацей, 18 г.; сын Мацея Адам, 11 г.; сын Мацея Ануфры, 15 г.; сын Мацея Пракоп, 22 г.; сын Пракопа Ян, 3 г.; жонка Мацея Мар'яна, 52 г.; жонка Пракопа Крысціна, 31 г.

5. Антон Гаркач, 87 г.; Эльяш Калодка, 61 г.; сын Эльяша Яўхім, 18 г.; сын Эльяша Ежы, 3 г.; сын Эльяша Тэадор, 2 г.; жонка Антона Барбара, 66 г.; жонка Эльяша Тэадора, 51 г.

6. Ян Гаркач, 55 г.; сын Яна Ян, 5 г.; брат Яна Якуб, 36 г.; сын Якуба Бенядзікт, 2 г.; жонка Яна Хвядора, 36 г.; дачка Яна Петранеля, 3 г.; жонка брата Яна Якуба Мар'яна, 29 г.

7. Ян Калюта, 36 г.; швагер Яна Габрыэль Івашэвіч, 45 г.; сын Калюты Лаўрэнцій, 2 г.; сын Габрыэля Мікалай, 4 г.; сын Яна Тамаш, 2 г.; сын Габрыэля Антон, 2 г.; жонка Яна Дарота, 29 г.; дачка Яна Зузана, 15 г.; дачка Яна Тэафіла, 8 г.; дачка Яна Магдалена, 2 г.; маці Габрыэля Хвядора, 67 г.

8. Тамаш Гаркач, 60 г.; сын Тамаша Юзаф, 15 г.; сын Тамаша Леан, 12 г.; сын Тамаша Марцін, 6 г.; сын Тамаша Даніла, 26 г.; жонка Тамаша Ульяна, 46 г.; жонка Данілы Дарота, 28 г.; дачка Данілы Юсціна, 10 г.; дачка Данілы Пракседа, 3 г.

9. Ігнацій Пышко, 22 г.; пляменнік Марціна Ян, 11 г.; Мар'яна Пышко, 56 г.; дачка Мар'яны Настасся, 8 г.; жонка Ігнацыя Фрузына, 29 г.

10. Тыльмон Пышко, 72 г.; Аляксандр Міза-

рэвіч, 29 г.; сын Аляксандра Андрэй, 6 г.; сын Аляксандра Сцяпан, 3 г.; жонка Аляксандра Барбара, 31 г.

11. Ян Вайцюшкевіч, 59 г.; брат Яна Ігнацій, 36 г.; сын Ігнація Якуб, 6 г.; сын Ігнація Антон, 2 г.; сын Яна Філір, 1 г.; жонка Яна Люцыя, 46 г.; дачка Яна Мар'яна, 17 г.; дачка Яна Язафата, 3 г.; жонка Ігнація Алёна, 28 г.

12. Антон Скабейка, 56 г.; сын Антона Даніла, 16 г.; жонка Антона Аўдоцця, 36 г.; дачка Антона Магдалена, 8 г.; дачка Антона Алёна, 3 г.; дачка Антона Анна, 2 г.

13. Базыль Вайцюшкевіч, 29 г.; яго брат Юзаф, 21 г.; Тэкля Вайцюшкевіч, 56 г.; жонка Базыля Пракседа, 26 г.

14. Базыль Калотка, 56 г.; сын Базыля Якуб, 26 г.; сын Базыля Леон, 21 г.; сын Базыля Адам, 15 г.; жонка Базыля Магдалена, 46 г.

15. Тодар Пышко, 33 г.; сын Тодара Даніла, 5 г.; сын Тодара Эльяш, 2 г.; жонка Тодара Настасся, 31 г.; дачка Тодара Кацярына, 3 г.

16. Ян Яновіч, 55 г.; сын Яна Гжэгаш, 18 г.; сын Яна Андрэй, 16 г.; жонка Яна Мар'яна, 48 г.;

17. Сцяпан Шкуль, 52 г.; сын Сцяпана Сцяпан, 15 г.; жонка Сцяпана Аўдоцця, 42 г.

18. Пётр Вайцюшкевіч, 36 г.; брат Агаты Леан Шкуль, 36 г.; сын Леона Ян, 2 г.; жонка Пятра Агата, 36 г.; дачка Пятра Пракседа, 10 г.; дачка Пятра Кацярына, 3 г.

19. Гжэгаш Тананушка, 46 г.; сын Гжэгаша Ян, 15 г.; брат Гжэгаша Тодар, 29 г.; жонка Гжэгаша Марта, 29 г.; жонка Тодара Хвядора, 29 г.; дачка Тодара Альжбета, 10 г.; дачка Тодара Паўліна, 3 г.

20. Вінцэнт Тумін, 29 г.; жонка Вінцэнта Наталля, 26 г.

21. Тодар Баброўскі, 29 г.; брат Тодара Ян,16 г.; другі брат Антон, 9 г.; брат Тодара Пётр, 24 г.; жонка Леана Юсціна, 36 г.; жонка Тодара Тэкля, 28 г.

22. Конрад Тананушка, 86 г.; сын Конрада Якуб, 46 г.; сын Якуба Юзаф, 10 г.; сын Конрада Андрэй, 29 г.; сын Якуба Ануфрый, 29 г.; сын Андрэя Сцяпан, 1 г.; жонка Якуба Тадора, 36 г.; дачка Якуба Марта, 2 г.; жонка Андрэя Кацярына, 26 г.; дачка Андрэя Тадора, 2 г.; дачка Якуба Наталля, 1 г.

23. Тамаш Бычола, 39 г.; Ян Яновіч, 36 г.; жонка Тамаша Пракседа, 32 г.; дачка Тамаша Францішка, 2 г.; дачка Яна Антаніна, 3 г.

24. Пётр Місарэвіч, 59 г.; сын Пятра Конрад, 21 г.; сын Пятра Канстанты, 3 г.; жонка Пятра Агата, 46 г.

25. Сымон Бычола, 51 г.; сын Сымона Ян, 21 г.; жонка Сымона Палюся, 46 г.; дачка Сымона Тадора, 20 г.; дачка Сымона Мар'яна, 15 г.

26. Міхал Барташэвіч, 46 г.; швагер Карпей Аўсяны, 30 г.; сын Карпея Казімір, 5 г.; сын Карпея Леан, 2 г.; жонка Міхала Крысціна, 39 г.; жонка Карпея Магдалена, 29 г.

27. Сцяпан Калодка, 39 г.; сын Сцяпана Леан, 2 г.; жонка Сцяпана Людвіся, 36 г.; дачка Сцяпана Марта, 5 г.; дачка Сцяпана Агата, 2 г.

28. Лукаш Калодка, 50 г.; жонка Лукаша Дарота, 46 г.

19. Леан Калотка, 36 г.; сын Леана Сымон, 3 г.; жонка Леана Настасся, 31 г.; дачка Леана Тэкля, 7 г.;

***Дзедзічная вёска Бандары Найяснейшай панны князёўны Радзівіл***

1. Павел Пышко, 60 г.; жонка Паўла Агата, 66 г.; дачка Паўла Мар'яна, 19 г.

2. Філіп Міхальцэвіч, 22 г.; брат Філіпа Міхал, 17 г.; брат Філіпа Андрэй, 15 г.; Альжбета Міхальцэвіч, 59 г.; жонка Андрэя Мар'яна, 30 г.; дачка Андрэя Барбара, 5 г.

3. Філіп Грышкевіч, 48 г.; сын Філіпа Ян, 21 г.; сын Філіпа Габрыэль, 15 г.; сын Філіпа Барталамей, 18 г.; сын Яна Дамінік, 2 г.; жанчыны лацінскага абраду.

4. Сцяпан Пышко, 31 г.; сын Сцяпана Дамінік, 6 г.; жонка Сцяпана Тэкля, 28 г.; дачка Сцяпана Магдалена, 3 г.

5. Барталамей Саўка, 53 г.; сын Сымона Казімір, 19 г.; здымае кут Мікалай Акраец, 51 г.; сын Мікалая Ян, 19 г.; сын Мікалая Ежы, 17 г.; сын Мікалая Францішак, 2 г.; сястра Сымона Францішка, 28 г.

6. Антон Дубровік, 31 г.; сын Антона Тадэвуш, 8 г.; сын Антона Тамаш, 3 г.; жонка Антона Пракседа, 30 г.; дачка Антона Настасся, 8 г.; дачка Антона Мар'яна, 3 г.

7. Ян Дубровік, 48 г.; Ян Міхалевіч, 20 г.; сын Яна Юзаф, 3 г.; жонка Яна Ўльяна, 41 г.; дачка Яна Палюся, 20 г.

8. Лукаш Грышкевіч, 41 г.; жонка Лукаша Аўдоцця, 36 г.; Люцыя Ушаковіч, 20 г.

9. Ян Ігнатчык, 40 г.; брат Яна Якуб, 16 г.; сын Яна Дамінік, 2 г.; жанчыны лацінскага абраду.

10. Міхал Ігначык, 40 г.; сын Міхала Якуб, 5 г.; жанчыны лацінскага абраду.

11. Андрэй Санюк, 66 г.; сын Андрэя Тамаш, 26 г.; сын Андрэя Дамінік, 18 г.; сын Андрэя Караль, 12 г.; сын Андрэя Міхал, 2 г.; жонка брата Андрэя Тэрэза Санюк, дачка Андрэя Ева, 15 г.

12. Пётр Грышкевіч, 40 г.; сын Пятра Сцяпан, 18 г.; сын Пятра Казімір, 17 г.; сын Пятра Філіп, 23 г.; сын Філіпа Вінцэнт, 3 г.; сын Філіпа Ян, 2 г.; жонка Філіпа Анна, 23 г.; дачка Філіпа Антаніна, 3 г.

13. Людвік Грышкевіч, 26 г.; брат Людвіка Андрэй, 11 г.; Агата Грышкевіч, 40 г.; сястра Людвіка, Наталля, 24 г.; сястра Людвіка Кацярына, 18 г.; сястра Людвіка Мар'яна, 13 г.; сястра Людвіка Антоля, 11 г.; сястра Людвіка Барбара, 10 г.; сястра Людвіка Магдалена, 2 г.

14. Антон Грышкевіч, 31 г.; Тыльмон Грышкевіч, 42 г.; сын Тыльмона Сцяпан, 16 г.; сын Тыльмона Тамаш, 9 г.; сын Тыльмона Андрэй, 5 г.; жонка Антона Райна, 28 г.; жонка Тыльмона Мар'яна, 31 г.; дачка Тыльмона Магдалена, 8 г.; дачка Тыльмона Малгажата, 2 г.

15. Сцяпан Грышкевіч, 30 г.; жанчыны лацінскага абраду.

***Дзедзічная вёска Нясілаўцы Найяснейшай панны князёўны Радзівіл***

1. Базыль Урубель, 38 г.; сын Базыля Пётр; брат Базыля Марцін Санюк, 50 г.; сын Марціна Антон, 20 г.; сын Марціна Марцін, 6 г.; жонка Базыля Фрузына, 28 г.; жонка Марціна Агата, 42 г.; жонка Антона Анна, 26 г.; дачка Базыля Паўліна, 2 г.; дачка Антона Тэкля, 3 г.

2. Змітрук Бурдун, 50 г.; сын Змітрука Тодар, 5 г.; сын Змітрука Міхал, 3 г.; жонка Змітрука Разалія, 47 г.; дачка Змітрука Аўдоцця, 19 г.; дачка Змітрука Марта, 15 г.; дачка Змітрука Настасся, 3 г.

3. Пётр Санюк, 39 г.; сын Пятра Сымон, 6 г.; Гжэгаш Лахач, 29 г.; сын Гжэгаша Міхал, 18 г.; сын Гжэгаша Конрад, 2 г.; сын Гжэгаша Якуб, 1 г.; дачка Гжэгаша Канстанцыя, 5 г.; дачка Гжэгаша Язафата, 3 г.

4. Марцін Бурдун, 24 г.; брат Марціна Якуб, 19 г.; брат Марціна Тамаш, 31 г.; сын Тамаша Сцяпан, 8 г.; сын Тамаша Габрыэль, 7 г.; Аўдоцця Бурдун, 55 г.; жонка Тамаша Палюся, 21 г.; дачка Марціна Петранеля, 2 г.; дачка Тамаша Анна, 1 г.

5. Леан Лянцэвіч, 36 г.; сын Леана Юзаф, 10 г.; сын Леана Ян, 8 г.; сын Філіны Габрыэль, 6 г.; жонка Леана Мар'яна, 36 г.; здымае кут Філіна Санюк, 41 г.; дачка Філіны Марта, 10 г.; дачка Філіны Анна, 15 г.; дачка Філіны Францішка, 21 г.; дачка Леана Леанора, 1 г.

6. Гжэгаш Рудзевіч, 31 г.; Валенты Рудзевіч, 16 г.; Ева Рудзевіч, 66 г.; дачка Евы Пракседа, 17 г.; дачка Гжэгаша Дамініка, 3 г.

7. Леан Гаркач, 55 г.; сын Леана Ігнацій, 2 г.; сын Леана Якуб, 5 г.; брат Сымона Мікалай, 39 г.; сын Мікалая Міхал, 10 г.; здымае кут Ерамей Гаркач, 51 г.; сын Ерамея Лукаш, 21 г.; сын Ерамея Ігнацій, 15 г.; сын Мікалая Пётр, 10 г.; жонка Леана Агата, 38 г.; дачка Леана Мар'яна, дачка Леана Тадора, 10 г.; жонка Мікалая Юстына, 28 г.; дачка Мікалая Елісавета, 8 г.; жонка Ерамея Марта, 56 г.; дачка Ерамея Альжбета, 28 г.; дачка Ерамея Тэкля, 15 г.; дачка Мікалая Вікторыя, 5 г.; дачка Сымона Марта, 2 г.

8. Ян Станкевіч, 50 г.; сын Яна Ян, 20 г.; сын Яна Сцяпан, 10 г.; жонка Яна Кацярына, 39 г.; дачка Яна Разалія, 18 г.; дачка Яна Мар'яна, 15 г.; дачка Яна Анна, 6 г.; дачка Яна Тадора, 2 г.

***Дзедзічны засценак Каршакі Найяснейшай панны князёўны Радзівіл***

1. Тадэвуш Дыдзевіч, 16 г.; Францішка Пяр'яновіч, 33 г.; дачка Францішкі Магдалена, 6 г.; дачка Францішкі Язафата, 2 г.

2. Мацей Ваўчановіч, 46 г.; сын Мацея Антон, 10 г.; здымае кут Тодар Сабалеўскі, 40 г.; сын Тодара Адам, 14 г.; сын Мацея Юзаф, 2 г.; жонка Тодара Анна, 31 г.; дачка Тодара Францішка, 5 г.

3. Аляксандр Залязоўскі, 66 г.; сын Аляксандр Ігнацій, 21 г.; сын Ігнацыя Ян, 3 г.; сын Ігнацыя Юльян, 4 г.; жанчыны лацінскага абраду.

4. Габрыэль Дыцкевіч, 46 г.; брат Габрыэля, Францішак, 28 г.; сын Францішка Юзаф, 3 г.; Тэадора Дыцкевіч, 56 г.; сястра Францішка Петранеля, 10 г.; жонка Францішка Аўдоцця, 26 г.

5. Юзаф Дыцкевіч, 19 г.; Ежы Дыцкевіч, 18 г.; Антон Дыцкевіч, 21 г.; Юстына Малеўская, 52 г.; дачка Юстыны Петранеля, 14 г.

6. Ян Залязоўскі, 49 г.; брат Яна Сымон, 39 г.; сын Сымона Ігнацій, 6 г.; жонка Яна Фруксіна, 41 г.

7. Юзаф Залязоўскі, 46 г.; сын Юзафа Адам, 16 г.; сын Юзафа Ян, 3 г.; брат Юзафа Пётр, 26 г.; жонка Юзафа Цацылія, 36 г.; дачка Юзафа Францішка, 10 г.

8. Сцяпан Пышко, 24 г.; жанчыны лацінскага абраду.

***Дзедзічная вёска Лахачы Найяснейшай панны князёўны Радзівіл***

1. Гжэгаш Сушчэўскі, 50 г.; сын Гжэгаша Ян, 15 г.; сын Гжэгаша Станіслаў, 10 г.; сын Гжэгаша Ануфры, 2 г.; жона Гжэгаша Агата, 40 г.; дачка Гжэгаша Ўрсуля, 16 г.; дачка Гжэгаша Тэкля, 2 г.

2. Мікалай Лахач, 55 г.; сын Мікалая Мацей, 18 г.; сын Мікалая Лаўрэн, 17 г.; брат Мікалая Антон, 36 г.; сын Мікалая Антон, 11 г.; сын Антона Эльяш, 9 г.; жонка Мікалая Алена, 46 г.; дачка Мікалая Магдалена, 15 г.; дачка Антона Марта, 9 г.;

3. Даніла Баброўскі, 36 г.; сын Данілы Павел, 19 г.; швагер Андрэй Каштан, 18 г.; 2-гі Адам Каштан, 11 г.; жонка Данілы Аўдоцця, 36 г.

4. Ігнацій Лянцэвіч, 66 г.; сын Ігнацыя Ян, 21 г.; сын Ігнацыя Даніла, 15 г.; сын Яна Сцяпан, 2 г.; жонка Ігнацыя Брыгіда, 41 г.; дачка Ігнацыя Мар'яна, 17 г.; жонка Ігнацыя Алена, 26 г.

| Агульная колькасць | Разам | Дымы | Мужчын | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Да камуніі | Не да камуніі | Да камуніі | Не да камуніі |
| Вёска Нагародавічы | 178 | 30 | 71 | 22 | 62 | 23 |
| Засценак Гезгалы | 208 | 34 | 86 | 32 | 65 | 25 |
| Вёска Зачэпічы | 171 | 29 | 66 | 31 | 52 | 22 |
| Вёска Бандары | 78 | 15 | 36 | 12 | 22 | 8 |
| Вёска Нясілавічы | 75 | 8 | 24 | 12 | 25 | 14 |
| Лазяны Каршакі | 37 | 8 | 18 | 6 | 10 | 3 |
| Вёска Лахачы | 34 | 5 | 18 | 3 | 11 | 2 |
| Разам | 781 | 129 | 319 | 118 | 247 | 97 |

Гэты спіс парафіян Нагародавіцкай царквы ўласнаручна склаў святар Ежы Сцяпура, адміністратар Нагародавіцкай царквы ....

*Леанід Лаўрэш*

# Вузкакалейныя чыгуначныя лініі вакол Ліды

У 1982 г. аўтар, пасля другога курсу, у студэнцкім будаўнічым атрадзе два месяцы будаваў вузкакалейную чыгунку, па якой потым вазілі торф на Смаленскую ГРЭС. Нават на працу нас вазілі ў мініяцюрным пасажырскім вагончыку, які знутры цалкам капіяваў сапраўдны чыгуначны вагон. Ехаць на працу прыходзілася каля паловы гадзіны, што дазваляла паспаць пасля сняданку. І хоць хуткасць ніколі не ўздымалася вышэй за 20 км у гадзіну, адзін раз вагончык нават сышоў з рэек, нічога не адбылося, нават ілбы не паразбівалі. Механізацыі пры будаўніцтве не было ніякай, працаваць прыходзілася, як ў XIX ст. - толькі рыдлёўкай і ломам. Таму я ўспамінаў сваю аналагічную працу на працягу паўтарох месяцаў пасля 9-га класа, у 1979 г., у Лідскай дыстанцыі каляі, дзе і розныя механізмы былі, і арганізацыя працы была значна лепшая.

У гэтым артыкуле я пералічу ўсе вядомыя мне вузкакалейныя чыгункі недалёка ад Ліды. Не прэтэндуючы на вялікую глыбіню разумення эканамічнага сэнсу існавання такіх чыгунак, я лічу, што гэты транспарт выконваў раней тую ж ролю, якую зараз выконваюць аўтамабілі і аўтамабільныя дарогі. Таму, калі ў канцы 1950-х г. гадоў з'явілася дастатковая колькасць аўтамабіляў і аўтадарог, зніклі апошнія вузкакалейныя чыгункі агульнага карыстання, і засталіся толькі тэхналагічныя вузкакалейкі, напрыклад для перавозкі торфу. Такіх дарог не шмат, але яны ёсць пад Лідай, што выклікае замілаванне ў аматараў гэтага віду транспарту, аб'яднаных на розных спецыялізаваных форумах у інтэрнэце.

Першую ў Расейскай Імперыі вузкакалейку пабудавалі ў 1871 г. - паміж станцыямі Ліўны і Вярхоўе (кірунак ад Масквы на Курск). Даўжыня яе была 57 вёрст, шырыня каляі 1066 мм, але ў 1924 г. дарогу "перашылі" на нармальную шырыню.

## Вузкакалейкі, пабудаваныя да 1914 г.

### Лінія ад станцыі Вайгяны
***Вайгяны - Букатава***

Пасля таго як з Маладзечна на Ліду прайшла новая чыгунка Балагое - Сядлец, у 1907 г. з станцыі гэтай чыгункі Вайгяны была пабудавана вузкакалейная чыгунка. Чыгунка ішла на поўдзень да Букатава, потым перасякала раку Беразіну заканчвалася ў лесе за гэтай ракой. Відочная мэта гэтай чыгункі - вываз лесу. Пасля Першай сусветнай вайны яна была дабудавана і аб'яданана з вайсковай чыгункай **Радашковічы - Капусціна**, пабудаванай рускімі войскамі ў 1916 г. У 1922 г. прадоўжана да Коз'яга Прэна далей да Івянца і Янушковічаў. Дарога была разабраная ў 1935 г.

### Лінія ад станцыі Нёман
***Нёман-Бярозаўка***

Для хутка растучай гуты ў Бярозаўцы неабходна была сувязь з чыгункай, якая праходзіла ўсяго за 6 км. Уладальнік гуты Столе Ю.А. прыняў рашэнне злучыць абодва заводы "Нёман-А" і "Нёман-Б" з аднайменнай чыгуначнай станцыяй "Нёман" вузкакалейнай чыгункай.

Распрацоўваецца і ўзгадняецца дакументацыя, вызначаецца найбольш выгадны маршрут, звязаны як з адлегласцю, так і магчымасцю набыцця зямлі ў прыватных уласнікаў па месцах яе праходжання; уладкоўваецца паромная пераправа і вырашаецца шэраг іншых тэхнічных і арганізацыйных пытанняў, звязаных з будучым будаўніцтвам. Былі набытыя два паравозы па 40 к.с., 16 крытых вагонаў, 80 платформаў грузапад'ёмнасцю 3 тоны кожная, неабходная колькасць рэек і шпалаў. У 1908 г. будаўніцтва чыгункі было скончана. Яна каштавала 118 600 рублёў[1]. Ужо ў 1914 г. прыбытак ад эксплуатацыі вузкакалейнай чыгункі склаў 12 594 рублёў[2]. Цераз Нёман ад пачатку існуе паромная пераправа. У 1929 г. пачынаецца будаўніцтва драўлянага моста цераз раку Нёман. Работы былі скончаны ў 1931 годзе[3].

Газета "Кур'ер Віленскі" апісвала візіт прэзідэнта Польшчы Масціцкага ў Заходнюю Беларусь. Раніцай 25 верасня 1929 г. прэзідэнт пакінуў Навагрудак і на аўтамабілі, у атачэнні эскадрона уланаў 25-га палка, выехаў у бок Ліды. Па дарозе, Масціцкі спыніўся ў гуце шкла "Нёман". Тут яго сардэчна віталі ўладальнікі фабрыкі, дырэкцыя, прадстаўнікі рабочых, сябры грамадскіх арганізацый. Пасля агляду фабрыкі *"дастойны госць са сваім атачэннем увайшоў у вагончык вузкакалейкі і паехаў да берага Нёмана"*[4]. На беразе

[1] Герасімовіч М. Ф. Шклозавод "Нёман". Кароткі агляд станаўлення і развіцця // Лідскі Летапісец № 2 (38) - 2007. С. 70.

[2] Там жа С. 72.

[3] Герасімовіч М. Ф. Шклозавод "Нёман". Кароткі агляд станаўлення і развіцця // Лідскі Летапісец № 3-4 (38-40) - 2007. С 53.

[4] Kurjer Wilenski № 220 (1565), 26 wrzesnia 1929.

Нёмана прэзідэнта чакаў міністар сельскагаспадарчых рэформаў Станевіч і генерал Дамброўскі. Разам яны агледзелі будоўлю моста цераз Нёман які будаваў 7-мы сапёрны полк. Праз раку перапраawіліся на пароме і на аўтамабілі паехалі ў Ліду[5].

Віленская газета "Слова" пісала пра падзеі падчас штрайку 1936 г. на гуце "Нёман": *"11 чэрвеня каля 8 вечара натоўп зноў рушыў да фабрыкі, спяваючы "Чырвоны штандар". На Спартовай плошчы паліцыя тры разы заклікала разысціся, але без вынікаў. З фабрыкі на станцыю звыкла курсуе ваганетка якую цягне адзін конь* (па вузкакалейцы - *Л.Л.*), *так званая "лорка". Фабрыка атачоная пікетамі. Натоўп не пусціў "лорку", якая везла пошту і чына паліцыі на станцыю Нёман* (станцыя "Нёман" знаходзіцца ў вёсцы Сялец - *Л.Л.*). *Крычалі: "Не пусцім лорку з фабрыкі да поезда на станцыю!", "будзем так сядзець, аж да канцы штрайку". Кабеты сядзелі на рэйках і значны ўчастак дарогі быў заняты натоўпам. Натоўп быў моцна ўзбуджаны. Чатыры паліцыянты спрабавалі супакоіць натоўп, каб даць дарогу "лорцы", але нічога не змаглі зрабіць, натоўп хапаў за карабіны, пасы і рукі паліцыянтаў. Седзячы ў "лорцы", чын паліцыі крычаў людзям, што ён чыноўнік і едзе па дзяржаўнай справе. Але ўсё без выніку"* [6].

Лідзянін Уладзімір Нарушэвіч успамінаў пра вандроўку на гуту "Нёман": *"На чыгуначнай станцыі "Нёман" знаходзіўся склад гатовых вырабаў гэтай гуты і перагрузачная рампа. Вырабы перавозіліся па вузкакалейнай чыгунцы з гуты. Ролю лакаматыва выконваў конь. Сівы конік цягнуў і нашы вагончыкі па трасе даўжынёю каля 8 кіламетраў якая заканчвалася каля будынка дырэкцыі гуты. Нас сардэчна сустрэў дырэктар гуты Столе, і разам з ім мы наведалі завод"* [7].

Гэтая вузкакалейная чыгунка была разабраная ў другой палове 1950-х гг.

**Лінія ад станцыі Скрыбаўцы**
***Мураванка - Скрыбаўцы - Вялікае Мажэйкава - Васілішкі***

Пабудавана ў 1907 г. Па іншай версіі яе пабудавалі немцы ў 1916 г.

Даўжыня 21 км, Васілішкі - Скрыбаўцы, каля 18,7 км, Скрыбаўцы - Мураванка каля 2,2 км.

Пачыналася на поўнач ад Васілішак, агінала Васілішкі з усходу і ішла да Вялікага Мажэйкава. Тут лінія падыходзіла да маёнтка "Вялікае Мажэйкава", тартака і фабрыкі. Каля станцыі Скрыбаўцы праз віадук пераходзіла на паўдзённы бок гэтай станцыі, праходзіла каля Маламажэйкаўскай царквы абарончага тыпу да берага ракі Лебяды.

У 1927 г. на гэтай лініі зрабіў узброены рабунак будучы знакаміты пісьменнік Сяргей Пясецкі: *"Як паведамляюць, 22 жніўня адбыўся дзёрзкі напад на вузкакалейны цягнік, які курсуе паміж Васілішкамі і Скрыбаўцамі. Бандыты, пасля затрымання поезда, са зброяй у руках пагражалі жыццю ўсіх пасажыраў і адабралі ў іх упрыгожванні, вялікую колькасць долараў і некалькі дзесяткаў тысяч злотых. Потым, неапазнаныя, уцяклі ў невядомым кірунку"*[8]. Праз нумар тая ж газета "Слова" паведаміла, што *"арыштаваныя бандыты Пясецкі і Невяроўскі, якія некалькі дзён таму здзейснілі напад на вузкакалейны поезд пад Лідай. Яны прызналі сваю віну і выдалі супольнікаў. Між іншым сазналіся, што ў злачынных акцыях ім дапамагаў шараговец паліцыі Віленска-Троцкага павета Левандоўскі, праз пасрэдніцтва якога хавалася зброя і скрадзеныя рэчы і атрымлівалася неабходная амуніцыя. Расследаванне праводзіць адмыслова дэлегаваны следчы Міхалевіч"* [9]. І потым *"у сувязі з нападам на цягнік ... арыштавана жыхарка Нова-Вілейкі, нейкая Булгакоўская, падазраваная ў супрацоўніцтве з бандытамі ... сёння мы даведаліся, што Булгакоўская звольнена з-пад арышту з-за недахопу ўлік"* [10].

А беларуская газета "Народная справа" пісала: *"22 жніўня на вузкакалейцы паміж Васілішкамі і Гжыбавіцамі пад Лідай банда разбойнікаў напала на поезд і абрабавала ўсіх ехаўшых у ім. Паліцыя заарыштавала ў Нова-Вялейцы двух учасьнікаў нападу - Пясецкага і Невяровіча, якія прызналіся да віны і выкрылі сваіх хаўруснікаў. Аказваецца, што і тут не абыйшлося бяз удзельца паліцыі: бандытам дапамагаў у іх "працы" паліцыянт Левандоўскі, пастарункавы паліцыі Віленска-Троцкага павету, які хаваў рабаваныя рэчы і аружжа, якое сам-жа дастаўляў"* [11]. Беларускай газета назвала Скрыбаўцы на польскі манер Гжыбаўцамі.

Гаспадар маёнтка Вялікі Мажэйкаў Станіслаў Грабоўскі меў сваю прыватную ваганетку, якой карыстаўся для паездак на станцыю ці ў Васілішкі, адзін з ягоных спадчыннікаў пісаў: *"Улетку выехаў у Вялікае Мажэйкава. Высадзіўся на станцыі Скрыбаўцы, станцыя мне была знаёмай, бо ў 1919 г. тут выгружаўся мой 1-шы батальён сапёраў. Са станцыі ехаў па рэйках панямецкай коннай вузкакалейкі Скрыбаўцы - Васілішкі на ўласнай ваганетцы, якую цягнуў адзін конь. Дарога не была далёкай, каля трох кіламетраў. Калі пераедзеш чыгунку і выедзеш з лесу, ужо бачна вялікая і моцна засаджаная дрэвамі тэрыторыя маёнтка"* [12].

У 1923 г. гэтая конная вузкакалейная чыгунка належала ўладальніку тартака Граўбарду (Tartak Grau-

[5] Kurjer Wilenski № 220 (1565), 26 wrzesnia 1929.
[6] Slowo № 166 (4372), 18 czerwca 1936.
[7] Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 51.
[8] Slowo № 202 (1222), 31 sierpnia 1926.
[9] Slowo № 204 (1214), 2 wrzesnia 1926.
[10] Slowo № 207 (1217), 5 wrzesnia 1926.
[11] Народная справа № 14, 4 верасня 1926.
[12] Rostworowski Andrzej. Ziemia, ktorej juy nie zobaczysz. Warszawa, 2001. C. 460.

barda), а ў другой палове 1920-х гг. арандатарам стаў Соймік Лідскага павета. Дарога не прыносіла прыбытку і падобна да 1928 г. ужо не працавала, бо менавіта ў гэтым годзе Віленская дырэкцыя абвясціла пошук арандатара, які павінен быў не толькі ўзорна ўтрымліваць дарогу, але і:

1. На свае сродкі адрамантаваць і аднавіць конны рух вузкакалейнай чыгункі.
2. Арганізаваць і падтрымліваць сталы рух на гэтай дарозе.
3. Атрымаць ад Міністэрства ўнутраных спраў дазвол на эксплуатацыю дарогі.
4. Выкупіць прыватныя землі, па якіх праходзіць дарога[13].

Ахвотнага ўкласці асабістыя грошы ў гэтую справу не знайшлося, бо на пачатку 1929 г. прэса пісала, што лідскія павятовыя ўлады былі вымушаныя з 1 студзеня 1929 г. адмяніць дагавор арэнды ў сувязі з павелічэннем на 150 % арэндных плацяжоў за вузкакалейную чыгунку Скрыбаўцы-Васілішкі, якую арандаваў Соймік Лідскага павета. Павятовыя ўлады прапанавалі, каб дарогу ўзяла Польская дырэкцыя чыгунак у Вільні, але дзяржаўная чыгунка адмовілася, і таму ўсе рухомыя прылады былі перамешчаныя на станцыю Скрыбаўцы. *"У цяперашні час, як нам кажуць, Дырэкцыя чыгункі мае намер цалкам дэмантаваць гэтую вузкакалейку, што несумненна будзе шкодай для мясцовага насельніцтва і прынясе шкоду дзяржаве, бо калі б гэтую дарогу падоўжыць яшчэ з Васілішак да Гарадзішча (з Гарадзішча да Марцінканцаў вузкакалейка эксплуатуецца Дырэкцыяй чыгунак) і прыстасаваць для паравой цягі, дык гэтая чыгунка злучыла бы лінію Варшава - Гародня - Вільня і Варшава - Сядлец - Ліда - Маладзечна. Лінію Скрыбаўцы-Васілішкі пабудавалі немцы, якія цанілі важнасць кожнай камунікатыўнай лініі. Шкада, што кіраўніцтва Віленскага чыгункі мае іншае меркаванне"* [14].

Праз некалькі дзён віленская газета "Слова" надрукавала артыкул нейкага Гадзінскага, які ўспамінаў, што калі ў 1919 г. польскае войска брала Ліду, бальшавікі ўзарвалі чыгуначныя масты цераз Дзітву і Лебяду, і таму апошняй станцыяй да якой даязджалі цягнікі была станцыя Скрыбаўцы. Ад Скрыбаўцаў да шашы Гародня - Ліда аўтамабілі не маглі прайсці з-за багны, таму войскі і груз з 50 вагонаў да шашы перавозіўся на вазах, вузкакалейка чамусьці не працавала. А ў 1920 г. у аналагічнай сітуацыі станцыю Скрыбаўцы і шашу Гародня - Ліда злучала рабочая вузкакалейка. Таму аўтар прапаноўваў Міністэрству абароны паруліцца пра існаванне гэтай вузкакалейнай чыгункі[15].

Жыхары Васілішак жаліліся ва ўсе дзяржаўныя інстанцыі, пісалі нават да Пілсудскага, бо практычна мястэчка з насельніцтвам 4000 чалавек траціла надзейную сувязь з астатнімі населенымі пунктамі. Гэтая вузкакалейка была прыбытковай, і ў сваіх лістах жыхары мястэчка прапаноўвалі, *"каб пан дырэктар Віленскай чыгункі асабіста зрабіў інспекцыю і даведаўся пра тое, як неабходная гэтая конная чыгунка для ваколічных людзей ..."* [16].

## Вузкакалейкі, пабудаваныя ў часы Першай сусветнай вайны

Перад першай сусветнай вайной чыгуначныя войскі Германскай Імперыі арганізацыйна складаліся з двух чыгуначных брыгад, асобнага Баварскага чыгуначнага батальёна і дапаможных частак. З пачаткам вайны чыгуначныя войскі рэарганізаваны. Брыгады, палкі і батальёны былі расфармаваныя, і асноўнымі часткамі чыгуначныя войскаў становяцца роты, якія зводзіліся ў асобныя атрады (Abteilungen). Войскі падзяляліся на будаўнічыя і эксплуатацыйныя часткі. Палявыя вузкакалейныя дарогі эксплуатавалі 28 рот цягі (Feldbahn-Betriebskompanien), нумары з 101 па 128 (160 чалавек па штаце), і 48 атрадаў цягі (Feldbahn-Betriebsabteilungen), нумары з 1 па 4 і з 10 па 53 (600 чалавек па штаце). Нямецкая вузкакалейная ваенна-палявая чыгунка мела шырыню каляі 600 мм.

На тэрыторыі Беларусі пасля Першай сусветнай вайны ваенна-палявыя вузкакалейкі нямецкай пабудовы актыўна эксплуатаваліся ў якасці лесавозных і агульнага прызначэння. Некаторыя з іх дажылі да сярэдзіны 1960-х гг.

### Лінія ад станцыі Гуды
***Гуды - Вялікае Сяло - Гембацішкі - Мажэйкаўшчына***

Вяла ад чыгуначнай станцыі Гуды да Гембацішак і Мажэйкаўшчыны, якія знаходзіліся на захад ад Жырмун. Агульная даўжыня - 10,3 км, ад станцыі Гуды да Вялікага сяла - 5,5 км, ад Вялікага сяла да Гембацішак - 4,5 км, адгалінаванне да Мажэйкаўшчыны - 0,3 км. Існавала да канца 1930-х гг.

### Лініі ад станцыі Марцінканцы
***Марцінканцы - Мастэйкі - галіна на Зубрава - Гарадзішча - галіна на Матылі - галіна на Бенькі***

Знаходзілася на поўначы Лідскага павета, пачыналася ад станцыі Марцінканцы, якая ляжыць на чыгунцы Вільня - Гародня. Лінія ад Марцінканцаў да ракі Котры пабудаваная для вывазу лесу ў 1914 г. У 1916 - 17 гг. будаўніцтва працягнула нямецкая адміністрацыя. Працяг дарогі будавалі 120 французскіх ваеннапалонных пад наглядам 10 нямецкіх наглядчыкаў. Рэйкі і жалезныя шпалы вазілі на самаробных ручных дрызінах. Даўжыня галоўнага шляху 28,5 км. Меўся мост цераз Котру. Шырыня каляі - 600 мм.

[13] Zycie Nowogrodzkie № 236 (270), 1 pazdziernika 1928.
[14] Slowo № 44 (1954), 22 lutego 1929.
[15] Slowo № 49 (1959), 28 lutego 1929.
[16] Slowo № 87 (1997), 16 kwietnia 1929.

Агульная даўжыня лініі каля 35 км.

Ад Марцінканцаў да Мастэйкаў - 12,3 км, у Мастэйках быў раз'езд.

Мастэйкі - Зубрава, 7,7 км.

Мастэйкі - Гарадзішча, 8,5 км.

Гарадзішча - Бенькі, 8,9 км.

Гарадзішча - Матылі, 9,3 км.

На пачатку 1920-х гадоў вузкакалейку эксплуатавала Польская чыгунка. Пасля Другой сусветнай вайны вузкакалейка нядоўга належала МПЗ. Дарога разабраная ў 1950 гг.

Цытата з архіваў: *"30 траўня 1947 г ... ў 5 гадзін раніцы за 17 км ад Марцінішак, на вузкакалейнай дарозе, бандытамі быў абстраляны і спынены цягнік, які ехаў па лес. Бандыты ... спыталі машыніста, ці можна парай падарваць паравоз. Атрымаўшы адмоўны адказ, кінулі ў гарэльню звязак гранат і падпалілі. У той жа час у гэтым раёне ўзарвалі і другі паравоз. Усіх людзей бандыты адпусцілі ..."* [17].

Зараз Марцінканцы (Марцінконіс) знаходзіцца у Летувіскай рэспубліцы, тэрыторыя вакол - Нацыянальны парк Дзукія. На поўдзень ад ракі Котра пачынаецца тэрыторыя Беларусі.

**Лініі ад станцыі Гаўя**

***Гаўя - Іўе - Чапунь***

Пабудаваная ў 1916-17 гг. з мэтай вывазу лесу з раёна вёскі Чапунь. Потым эксплуатавалася Польскай чыгункай. Разабраная ў 1947 г.

Шырыня каляі 600 мм, даўжыня лініі 10 км.

З раскладу руху 1939 г. бачна, што па гэтай лініі пасажырскія цягнікі не хадзілі.

***Гаўя - Дуды - галіна на Бакшты і Будзішчы - галіна на Лугамавічы - Наваградак***

Гэта лінія прысутнічае на схеме ў кнізе Мечыслава Арловіча (Orlowicz M. Ilustrowany przewodnik kolejowy. Cz. 2. Warszawa, 1930.), але ніякіх падрабязнасцей пра яе няма.

У кастрычніку 1943 г. партызаны падарвалі вузкакалейку, па якой з тартака ў Іўі вазіліся піламатэрыялы на станцыю Гаўя.

**Лініі ад станцыі Юрацішкі**

***Ст. Юрацішкі - мястэчка Юрацішкі - Бежамцы***

Бежамцы:

галіна да фальварка - Лугамавічы - Чэрнявічы - фальварак Мілва Беразіна;

галіна Песявічы - Бакшты.

Бежамцы:

галіна Доўнары - Грабава;

галіна Банява - р. Беразіна

Лінія агульнага прызначэння. Пабудавана ў 1916 - 17 гг., даўжыня 32 км, пасля Першай сусветнай вайны павялічылася да 46 км. Шырыня каляі 600 мм, даўжыня 68 км.

***Юрацішкі - Вялікія Каршаняты (Каркеняты)***

Лінія вяла на поўнач ад Юрацішак.

Пасля Першай вайны гэтыя вузкакалейкі эксплуатаваліся Польскай чыгункай. Галіна да Беразіны разабрана ў 1922 г., да Бакштаў - у 1935 г. Да 1945 г. працаваў участак у 32 км да Песявічаў.



***Канцавая станцыя Чапунь у раёне ляснога масіву в. Чапунь. Лінія фронту 1916-18 гг. Музей Івана Буйко.***

[17] http://narrow.parovoz.com/emb/?ID=163




***Будоўля чыгункі ў Юрацішках***



***Рамонт лакаматыва, ст. Юрацішкі. Музей Івана Буйко.***

Казімір Нехвядовіч пісаў у кнізе "Мае Суботнікі" (Niechwiadowicz Kazimierz. Moje Sobotniki. Gawia. Poznan, 2004.): *"У 1914 г. выбухнула Першая Сусветная вайна. Нашыя землі занялі немцы. У 1915-16 гг. немцы вымушалі людзей да будовы вузкакалейных чыгунак для патрэбы фронту. Паўстае лінія Юрацішкі - Лаздуны - Песявічы, якую абслугоўваюць паравозы і конныя лініі Юрацішкі - Крычнікі - Эйгірды і Юрацішкі - Такарышкі. З Юрацішкаў да лініі фронту было каля 12-15 км. Лінія фронту была стабільная аж да пачатку 1918 г.".*

26 красавіка 1928 г. у 12-00 на перагоне Лаздуны-Юрацішкі, каля вёскі Бельманы 3 вагоны з лесам сышлі з рэйкаў. Пры аварыі кандуктар Філіповіч зламаў ногі[18].

**Лінія ад станцыі Ражанка**
***Даліна Зарэчная - Ражанка - Шчучын - Плянты***

Пабудаваная ў 1916 г. Шырыня каляі 600 мм. Лінія ад станцыі Ражанка праходзіла праз цэнтральную гандлёвую плошчу Шчучына. Агульная даўжыня 14 км, Даліна Зарэчная - ст. Ражанка, каля 3,5 км, ст. Ражанка - Шчучын, каля 6,5 км, Шчучын - Плянты, каля 4 км.

Як толькі на поўдзень ад Шчучына прайшла чыгунка Балагое - Сядлец, з'явілася ідэя злучыць Шчучын з адной са станцый добрай дарогай.

Жыхар Шчучына ў 1910 г. пісаў пра план пабудовы шашы ад чыгуначнай станцыі да мястэчка: *"Шчучын. Да нядаўняга часу адзінай дарогай, якая звязвала Шчучын з астатнім светам быў паштовы гасцінец з Гародні на Ліду і далей на Вільню. І вось прайшла чыгунка з Ліды на Ваўкавыск. ... Дарога пра-*

[18] Zycie Nowogrodzkie № 83 (117), 1 maja 1928.



***Пасажырскі вагон з камфортам. Музей Івана Буйко.***

*цягласцю ў мілю ад чыгуначнай станцыі да Шчучына вельмі дрэнная. ... нарадзілася ідэя зрабіць шашу і злучыць станцыю чыгункі Балагое-Сядлец з шашой Гародня-Ліда"* [19]. З артыкула бачна, што праект будаўніцтва знаходзіўся на стадыі пошуку грошай. Ідэя была рэалізавана праз будаўніцтва немцамі вузкакалейнай чыгункі.

Аўтар кнігі "Самаабарона Лідскай зямлі" Юзаф Дзічканец пісаў пра аднаго з удзельнікаў гэтай польскай самаабароны: *"Паручнік Браніслаў Сікорскі ў жніўні 1921 г. дэмабілізаваўся і заняўся сельскай гаспадаркай. Маючы намер заняцца гандлем, у 1924 годзе быў у Гнезне на гандлёвай практыцы. У снежні таго ж года атрымаў пасаду кіраўніка сельскагаспадарчага сіндыката ў Шчучыне. Пасля ліквідацыі апошняга адкрыў сельскагаспадарчы магазін, які ўзначальвае і цяпер. Праз 6 гадоў арандаваў вузкакалейку Ражанка - Шчучын"* [20].

### Лінія ад станцыі Багданава
### *Багданава - Баруны - Солы - Валейкавічы - Жодзішкі*

Ваенна-палявая ракадная дарога, пабудаваная ў 1916 г. Даўжыня каля 60 км. Участак Солы - Жодзішкі прысутнічае на карце 1936 г. Участак Багданава - Баруны існаваў яшчэ ў 1922 г.

* * *

Міністр транспарту Польшчы А. Кёхнем у 1928 г. у інтэрвію газеце “Кур'ер Віленскі” адказаў на пытанне пра перспектывы вузкакалейных чыгунак у Заходняй Беларусі: *"Зараз існуе шэраг такіх чыгунак, пераважна пабудаваных нямецкімі войскамі. Тэхнічны стан іх не надта добры, але мы патроху даводзім іх да ладу. Будаваць новыя не плануем. Гэткае будаўніцтва цалкам перададзена ў рукі прыватнай ініцыятывы"* [21]. Яшчэ пры канцы 1927 г. група варшаўскіх інжынераў атрымала канцэсію на будаўніцтва прыватнай вузкакалейнай чыгункі Ліда - Ашмяны - Варапаева з адгалінаваннямі ад Ашмянаў да Валожына і ад Шаркоўшчыны да Дзісны. Працягласць дарогі павінна была скласці 365 км[22]. У 1928 г. пачалося праектаванне, але сусветны эканамічны крызіс 1929 г. спыніў усе планы развіцця.

## Вузкакалейныя чыгункі пасля 1960-га года

### Лінія Шайбакі - Перапецыца

Паміж Шайбакамі і Перапечыцай на рацэ Лідзейцы маецца невялікі мост. У 1970-я гады па мосце пралягала вузкакалейка, па якой цеплавоз цягнуў некалькі платформаў з глінай з кар'ера Перапечыца на Шайбакоўскую цагельню. Верагодна, лінія была разабрана да 1980-х гг.

Торфабрыкетныя прадпрыемства пад Лідай валодаюць наступнымі лініямі:

**- Гутна - Першамайск**. Торфавозная дарога, шырыня каляі - 750 мм. Даўжыня каля - 30 км.

**- Ліда - Дзітва - Яўсеевічы - Залескія.** Торфавозная дарога, шырыня каляі - 750 мм. Даўжыня каля - 28 км.

* * *

У Еўропе там, дзе раней былі вузкакалейкі старыя паравозікі і вагончыкі стаяць як помнікі. Але засталося і шмат рабочых вузкакалейных турысцкіх чыгунак, па якім кранальныя, пыхкаючыя парай паравозікі возяць адпачывальнікаў, рыбакоў і паляўнічых. Магчыма, і мы дажывем да таго часу, што пасля выпрацоўкі торфу вузкакалейкі вакол нашага горада будуць вазіць адпачывальнікаў і злучаць сядзібы агратурызму, здаецца для гэтага ёсць галоўнае - цудоўная прырода. Вось што пісала журналістка "Лідскай газеты" аб вандроўцы па мясцовасці вакол пасёлка Першамайскі: *"Потым усім прапанавалі сесці ў вагончык і праехаць па вузкакалейцы да трасы М 6, недалёка ад якой, у раёне Філонаўцаў, нядаўна ўвялі ў эксплуатацыю новы мінібрыкетны комплекс. Маршрут пралягаў праз тыя самыя выпрацаваныя тарфянікі, якія раней гарэлі, а цяпер паўторна забалочаныя. У выніку ўсе атрымалі масу ўражанняў. Па абодва бакі вузкакалейкі рассцілалася водная роўнядзь з шматлікімі астраўкамі і абрамленыя маляўнічым драбналессем берагамі. Тут - рай для звяроў і птушак, а таксама ... для рыбакоў. Але мы праязджалі і зусім бязлюдныя месцы. Колькі там лебедзяў і іх гнездзішчаў!"* [23]

[19] Kuryer Litewski № 102, 7 (20) maja 1910.
[20] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 81.
[21] Kurjer Wilenski № 188 (1235), 19 sierpnia 1928.
[22] Slowo № 250 (999), 1 listopada 1927.
[23] 23.06.2014

*Янка Жамойцін*

# З пеPAжытага

*(Працяг. Пачатак у пяпярэднім нумары.)*

**У Варшаве**

Варшава мяне ашаламіла. Папярэджаны аб магчымых падманах жулікамі і аб крадзяжах, апынуўшыся на Віленскім вакзале ў Варшаве, я сутаргава заціскаў у руках сваю карзіну з маёмасцю, пакуль не пачуў вокліч Кастуся Іванова, Людчынага сябра і вучня духоўнай семінарыі ў Вільні, які жыў у Варшаве. Ён дапамог мне ўладкавацца ў інтэрнаце і пазнаёміў са сваёй сям'ёй у сталіцы - маткай і чатырма старэйшымі сёстрамі, якія час ад часу запрашалі мяне ў адведзіны. Гасцяванне ў іх было мне адзінай асалодай майго бытавання, асмужанага настальгіяй і няўцямнасцю таго вонкавага свету, у якім пачуваў сябе разгубленым не толькі я, але і шмат якія іншыя калегі з інтэрната. Паз'язджаліся яны туды з розных закуткаў "крэсаў". Падпарадкаваныя строгаму інтэрнацкаму і школьнаму рэжыму ў варшаўскіх гімназіях, дзе мова і звычаі нашмат адрозніваліся ад таго, у чым жылі да свайго прыезду, яны балюча перажывалі сваю новую сітуацыю. Практычна нанава трэба было вывучаць польскую мову, да таго даходзіла чужаземная мова і, апрача яе, лацінская мова. Пасля абеду ў інтэрнаце ішлі багаслоўскія заняткі. Жыццё падалося кашмарным, хоць на асабістыя думкі і перажыванні не заставалася зашмат часу.

У інтэрнаце трэба было трымаць ідэальны парадак. Кожны выхаванец меў сваё месца, сваю шафку, свой нумар на бялізне (у мяне - 51), свой столік для навукі, свой ложак у спальні, месца за сталом у сталоўцы і г.д. Усё ішло паводле жорсткага рэжыму: прабуджэнне званком, асабістая гігіена, парамі - у капліцу на малітву, парамі - у сталоўку на снеданне, зноў малітва, потым - у школу. Пасля школьных заняткаў тое самае: парамі - на абед, малітва пасля абеду, гадзіна вольнага часу, рыхтаванне ўрокаў, багаслоўскія заняткі са святаром, вячэра, малітва ў капліцы, званок на сон, усё ў ідэальным рэжыме, без якога-колечы ўдзелу свае волі.

Самы цяжкі быў першы год. На шчасце, мой клас атрымаў добрага, спагадлівага нам, выхавальніка, айца Мікалая Лянчэўскага. Ён сам быў свежа спечаны багаслоў з Крамянца, добра разумеў нашае становішча і, магчыма, спачуваў нам у глыбіні душы. У другі і трэці год нашай навукі паступова прыходзіла адаптацыя як да ўмоваў жыцця, так і да навучальнага ўзроўню варшаўскіх гімназіяў.

Прыйшоў чэрвень 1939 года. У мітрапольным інтэрнаце на вуліцы Каперніка, 13 наступіў гарачы час. Духата ў нагрэтых сценах выціскала апошнія кроплі поту, але ніхто з выхаванцаў не думаў аб прагулках у вольны ад заняткаў час. Кожны ўсё яшчэ шліфаваў і зубрыў прадметы, якія прадбачаны былі да разліку перад канцом навучальнага года. Насельнікі інтэрната - у асноўным хлопцы з Заходняй Беларусі і Ўкраіны - былі або сынамі святароў і рыхтаваліся да прадаўжэння місіі сваіх бацькоў, або сялянскімі дзецьмі, для якіх не было ніякай іншай магчымасці здабываць адукацыю. Зрэшты, нават калі і здабудзеш тую адукацыю, то і так паставяць на тваёй персанальнай папцы літару "Р" - праваслаўны - што раўняецца: беспрацоўны. Заставаўся адзін выхад - вывучыцца на святара. Гэта было больш рэальна за ўсё іншае, бо ў інтэрнаце (створаным у Варшаве як кузня праваслаўных палякаў, замест зліквідаваных семінарыяў у Вільні і Крамянцы) можна было атрымаць стыпендыю, а і ў гімназіях, па якіх рассылалі выхаванцаў, магчыма было паменшыць хаця б напалову адміністрацыйную таксу, г.зн. плату за вучобу.

Я, як сялянскі сын, належаў менавіта да гэтай групы, а становішча, у якім апынуўся перад заканчэннем трэцяга класа ў 1938/39 годзе, было асабліва складанае. Звольнены ў гімназіі імя Ўладзіслава IV толькі з паловы таксы, я нават не асмеліўся прасіць у бацькоў тае другое паловы, бо ж ведаў, якія цяжкасці перажывае сям'я. Часова пазбавілі мяне права прысутнічаць на занятках. Прыйшлося праседжваць пад дзвярыма класаў, падтрымліваць цесны кантакт з аднакласнікамі і мацней налягаць на хатнія заняткі, тым больш, што класны кіраўнік (якога чамусці называлі Рабесп'ерам) абяцаў заступіцца за мяне. Яго стаؚранні далі шчаслівы вынік, і праз нейкія дзесяць дзён я зноў апынуўся ў класе разам з усімі. Думаю, што тут была таксама немалая заслуга і майго інтэрнацкага выхавальніка Мікалая Лянчэўскага, які напісаў мне вельмі добрую характарыстыку. Усе мы яго любілі за сардэчныя адносіны да нас, ды і сёння я маю гонар залічаць яго да сваіх прыяцеляў.

Сваю адсутнасць на занятках мне ўдалося неяк нагнаць, і мой перавод у чацвёрты клас прайшоў без асаблівых цяжкасцяў. Чацвёрты быў апошнім класам нашай вучобы ў варшаўскіх гімназіях. Пасля яго заканчэння мы мелі стацца вучнямі тэалагічнага ліцэя, які дзейнічаў пры інтэрнаце. Гэтым і была абумоўлена стыпендыя на ўтрыманне ў інтэрнаце.

Надышлі ўрэшце апошнія дні навучальнага года. Хоць пасведчанні яшчэ не былі на руках, кожны ўжо ведаў вынік свайго школьнага змагання. Подых летніх вакацыяў, спадзяванні на хуткае спатканне з сем'ямі - усё гэта складалася на атмасферу інтэрнацкай эйфарыі. Павесялелі неяк і сталі свойскімі выхавальнікі, пасля шматлікіх нямілых нам і ім інцыдэнтаў.

Загадам міністра веравызнанняў і адукацыі нядаўна звольнілі з пасады дырэктара інтэрната архімандрыта Феафана Пратасевіча, які карыстаўся ў нас вялікім аўтарытэтам. На яго месца быў назначаны святар Хведар Храшчэўскі, ад якога вечна тхнула тутунёвым дымам і, час ад часу, гарэлкай. Блізкія канікулы

аднак аслабілі настрой прыгнечанасці ад гэтай непамыснай змены, а думка аб двух месяцах прыволля зрабіла ўсіх весялейшымі. Урэшце апошняя зборка ўсіх у гімназічнай зале - вучняў, настаўнікаў і дырэктара, якога мы ўсе баяліся, як агню. Хутка і гэтым разам надта ж весела праспявалі “Boze cos Polska”, і - бывайце здаровы!

Я з трапяткім сэрцам чакаў свайго Рабесп'ера, каб падзякаваць яму за дапамогу. Ён выслухаў мяне з непрыхаваным задавальненнем і ветліва сказаў: “Zuch z ciebie, chlopcze. Nie zawiodles mnie, i nawet Mademoiselle Poplavski chwalila twoje postapy z francuskiego, a to sie jej zdarza nieczesto. Staraj sie wiec tak dalej, a badz cie bronil”. Яго настрой і словы, якімі ён хацеў падкрэсліць маю заслугу ў яго добрым учынку для мяне, збянтэжылі мяне настолькі, што я адважыўся адно на вучнёўскі паклон.

**Дахаты**

У інтэрнаце сумятня была ў разгары - хто пакаваў свае манаткі, хто бег купіць падарункі дахаты. Грошай мне прыслалі ўсяго толькі на цягнік і на трамвай, а невялікіх ашчаднасцяў яшчэ хапіла на супольнае таксі да Віленскага вакзала. На падарункі - ні граша. Прыйшлося сабраць некалькі бутэрбродаў, якія засталіся ад другога снедання, і лусту хлеба з каўбасою, падрыхтаваную кожнаму на дарогу - будзе гасцінец тром малодшым братам і сястрычцы. Ад нястачы грошай, усё ж, пачуцця шчасця не меншала.

У цягніку ўдалося нам - тым, хто ехаў на Ваўкавыск, Ліду, Баранавічы, Вільню - заняць цэлае купэ. Рэй вёў заўсёды вясёлы, блізкі мой сябра Мікола Грэбень. Быў ён найлепшым у класе, а мо і ў цэлым інтэрнаце, лацiністам і вечна канфліктаваў з паланістам. Нехта з нашай грамады дастаў бутэлечку гарэлкі (пэўна, не больш за 100 грам) і пачак папяросаў "Plaskie", каб пагуляць у дарослых. Кожны мог пацягнуць адзін глыток і выкурыць адну папяросу. Для мяне, як напэўна і для большасці з нас, гэта было першае сутыкненне з гарэлкай і папяросамі. Адно і другое падалося вельмі паганым, але трэба было хваліць пачастунак нароўні з іншымі сябрамі. Падслухаўшы, няйначай, нашу беларускую гутарку, у суседнім купэ размясціліся жыдоўскія хлопцы, якія ехалі з нейкай сваёй варшаўскай школы ў Ліду. Наша адметнасць у польскай стыхіі хутка звяла нас у падарожнае знаёмства і дружбу (а лес прадоўжыў гэта з некаторымі і пазней). Па дарозе хлопцы спакваля сыходзілі. Маёй мэтай быў паўстанак Курган, не даязджаючы кіламетраў 25 да Ліды. Я развітаўся з Міколам Грэбенем, які паехаў далей, здаецца, у Ліду.

Курган, як заўсёды, быў сонны. Яго дрымоту парушалі што дня толькі два цягнікі: адзін ранішні, а восьмай гадзіне, у Вільню, а другі вячэрні, таксама а восьмай, у Варшаву. Абодва цягнікі для навакольных сялянаў і пастушкоў служылі паказнікамі часу. Былі яшчэ два таварныя цягнікі, але праходзілі ў розныя поры. Яны навакольных жыхароў не надта цікавілі; часам хтосьці махаў зайцам - нелегальным пасажырам у кандуктарскіх будках.

Чыгуначным шляхам хадзіць было забаронена, таму я пайшоў палявой дарожкай, абапал якой квітнелі духмяныя да ап'янення зёлкі і травы. Вось і Праходы - лес, ад якога на нашай дзялянцы застаўся практычна маладняк і зрэдку стройная хвоя або елка. Найлепшы будаўнічы матэрыял бацька прадаў у цяжкія гады, каб як-небудзь утрымаць у Віленскай гімназіі Люду, а пасля і мяне выправіць у інтэрнат з двума камплектамі адзення, падручнікамі ды іншымі рэчамі. На самай справе і прадаць ужо не было чаго дзеля гэтых патрэбаў, але бацька не адступаўся. Прадаў апошняе што мог, нават свежа зрублены хлеў, а жывёлу паравёў у адгароджаную для яе частку гумна.

Цяністы бярэзнік, перамяшаны дзе-нідзе з хвойнікам, і ўсёахопная духмяная цішыня так і вабілі на адпачынак пасля ўсіх незвычайных эмоцыяў. Хапіла прылегчы ў цянёчку, каб умомант усім уражанням на змену прыйшло забыццё. Салодкі сон, мабыць, задоўжыўся, бо дахаты (два кіламетры) я даплёўся пад полудзень. Дома мяне ўжо перасталі чакаць таго дня.

Уцалелыя ад мінулагодняга пажару тры ці чатыры хаты (у тым ліку і нашая) і некалькі гаспадарчых будынкаў у маіх родных Клімавічах падаліся мне маленечкімі і загубленымі ў зелені ліпаў, клёнаў і садоў. Аселіца была ўжо скошаная, быццам выбрытая.

Першым прызнаў мяне Галас - наш разумны, верны сабачка. Бацька, асвоіўшы думку, што я прыеду заўтра, спакойна кляпаў касу пасля змагання з сенажаццю на досвітку. Мама, пачуўшы рух сярод дзяцей, перапыніла свае шыццё на машыне, якім зарабляла, каб неяк стрываць галоднае прадвесне і вясну да першай гародніны, бульбы, а пасля - да новага хлеба. Як заўсёды спакойная, яна падышла да мяне з ледзь прыкметнай усмешкай, пытаючы: "Дзе ж ты, сынок, прападаў так доўга?" І дазволіла пацалаваць рукі на прывітанне. Прывітаўшыся з астатнімі сямейнікамі без асаблівай пяшчотнасці, я пабег да бацькі, каб і яму аддаць шанаванне пацалаваннем рукі.

Раздаўшы дзецям "падарункі" з бутэрбродаў (ім гэта нават спадабалася, а маме ледзь не выціснула слязу), я расказаў бацькам пра вынікі сваёй вучобы. Паведаміў прытым, што згодна з рэкамендацыяй майго інтэрнацкага выхавальніка, кожную нядзелю і свята я павінен прыслужваць святару, чытаць "часы" і "апостала". Мама вельмі ўзрадавалася, а бацька прыняў усе да ведама моўчкі. У заключэнне "прывітальных гутарак" бацька сказаў толькі, што лета трэба скарыстаць дзеля працы на паветры, каб не застацца такім белым на твары і целе. Параіў падстрыгчы чуб і запрапанаваў начлег з канём на папасе ўжо з першай ночы. Так яно і сталася.

Кожны дзень на змярканні збіраліся на вуліцы хлопцы і мужчыны, каб выкурыць па скрутку махоркі або сушанага лісця балотнага лаўру ў люльцы, паталкаваць пра сёё-тое і дамовіцца на начлег у лесе. Я ведаў, што ўсім тым, хто з якой-колечы прычыны адбіваўся ад вясковага гурту (апрача прызыву ў войска), прыпісвалі зазнайства ці нешта ў гэтым сэнсе, і такога хлопцы "не прымалі" або трактавалі як адшчапенца.

Маючы гэта на ўвазе, я стараўся паводзіць сябе згодна з усімі прынятымі правіламі і звычаямі. Не дапамагло. Аж надта выразна адчувалася тое, што не лічаць мяне зусім сваім, і што гэта не ад зайздрасці.

Ніхто з іх не змяніў бы свайго лёсу на мой, каб ламаць галаву навукай, пакінуць вёску ды пхацца, як той казаў, у паны і падпанкі, а нават у папы дзеля лягчэйшага, як думалі, жыцця. Гэта лічылася ў вяскоўцаў чымсьці немаральным і сарамлівым. Яны былі ўпэўненыя, што ад зямлі не адарвешся, а неба і так не дастанеш. У дадзенай сітуацыі, ва ўмовах беспрацоўя і неталерантнасці да рэлігійных і нацыянальных меншасцяў, такі погляд меў абгрунтаванне. Але з другога боку, у вёсцы, з увагі на яе замкнёнасць і штораз большую колькасць людзей, рабілася цесна.

Урэзалася мне ў памяць гутарка паміж маімі суседзямі, крыху старэйшымі за мяне хлопцамі, якіх потым мабілізавалі на абарону Рэчы Паспалітай. Раман Саўрас, рослы і дужы, але бедны, хваліўся перад сябрамі, што наняты польскімі вайсковымі асаднікамі касіць сенажаць, у спаборніцтве з ігнаткаўскімі хлопцамі, ён скасіў за дзень цэлы гектар і зарабіў 80 грошаў. За іх ён мог купіць пачку гарадзенскай махоркі, якой хапала на тыдзень сціплага пакурвання. Махорка тая была горш апошняга самасея, але што ж - рызыкаваць астрогам, садзячы тытунь?

Паяднанне з вясковымі хлопцамі адбылося хутка. Гутаркі ля начлежных вогнішчаў, апавяданні крыху з перажытага і крыху з прачытанага, а таксама і выдумка вельмі зацікавілі дзецюкоў. Яны, абмежаваныя кругаглядам да вясковых і сямейных справаў, прагна ўслухоўваліся ў звесткі пра іншы свет, іншае жыццё, дзівосы тагачаснай тэхнікі, якія для іх былі абсалютнай абстракцыяй. Наведванні, калі-нікалі, цыганскага табару ў лесе, супольныя гульні і спевы ўзбагачвалі нашае жыццё начлежнікаў. Хоць праца на гаспадарцы пасля кожнага начлегу крыху дапякала, перамена гімназіста ў сялянскага практыканта аказалася прыемнай, і туга па мурах інтэрната або гімназіі не з'яўлялася.

**Балючая нечаканасць**

Ліпень, хоць і ў стоме, мінуў вельмі хутка. У жніўні, дзесьці напрыканцы першай дэкады быў час, каб пацікавіцца, ці не надышла вестка з інтэрната аб пачатку заняткаў. Лісты прыходзілі ў той жа Курган, дзе затрымліваўся цягнік, і там чакалі адрасата. Гэтым разам чакаў заказны ліст. Паколькі бацькава і маё імя былі аднолькавыя, я дастаў той ліст без праблемы. Распячатаўшы канверт, я адразу ўбіўся вычыма ў ліст, адрасаваны бацьку. Змест быў кароткі і ясны: "Ваш сын выключаны з праваслаўнага мітрапольнага інтэрната. Рашэнне канчатковае і не падлягае адмене". У маім нутры ўсё раптоўна замерла. Ногі не сталі мяне слухацца. Я прачытаў яшчэ раз. Усё ясна, толькі чаму? Прыгнечаны весткай, я марудна плёўся дамоў. Думкі гналі адна адну, шукаючы магчымай прычыны такога ўдару. З боку гімназічных улад, аб чым маглі сведчыць вынікі вучобы, не магло быць ніякіх прычын. У інтэрнаце выхавальнік майго класа, айцец Мікалай Лянчэўскі, напісаў мне як найлепшую характарыстыку. У чым жа тады справа? Засталося яшчэ разважыць палітычныя прычыны, магчыма, што звязаны са звальненнем архімандрыта Феафана, беларуса, з пасады дырэктара інтэрната і заменай яго тым Храшчэўскім. Ідучы развагамі ў гэты бок, пачалі прыгадвацца факты, якія на самай справе выклікалі сенсацыю сярод насельнікаў інтэрната.

З папярэдніх вакацый не вярнуліся ў інтэрнат Віктар Коска і Майсей Савашынскі з Орлі. У інтэрнаце пайшлі чуткі, што яны абодва, разам з іншымі мясцовымі хлопцамі, перабеглі на Беларусь, паверыўшы прапагандзе, што там бясплатная навука на роднай мове. Абодва яны былі маімі сябрамі з інтэрната і аднакласнікамі ў гімназіі. У вольны нядзельны час нам даводзілася наведваць Беларускі камітэт у Варшаве, які збіраўся недзе на вуліцы Хмельнай. Там, аднак, пра такія рэчы ніколі не было гутаркі. Інжынер Адам Клімовіч - хадэк, які там выступаў - быў, праўда, беларускім патрыётам, але перш за ўсё католікам. Кравец па прафесіі, Пётра Ластаўка, які актыўна ўдзельнічаў у беларускім руху, таксама быў далёкі ад якой-небудзь бальшавіцкай прапаганды. Больш з нікім не прыйшлося нам там пазнаёміцца ці пагутарыць, апрача студэнтаў тэалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, якія наракалі на аднаго з нашых інтэрнацкіх выхавальнікаў, айца Аляксея Зноску, што той быццам быў прапагандыстам Божай службы ў Праваслаўнай Царкве на польскай мове і нават царкоўнаславяншчыну перакладаў на яе. У інтэрнаце ён, аднак, раней часам гаварыў пропаведзі на беларускай мове, і нам гэта падабалася.

Разважаючы тую нітку прыгадак, я прыпомніў яшчэ і той факт, што адміністрацыйны сакратар інтэрната, нейкі Вішнеўскі, ураднік, прызначаны Міністэрствам веравызнанняў і адукацыі, паклікаў мяне аднойчы і разам са сваім памочнікам распытваў пра маю сям'ю, пра мову, якой карыстаюся дома. Пытанні былі таксама пра сястру, чаму яна вучылася ў беларускай, а не польскай гімназіі, і г.д. Хоць на іхнія пытанні я адказваў шчыра, то ўсё ж з іхняга боку напаткаў нейкія крытычныя заўвагі ці прапрокі, якія давялі мяне да плачу.

У канчатковым выніку, фактычнай прычыны тае крыўды, якую прычыніла мне выключэнне з інтэрната, так і не ўдалося выявіць.

Дома перш-наперш адбылася нарада з Людкаю, якая пасля атрымання атэстата сталасці ў Віленскай гімназіі паспела ўжо скончыць двухгадовы педагагічны інстытут, і таксама з мамай. Усім нам было ясна, што гэта незвычайная справа, і ўсе мы разумелі, што гэта будзе цяжкі ўдар для бацькі. Мы баяліся ягонай рэакцыі. Тым часам пастанавілі шукаць нейкае выйсце. Людка не губляла надзеі атрымаць працу ў школе ў нейкай вёсцы. Яна адразу паабяцала мне дапамогу, хоць ніякіх грошай яшчэ не зарабляла. Мы пастанавілі падаць заяву ў гімназію ў Лідзе. Я лічыў, што буду даваць прыватныя ўрокі першакласнікам па французскай і лацінскай мовах, і што нейк пераб'юся.

Заяву, аднак, давялося пісаць ад імя бацькі. Падроблены подпіс мігам быў раскрыты гімназічным дырэктарам, і ён, паклікаўшы мяне на размову, загадаў, каб з'явіўся сам бацька. Давялося яму аб усім сказаць.

У нядзелю мама з Людкай выперлі мяне з хаты на ўвесь дзень і дамовіліся, што мама наважыцца паразмаўляць з бацькам, а вечарам Людка ўпусціць мяне

цераз вакно. Так і сталася. Людка, дачакаўшыся мяне, перасцерагла, каб не паказвацца на вочы бацьку. Ён, пачуўшы ад мамы навіну, страціў над сабой кантроль, і ў сям'і дасталося ўсім без разбору. Сон не з'явіўся ні на хвіліну да самай раніцы. Абдумаўшы ўсе магчымасці спаткання з бацькам, я вырашыў адбыць яго без сведкаў. Гэта мне ўдалося. Бацька, быццам выпадкова напаткаўшы мяне, кінуў у мой бок адно-адзінае слова: "Сволач", - і пайшоў далей. Гэтая бацькава рэакцыя працяла мяне да болю, які быў і ягоным удзелам. Адбіты на аблічча адпячатак жалю і гора, перажытага ім у тую ноч, усвядоміў мне веліч пакуты таго цвёрдага па сваёй натуры чалавека. Абстаўленая ім апошняя карта раптам аказалася бітай, і іншых ходаў ужо не было. Паставіў ён на гэтую карту нямала, бо свой лес, і лес сваёй сям'і і сына, які, здабыўшы адукацыю, павінен быў рэкампенсаваць перажыванні бацькам і малодшаму сямейству, памагаючы яму выйсці ў свет з даўно ўжо зацеснай гаспадаркі. Цэлая гэтая будоўля раптам звалілася ад чыёгасьці незразумелага ўказу, і адбудоўваць ужо не было за што. Не ведаю, ці мае пазнейшыя тлумачэнні магчымых прычын майго выключэння з інтэрната пераканалі бацьку, але ён усё ж паехаў у Ліду да дырэктара гімназіі і заяву пацвердзіў.

**Канец ІІ Рэчы Паспалітай**

Жыццё прынесла нечаканасці. Хаця вёска фактычна была пазбаўлена кантакту са светам, весткі пра неспакой у краіне яе не мінулі. Узмоцненыя дзеянні паліцыі, пошукі якіхсьці шпіёнаў паказвалі, што адбываецца нешта дрэннае, а вестка пра пачатую 1 верасня вайну разнеслася маланкаю па ўсёй краіне. Зрэшты, непрыкметны дагэтуль рух самалётаў - ды такіх, што і вочы раней не бачылі - і грукат узрываў, якія даносіліся здалёк, не пакідалі сумненняў.

Гімназія ў Лідзе 1 верасня ўсё ж напоўнілася моладдзю. Але дырэктар заявіў, што канікулы прадаўжаюцца аж да адмены.

Бацька кожны дзень пасылаў мяне ў суседнюю вёску Ігнаткаўцы да настаўніка з заданнем паслухаць па радыё перадачы пра вайну. Нямецкае войска хутка рухалася на ўсход, а хлопцы, што адбылі раней вайсковую службу, былі ўсе мабілізаваны і высланы на фронт. Вярнуўся толькі адзін Арсень Радзюк з палону. Прапалі без вестак Раман Саўрас, Віцюк Радзюк, Міша Клімовіч і яго брат Сашка. Людзі, якія памяталі першую нямецкую акупацыю і бежанства, баяліся наступу немцаў. Ажно раптам громам разнеслася вестка, што Чырвоная Армія пастанавіла вызваліць "з-пад панскага іга" Заходнюю Беларусь і Заходнюю Ўкраіну.

Хоць пра бальшавікоў у апошнія гады распаўсюджваліся розныя страшныя чуткі, то аднак людзі лічылі, што ўжо горш не можа быць, і чакалі таго "вызвалення" досыць спакойна. 17 ці 18 верасня на лідскашчучынскай шашы і на гасцінцы, які называлі Екацярынаўскім, з'явіліся незлічоныя калоны грузавых машын з салдатамі, танкі, конныя тачанкі. Войска, праўда, паказалася не так прыгожа абмундзіраванае, як польскае, але вялікая колькасць тэхнікі ўражвала. Людзі выбягалі на дарогі, дзе затрымліваліся невялікія часткі. Там гутарылі з імі нейкія камандзіры, чыста апранутыя, з чырвонымі зоркамі на рукавах. Абяцалі свабоду і вызваленне ад паноў, якіх яны прагоняць, і нават раздавалі па паўбуханкі хлеба, хоць у тым часе, восенню, хлеба ўсім хапала.

Мяне збянтэжыла тое, што некалькі камандзіраў, пабачыўшы на мне школьны мундзір, распытвалі, якое гэта абмундзіраванне і з недаверам ставіліся да інфармацыі, што гэта вучнёўская вопратка.

Людзі расказвалі, што ў некаторых вёсках будавалі прывітальныя брамы войску і, заахвочаныя заклікамі вайскоўцаў, разбіралі дворскую маёмасць. Я гэтага нідзе не бачыў, а наш памешчык з Лебяды, Земавіт Фэдэцкі, калі быў змушаны ўладамі адмовіцца ад свайго маёнтка, знайшоў на даволі доўгі час прыпынак у суседняй вёсцы Феліксава. Былі і такія чуткі, што паны недзе быццам сарганізавалі мяцеж і рэжуць мужыкоў. Весткі гэтыя, хоць не пацверджаныя, выклікалі сярод людзей неспакой і змусілі мужыкоў да пільнай аховы вёсак. На шчасце, у нас была гэта толькі чутка.

Заняткі ў гімназіі Караля Хадкевіча ў Лідзе пачаліся ў першыя дні кастрычніка. На ўрачыстым адкрыцці школьнага года я з радасцю сустрэўся з маім прыяцелем з інтэрната - Міколам Грэбенем, які быў у іншым класе.

У хуткім часе ў школе правялі анкету, хто якой нацыянальнасці. У нашым класе афіцыйна беларусам запісаўся я, як і ў Варшаве, і апрача мяне толькі адна дзяўчына - Ніна Слесар. Іншыя вучні, хоць з чыста беларускімі прозвішчамі, назвалі сябе палякамі. Яўрэйскія дзеці таксама запісвалі сябе палякамі. Некаторыя казалі, што мусяць папытаць бацькоў.

Ледзь толькі настаўнік пакінуў клас, закончыўшы той дзіўны плебісцыт, як на мяне і Нінку пасыпаліся знявагі і забруджаныя крэйдаю анучы ад школьнай дошкі. Я заўважыў, што гэты закалот распачаў нейкі Вайткевіч (здаецца Раман), сын паліцыянта. Гэта зусім збянтэжыла мяне, тым больш, што ў варшаўскай гімназіі ніхто з нацыянальнасці не рабіў праблемы. Хіба што варшаўскія сябры часам пажартоўвалі з нашага ўсходняга акцэнту, але без якой-небудзь зласлівасці.

Незалежна ад вынікаў таго плебісцыту (мне яны невядомыя), школу неўзабаве перамянілі на беларускую дзесяцігодку, у якой толькі заняткі па прадмеце беларускай мовы вяліся на мове зблізанай да беларускай. На змену былому дырэктару з'явіўся новы - беларус (з Бабруйска ці Віцебска) прозвішчам Валько. Добры, просты чалавек, у нязменнай гімнасцёрцы, гутарыў па-беларуску, хоць можа не надта літаратурна. Былы дырэктар Кляйндзіст стаў яго намеснікам - завучам, што значыла "заведующий" вучобай.

Чацвёртакласнікі апынуліся ў восьмым класе і адчулі паніжэнне ўзроўню навучання. Амаль усе вучні мусілі нагнаць недахоп ведаў па гісторыі народаў СССР, прыкласціся да рускай мовы і папрацаваць над літаратурнай беларускай, якую большасць ведала толькі як вясковую гаворку. Настаўніца беларускай мовы Соня Майсееўна нядрэнна валодала ёю і вельмі пільна

рыхтавалася да ўрокаў, а мяне лічыла сваім кансультантам, што мне, ясная справа, імпанавала.

Людка стала настаўніцай у суседняй няпоўнай сярэдняй школе і Соня Майсееўна старалася пасябраваць з ёю, як экспертам-беларусаведам. Мой малодшы на два гады брат Лёнік паступіў у тэхнічнае вучылішча ў Лідзе, і мы ўсе трое жылі пры польскай настаўніцкай сям'і Міхнеўскіх, у доме каля муроў замка Гедыміна, займаючы два пакойчыкі на мансардзе.

Умовы жыцця сталі хутка ўскладняцца. Востра адчуваўся недахоп тавараў, а перад усім прадуктаў харчавання. Мы з Лёнікам хадзілі на досвітку пад пякарню і так стараліся заняць месцы ў чарзе, каб, памяняўшыся імі ў адпаведны момант, купіць па дзве буханкі хлеба. Прадавалі кожнаму па адной, а нам трэба было прынесці хлеба сабе і пані Міхнеўскай, муж якой быў затрыманы органамі НКУС, а пасля нейкага часу звольнены. З прамысловымі таварамі было таксама дрэнна. Памятаю, што Ліда восенню хадзіла ўся ўпэцканая гразззю, і я пастанавіў купіць сабе галёшы, якія прадукаваліся ў Лідскай фабрыцы. Чарга пад магазінам фармавалася ўжо пасля поўначы. Я заняў месца а другой гадзіне ночы. Міліцыя штораз разганяла чаргу, якая тут жа аднаўлялася. За першым разам каля адзінаццатай раніцы ўдалося мне даціснуцца аж да прылаўка, каб пачуць, што трэцяму перада мною прадалі апошнюю пару. Наступным разам прыйшлося забяспечыць сабе месца ў чарзе апоўначы. І нейк дабіўся тае пары галёшаў.

У Лідзе стала выходзіць мясцовая газета "Ўперад". Рэдактарам быў Петра Радзюк з Вільні. Намовіў ён мяне напісаць артыкул на тэму школы. Мой першы ў жыцці нарыс рэдактару спадабаўся.

У школе жыццё і адносіны між моладдзю хутка ўнармаваліся. Знікла праблема нацыянальных розніц. Моладзь канцэнтравалася на сваіх юнацкіх і школьных праблемах. А таксама кансалідавалася, чаму спрыяла, на мой погляд, пагроза страты асабістай свабоды, што вісела практычна над кожным, ці то з фактычных палітычных, ці прыдуманых прычын, за нешта не так сказанае, за прагул на працы, за прошлыя падзеі і г.д. З другога боку, яднала шырока разгорнутая вучнёўская культурна-мастацкая самадзейнасць. Мэтай гэтай самадзейнасці было перад усім палітычнае ўзгадаванне моладзі, што ў выніку, аднак, давала адваротны да запланаванага эфект.

Моладзь, якая ў большасці стала адчуваць у сямейным жыцці прыгнечанасць, выкліканую няпэўным заўтрашнім днём ды татальную матэрыяльную нястачу, ядналася непрыкметна ў пачуцці асаблівага супраціву. Стала з'яўляцца штораз больш забароненых жартаў, спрафанаваных прапагандысцкіх плакатаў і г.д. Інспірацыя ішла, праўдападобна, з пазашкольнага асяроддзя.

Створаная ў школе камсамольская арганізацыя гуртавала амаль выключна моладзь, якая прыбыла з бацькамі з усходніх рэгіёнаў Беларусі. Мясцовае маладое пакаленне таго часу, узгадаванае на прынцыпах хрысціянскай або яўрэйскай этыкі, не гарнулася да арганізацыі, заснаванай на атэізме. Датычыла гэта і мяне - былога кандыдата ў святары.

**Акупанты мяняюцца - акупацыя застаецца**

Напад немцаў на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 года выклікаў у людзей неадназначныя, а ў кожным выпадку трывожныя, пачуцці. З аднаго боку, рассыпка савецкага рэжыму не выклікала жалю, а сумятня, прычыненая нямецкім нападам, прынесла нават часовае аблягчэнне збянтэжаным масавымі арыштамі і вывазкай у Сібір людзям. З другога боку, у шматлікіх разбітых сем'ях паявілася трывога за лёс адсутных з розных прычын членаў сям'і: арыштаваных, вывезеных, высланых на работу, вучобу ці забраных у Чырвоную Армію.

Трывога не мінула і нашай сям'і. Адсутнасць Лёніка, які тым часам выехаў у тэхнічнае вучылішча ў Беласток, устрывожыла асабліва маму. Людка перажывала невядомы лёс мужа, які два дні перад вайной паехаў у Курск да цёткі, якой у жыцці не бачыў. Ды ён ніколі, наогул, не быў у Савецкім Саюзе.

Нямецкая агрэсія расшыралася з маланкавай хуткасцю. Тысячы чырвонаармейцаў здаваліся ў палон, не прадбачваючы нечалавечай трактоўкі. Стратэгічныя дарогі былі завалены пакінутай вайсковай тэхнікай. У кустах валялася зброя. На дарогах з'явіліся незлічоныя калоны гнаных на захад палонных. Па вёсках разнеслася чутка, што палонныя слабнуць ад голаду і стомы, а тых, якія не могуць прадаўжаць сваёй нявольніцкай дарогі, звычайна забіваюць. Людзі гаварылі, што сярод палонных салдат здараюцца і маладыя цывільныя хлопцы.

Весткі тыя, быццам па загаду, змабілізавалі перад усім уражлівых на чужое няшчасце жанчын. Амаль з кожнай сям'і нехта з торбаю хлеба ды соллю (якой прасілі паслабелыя ад страты вадкасці ў арганізме палонныя) выходзіў на ўскрай дарогі. Перадача хлеба ў рукі нешчаслівцаў была небяспечнай, бо канваіры адганялі, а то і дзе каго ўпіхалі ў калону. Людзі кідалі кускі хлеба ў натоўп гнаных мужчын, а тыя хапалі іх у паветры. Соль кідалі ў якіх-небудзь мяшэчках альбо проста ў палатняных вузельчыках. Пры нагодзе людзі пільна сачылі, ці не паявіцца ў калоне палонных хто-небудзь свой ці знаёмы, бо іншай магчымасці пошукаў не было.

З нашай сям'і таксама на змену нехта выходзіў, каб акунуцца ў тым пекле, створаным людзьмі на зямлі. Час ад часу з калоны даносіліся маленні: перадайце сям'і той ці іншай у Бабрах, Змітраўцах ці іншых Сямашках, што іх сыноў, братоў і т.д. гоняць з палоннымі. Такім чынам нямала хлопцаў ратавалі, даганяючы калоны ці знаходзячы іх у звычайных загарадах з калючага дроту, дзе прыпынялі гнаных і трымалі пад голым небам да знямогі.

Падобны лёс спаткаў і майго брата Лёню, якому ўдалося вызваліцца з такога лагера пасля амаль месячнай галадоўкі, абяссіленаму, ледзь жывому. Муж Люды вярнуўся пасля таго, як немцы занялі Курск.

З немцамі вярнуліся памешчыкі, вайсковыя польскія асаднікі, паліцыянты і ўрадоўцы, каб апанаваць гаспадарку і адміністрацыю. Пасыпаліся розныя правакацыі, забойствы мужыкоў і нават паленне вёсак з людзьмі. Першая суседняя спаленая вёска, Леснікі, дзе

жылі і мае сваякі, сталася жудаснай перасцярогай дня фактычна ні ў чым не вінаватых людзей.

**Каганец беларускай асветы**

У хуткім часе пайшлі чуткі, што з'явіліся беларускія арганізацыі. Людзі, якія стараліся ўдзельнічаць у цывільнай адміністрацыі, рабілі гэта, у асноўным, дзеля абароны беларускага насельніцтва. Была створана Беларуская народная самапомач і, перад усім, прызначаны школьныя інспектары, якія пачалі арганізоўваць нароўні з польскімі беларускія народныя школы.

Я - выпускнік дзевятага класа, прысвоіўшы ад сястры Людкі "абэцэду" па педагогіцы і дыдактыцы, пастанавіў паспрабаваць настаўніцкага хлеба. Намовіў бацьку, і мы паехалі ў Ліду, у школьны інспектарат. Пры нагодзе спаткаўся я з некаторымі школьнымі сябрамі, якія таксама шукалі працы. Як на злосць, спаткаўся і той Вайткевіч. Глянуў на мяне воўкам і хутка затрымаў нейкіх нямецкіх салдат ды нешта заўзята ім тлумачыў, паказваючы на нас з бацькам. Немцы падышлі да нас і з рогатам, тыцкаючы на бацькаву чорную бараду, пыталі: "Jude? Kommunist? Pass, bitte". Зірнуўшы на бацькаў памяты пашпарт, на мяне і на наш воз, махнулі рукою і, кінуўшы ў бок правакатара: "Kwatsch", пайшлі сваёй дарогаю. Вайткевіч паспешна мяне запэўніў, што гэта не апошняе з ім спатканне, што, на жаль, у будучыні і споўнілася.

У інспектарацы прыняў мяне інспектар Макарэвіч, хоць можа і недаверлівы, але ветлівы, і даў мне накіраванне ў вёску Касілаўцы, што між Лідаю і маімі Клімавічамі, каб сарганізаваць там заняткі для класаў І-IV.

Псіхічна падмацаваны Людкай, якая абняла ўжо школу ў суседніх Сямашках, з'явіўся я ў восеньскую нядзелю да касілаўскага солтыса з просьбаю склікаць сход. На працягу паўтары гадзіны хата солтыса запоўнілася мужчынамі. Я стаў нясмела талкаваць пра неабходнасць беларускай школы, так як у суседнім Мыце сарганізавалася школа польская.

Дзядзькі маўчалі, пакуль адзін з іх не адазваўся з пытаннем: "А хто будзе вучыць дзяцей?" Я зразумеў, што гэта пытанне рытарычнае, правакацыйнае, але адказаў:

- Зразумела, што я.

- Дык дзе ж ты жыць будзеш, хлопча, хіба што ў старой Акуліны на печы?

Я збянтэжыўся такім паваротам справы, але нечакана іншы селянін, устаўшы з месца, пачаў вымахваць пальцам перад носам таго жартаўніка, ды басам на яго:

- Калі табе не падабаецца, дык матайся сабе к чортавай мацеры, бо няма з чаго насміхацца ды страшыць хлопца, калі хоча нам дапамагчы.

Тут і загаварылі мужыкі. Слова да слова, знайшлася вольная хата ў старога Кушыка на маю школу і пакойчык у сына той Акуліны, Селявіча, для настаўніка, і лаўкі паабяцалі мне прывезці з Мыта. Надышлі і хлопцы, якія завязалі са мною гутарку і паабяцалі дапамогу, калі спатрэбіцца. Такім чынам я стаў "дырэктарам" чатырохкласнай беларускай школы з правам падмятання. Мыць падлогу ахвяраваліся вясковыя дзяўчаты і кожны тыдзень сумленна выконвалі сваё абяцанне. Заняткі адбываліся цэлы дзень: да поўдня першы клас з другім, а пасля поўдня - трэці з чацвёртым. Падтрымку майму дыдактычнаму змаганню давала ўвесь час Людка, да якой па парады ездзіў я на ровары. Дзякуючы яе каштоўным, так тэарэтычным як і практычным радам, навука ў тых умовах выглядала не найгорш.

Напрадвесні 1942 года паявіўся ў мяне на інспекцыі Юльян Груцкі з Васілішак, які быў кіраўніком Беларускай народнай самапомачы і адначасна візітатарам школ у тым раёне. Не ведаю, наколькі быў ён знаёмы з педагогікай, але выявіў нечаканае захапленне маім спосабам навучання, аб чым паведаміў і акруговаму інспектару ў Лідзе.

Жыццё ў Касілаўцах уладзілася вельмі добра. Настаўніка людзі паважалі і ўсяляк спрыялі яму, а вечарамі моладзь ахвотна запрашала ў сваю кампанію.

Аднак ідылія не трывала доўга. Вясною 1942 года праводзіўся перапіс насельніцтва, у якім мелі абавязак удзельнічаць усе вясковыя настаўнікі. Маім абавязкам было выканаць перапіс у Касілаўцах і трох іншых акалічных вёсках. Аказалася, што каля 90% запісаліся беларусамі, а беларускую мову, як хатнюю, назвалі блізка 100%. Палякамі назвалі сябе толькі некаторыя рымскія каталікі і пара сем'яў назвалася рускімі. Згодна з раней атрыманай інструкцыяй, адказ на пытанні нікому не накідаўся і не раіўся. Афіцыйныя вынікі перапісу ў Лідскай акрузе мне не былі вядомы, але пасля яго заканчэння ўзмоцнілася дзейнасць падпольнага руху.

**Тэрор на змену спаборніцтву**

Лідскі і Шчучынскі паветы былі пад моцнымі польскімі ўплывамі. Адміністрацыя і паліцыя былі абсаджаны галоўным чынам палякамі. Пранікание беларускага элементу ў органы тэрытарыяльнага кіравання было непамерна слабейшае. Адзіная грамадская арганізацыя таго часу, Беларуская народная самапомач (БНС), створаная на ўзор польскай Rady Glownej Opiekunczej (RGO), апрача збору харчовай і матэрыяльнай дапамогі галоднаму Менску і іншым гарадам на ўсходзе краіны, старалася пашырыць прысутнасць беларусаў у грамадскім жыцці, у тым ліку ў органах мясцовай адміністрацыі, арганізаваць народнае школьніцтва, абарону суайчыннікаў, калі ім рабілася крыўда акупантам ці кім іншым.

БНС здабыла сярод насельніцтва даволі вялікую папулярнасць, як адзіная арганізацыя, да якой людзі маглі прыходзіць са сваімі скаргамі, шукаць ратунку ці сякой-такой помачы. Зразумела, што яна першая і трапіла пад абстрэл у тым спаборніцтве за магчымасці ўздзеяння на публічныя і культурныя праблемы.

Усё гэта можна было яшчэ трываць, пакуль яно ўтрымлівалася ў рамках паняцця "спаборніцтва". Прапаганда таго ці іншага боку, якая б яна не была, магла перасцерагаць, але не забівала. Пад тым пра-

пагандысцкім - у адмоўным сэнсе - "абстрэлам" апынуліся і школы. Напуджаныя людзі пачалі баяцца пасылаць дзяцей у беларускую школу. Аднак навучальны год у Касілаўцах закончыўся без асаблівых перашкод.

У хуткім часе жахам адгукнуліся ў народзе весткі аб крывавых ахвярах. Першым забітым у тым рэгіёне быў у ліпені 1942 года студэнт Пётра Рандарэвіч - старшыня шчучынскай БНС, вядомы там дзеяч культуры. Выведзены сілаю невядомымі асобамі пасля пастаноўкі ў Ракавічах п'есы Янкі Купалы "Паўлінка", быў мучаны і застрэлены. На вечары прысутнічалі, між іншымі, Юльян Груцкі (успамянуты раней) і шчучынскі дасведчаны настаўнік - прызначаны школьным інспектарам у Васілішкі - Павел Шляхтун. Аб расправе з Пётрам Рандарэвічам Павел Шляхтун хутка паведаміў каменданту паліцыі ў Шчучыне, Коцату, якога ведаў як дасведчанага паліцыянта яшчэ з даваеннага часу. Той абнадзеіў Шляхтуна, што дапаможа, і параіў яму разам з Груцкім вярнуцца ў Васілішкі, не робячы замяшання. Тыя, аднак, да Васілішак на сваіх самакатах так і не даехалі. Абодва былі зложаны стрэламі з вінтовак непадалёк Васілішак. Пасля гэтага забойцы завалаклі трупы ў жыта. Перапалоханыя людзі не асмельваліся ўмешвацца ў тую небяспечную справу і ўжо надгнілыя пасля некалькіх дзён целы забрала лідская жандармерыя. Расследаваннем справы заняўся нейкі малады паліцыянт з Ліды, прозвішчам Усевалад Канчук, які таксама хутка згінуў ад кулі ў патыліцу, пасланай яму на вуліцы ў Лідзе сярод белага дня. Неўзабаве пасля забойства Рандарэвіча былі замучаны дзве маладыя настаўніцы ў Ражанцы, а пазней - праваслаўны святар Аляхновіч з жонкаю. Ахвяры, пачынаючы з лета 1942 года пасыпаліся густа. Разносіліся пра іх жудасныя весткі.

Маімі сябрамі ў часе працы ў Касілаўцах былі настаўнікі беларускай мовы ў Навасёлках і польскай у Мыце. Абодва польскай нацыянальнасці, а той з Навасёлак - мой школьны лідскі сябра. Нашы кантакты былі шчыра сяброўскія, пазначаныя ўзаемнай лаяльнасцю. Ва ўзніклай складанай сітуацыі мы, як і раней, раіліся, як быць далей. Паводле нашай згоднай ацэнкі, прадаўжаць навучанне было немагчыма, тым больш, што і сяляне супраціўляліся пасылаць дзяцей у школу.

Тым часам дайшла да мяне чутка, што ў Наваградку дзейнічаюць прагімназія і настаўніцкая семінарыя, арганізуецца матуральны агульнаадукацыйны курс (апошні год сярэдняй школы), і пры гэтым комплексе школ сарганізаваны інтэрнат. Мы з Міколам Грэбенем (з якім кантакты былі ўвесь час вельмі блізкія) і іншымі сябрамі дамовіліся выбрацца ў Наваградчыну на самакатах. Сам Наваградак, як і яго ваколіцы, выклікалі ў мяне нечакана цудоўнае ўражанне. Знайшліся хутка і сябры, якія прынялі нас, як родных, памаглі мне аформіць неабходныя для паступлення на матуральны курс дакументы і дабіцца месца ў інтэрнаце.

Дачакаўшы канца жніўня, я так і падаўся на тыя навукі. Дабраўшыся ў Ліду, на чыгуначны вакзал, трэба было нейк забрацца на цягнік у Наваельню, а адтуль "кукушкаю" (вузкакалейнаю чыгункай) - у Наваградак. На вакзале паявіўся школьны калега Вайткевіч, той самы сын паліцыянта. Не адчуваючы да яго ніякай варожасці, я падышоў і спытаў, ці не ведае ён, як трапіць на цягнік у Наваельню. Ён распытаў, куды і чаго я еду, а пасля паклікаў чыгуначнага паліцэйскага - немца і нешта яму сказаў. Той накіраваў на мяне зброю і завёў у камендатуру. Тут паявіўся мой "сябра", які ўражальна тлумачыў нешта афіцэру, што сядзеў за пісьмовым сталом. Я нямецкай мовы не ведаў, але чуў, як паўтараюцца словы: "Нёман, Наваельня, бандыты". Немцы акружылі мяне, сцягнулі з плячэй плашч па локці, каб не мог валодаць рукамі, дакладна абшукалі мяне і мой мяшок, у якім быў гарох для інтэрнацкай кухні, раскідалі пакунак з кніжкамі і сшыткамі, забралі фінскі нож і нешта злосна выкрыквалі. Я не ведаў, што за Нёманам былі савецкія партызаны, але зразумеў, што Вайткевіч - правакатар і што склалася небяспечная для мяне сітуацыя.

Вытлумачыцца я не мог, бо Вайткевіч пераклаў бы ўсё наадварот. Раптам прыйшла мне ў галаву думка спытаць, ці хто разумее па-французску. Нейкі малады унтэр-афіцэр спытаў мяне тады школьнай французскай мовай, што я хачу сказаць. Мяне гэта вельмі абнадзеіла, бо я зарыентаваўся, што яго веды французскай мовы адпавядаюць маім. Я стараўся пераказаць яму, куды і чаго еду, і што іх канфідэнт злоўжывае сваім становішчам ды наводзіць асабістыя парахункі. Хлопцу, відаць, заімпанавала роля перакладчыка, бо стараўся перадаваць змест дакладна і хутка перамяніў адносіны свайго шэфа да мяне. Вярнулі мне маю "маёмасць", а той унтэр-афіцэр вывеў мяне на вакзал і нават дапамог забрацца на цягнік. Растлумачыў мне таксама, што Вайткевіч - гэта іх супрацоўнік, але не карыстаецца яго сімпатыяй.

**У Наваградак**

Цягнік у напрамку Баранавіч стаяў ужо пад параю, але чамусьці ўсё яшчэ марудзілі з адпраўкаю. Састаў цягніка быў мешаны: перад паравозам стаяла таварная платформа, за лакаматывам - тры ці чатыры крытыя таварныя вагоны, далей столькі ж пасажырскіх і зноў некалькі таварных. Сам факт такога асаблівага складу непакоіў. Платформа перад паравозам сведчыла пра магчымасць замініравання чыгункі.

На сярэднім пасажырскім пульманаўскім вагоне віднеў надпіс: "Nur fur Deutsche", іншыя былі прызначаныя для тубыльцаў. Гэта даваенныя польскія ці мо нават яшчэ царскія вагоны трэцяга класу, адметнасцю якіх былі дзверы - адны побач адных - над ступенькай уздоўж цэлага вагона. Унутры вагон падзелены сценкай з дзвярыма на дзве часткі. Між драўлянымі лавамі быў праход уздоўж "салона".

У вагоне стаяў востры пах тытуню, поту і самагонкі. Найбольш лавак займалі рослыя хлопцы ў зялёных мундзірах, што дапівалі літровую бутэльку ўпераменку з дружным смехам - гэта былі літоўскія жандары. У іншым вугле сядзелі паліцэйскія ў чорнай вопратцы, кідаючы час ад часу моцнымі словамі, прыхарошанымі квяцістымі прыметнікамі то польскага, то беларускага паходжання. Некалькі маўклівых мужчын

у сялянскай вопратцы кідалі па слоўцу, быццам з прымусу, пра слабы ўраджай і непамерна цяжкія падаткі збожжа і мяса. Мне прыпала месца каля двух дзецюкоў, якія таксама не раскідваліся словамі, толькі напаўголаса абменьваліся двухсэнсавымі крытычнымі заўвагамі на польскай мове. Насупраць сядзелі два пажылыя мужыкі, а неўзабаве каля мяне прысеў яшчэ адзін з іх кампаніі. Яны таксама не былі гаваркія, але калі цягнік нарэшце скрануўся з месца, пачалі ўзгадняць мэту падарожжа, мяшаючы маскоўскую гаворку з беларускімі назвамі мясцовасцяў, што сведчыла аб іх чужацкім паходжанні. Месца, аднак, яны доўга не сагрэлі і ўжо на першым прыпынку перайшлі ў другую палову вагона. Відаць, не па душы была ім штораз весялейшая гутарка тых жандараў, пераплеценая жаўнерскімі песнямі на незразумелай мове.

Спатканне з канфідэнтам, незвычайны склад цягніка і разнароднасць яго пасажыраў, усё гэта выклікала нечаканыя эмоцыі, што перамешвалі цікавасць са страхам перад невядомым, у якое міжволі прыйшлося мне нырнуць. Стала ясным, што з ад'ездам цягніка з Ліды я паступова паглыбляўся ў новы, невядомы свет. Польская мова, паўсюдная ў Лідзе, раптам у цягніку заглухла ці залезла ў падполле. Мае два маладыя спадарожнікі выразна канспіраваліся са сваёй польскасцю і правакавалі толькі мяне - хлапчука ў гімназічным плашчы - адазвацца, але, пераканаўшыся ў адсутнасці рэакцыі з майго боку, замоўклі. Перасцярога перад мінамі, паяўленне рускіх дзецюкоў, якія нагадвалі тых шматлікіх уцекачоў з палону, што папрыпыняліся ў адзінокіх маладзіц, гэта было несумненна пацвярджэнне факту дзейнасці савецкіх партызан. Польскае падполле мела ў тым часе іншыя турботы, чым мініраваць камунікацыйныя шляхі.

У Наваельню цягнік даплёўся без перашкодаў. Побач вакзала, на станцыі вузкакалейнай чыгункі заўзята дымеў паравоз "кукушкі". Кучка пасажыраў з лідскага цягніка хутка падалася ў напрамку прычэпленых да яго некалькіх вагончыкаў. Вольнага месца ўсярэдзіне было шмат. Я ўладзіўся побач пасажыраў - з выгляду сялян - каб прыслухацца іх гутарцы. Мае суседзі гаварылі толькі па-беларуску, а пявучасць і чысціня мовы захапілі мяне так, што я асмеліўся спрабаваць завязаць з гэтымі людзьмі размову.

Спачатку я адчуў з іх боку нейкую стрыманасць, але калі выясніў мэту майго падарожжа, быў палічаны за свайго. Звярнуўшы ўвагу на мой плашч гімназіста, яны параілі не падарожнічаць у "мундзіры", бо гэтага не любяць "лясныя хлопцы", якія час ад часу паказваюцца на лясных адрэзках шляху і пераследуюць абмундзіраваных, не разбіраючыся ў паходжанні ўніформы. Тады толькі я звярнуў увагу, што ўсе паліцэйскія і іншыя мілітарызаваныя ды з ружжом згуртаваліся ў адным вагоне.

Падарожжа, аднак, прайшло спакойна. У Навагрудак прыехалі перад самым змяркannем. У інтэрнаце знайшоў я сваіх летніх знаёмых з цягніка. Яны без ніякіх цырымоній адвялі мяне да матурыстаў, якія запрапанавалі вольны ложак. З'яўленне новага сябра выклікала зразумелае зацікаўленне, тым больш, што прыбыў я з Лідчыны, пра якую было нямала чутак.

Першымі прынялі мяне вельмі па-сяброўску Андрэй Вайтовіч, Філя Давідчык, Міхась Ляпешка ды іншыя, чыіх прозвішчаў не прыпамінаю. Нехта з іх пабег у кухню папрасіць міску вячэрняй заціркі, ды, на жаль, пазнавата. Усё, чым разжыўся, гэта толькі луста хлеба. Бачачы гэта, маўклівы Міша Ляпешка вычараваў са свайго куфэрка кусок белага як снег, пахучага прыправамі сала і, быццам збянтэжаны, запрапанаваў мне яго як акрасу да таго хлеба. Голад дапякаў ужо ад полудня, дык спажыванне, што здавалася каралеўскай вячэрай, прыпыніла гутарку. Пасля трывожных падзеяў дня нараслі пачуцці расслабленасці і аптымізму, выкліканага шчыра сяброўскім прыёмам і зычлівасцю, якою бескарысна, ці можа інстынктыўна, адчуваючы супольны інтарэс у імкненні да жыццёвай мэты, абдаравалі мяне жыхары інтэрната.

Хлопцы на момант таксама прыціхлі. Пасля, не перашкаджаючы мне ў вячэры, сталі між сабою каментаваць пачутае і папаўняць ранейшымі інфармацыямі. У іх гутарцы Лідчына явілася варожым нямецка-польскім анклавам, дзе знішчаецца кожная праява беларускага нацыянальнага руху. Факты перамешваліся з міфамі. Каб не распальваць эмоцыяў, я пастанавіў быць стрыманым у сваіх апавяданнях, а інцыдэнт з Вайткевічам ахарактарызаваў, як асабістыя парахункі канфідэнта з выбранай ім ахвярай. Мае сяброўскія ўзаемаадносіны з польскімі настаўнікамі падаў я як прыклад апалітычных міжлюдскіх кантактаў. Некаторыя прынялі гэтыя інфармацыі з разуменнем, іншыя з недаверам, але спакойна.

Вераснёўскай раніцай наступнага дня прыйшлося мне ўпарадкоўваць фармальныя справы, звязаныя з паступленнем на матуральны курс і закватараваннем у інтэрнаце. Паспеў я яшчэ на дзве апошнія лекцыі: па грамадазнаўству, якое выкладаў Анішчык - шчыры беларус з філасофскімі схільнасцямі, і па беларускай мове Наталлі Орсы, муж якой, Аляксандр, быў у той час школьным інспектарам. Абедзве лекцыі паказаліся - як зместам, так і формай яго пераказу - чароўна прыемнымі, блізкімі сэрцу.

Школы: прагімназія, настаўніцкая семінарыя і матуральны курс, разам з інтэрнатам займалі цэлы комплекс будынкаў каля маладога парку, пры замчышчы. Між школьнымі будынкамі, хоць яшчэ да канца не ўладжаны, не пуставаў спартыўны пляц.

Школьная моладзь - амаль выключна з вёсак Наваградчыны, з Карэліч, Любчы, Наваельні і з самога Наваградка. Пераважалі, зразумела, дзеці сялян. На нашым матуральным курсе, апрача мяне з Лідчыны, былі яшчэ тры хлопцы з Дзятлава: два Мацюковічы - мае аднакласнікі з варшаўскіх гімназіяў і інтэрната, ды трэці - Станчук-Ляўчук. Іншыя - усе наваградчане. Беларускую мову ведалі дасканала, тым больш, што наваградская гаворка амаль поўнасцю адпавядае нормам літаратурнай. Частка матурыстаў - гэта былыя вучні Віленскай беларускай гімназіі. Іншыя, хоць да вайны вучыліся ў польскіх школах, аднак дома карысталіся роднай мовай, а на працягу двух гадоў савецкай школы засвоілі і тэарэтычныя філалагічныя веды. Культ роднай мовы ў наваградскім асяроддзі быў укаранелы з часу зліквідаваных у міжваенны час палякамі беларускіх школ.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Ірэна Стасевіч-Ясюкова***

# Божае Нараджэнне на крэсах ў міжваенным дваццацігоддзі[1]

*Варшава 2001 год.*

*Прашу прыняць красовыя пажаданні здароўвага, радаснага Свята Божага Нараджэння, і яшчэ ў Новым Годзе толькі таго, што Добрае, Прыгожае і Вартае ўвагі.*

**1.**

Пачну ад ўспамінаў маёй мамы - Марыі Стасевіч са Стасевічаў. Калісьці паміж маімі бацькамі напэўна існавала нейкае вельмі аддаленае радство па крыві, таму і прозвішча было аднолькавае. Мама нарадзілася ў 1903 годзе, і яе апавяданні пра Свята Божага Нараджэння тычыліся 20-х гадоў ХХ-га стагоддзя, калі яна як ліцэістка, а потым студэнтка Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, праводзіла святочны час у бацькоўскім доме ў Лідзе - у бабулі, якая жыла на вуліцы Сувальскай. Бабуля мела сямёра дзяцей, двое з іх памерлі маленькімі з трагічных выпадкаў. Дзед - Ян Стасевіч - памёр, пакінуўшы жонку з пяццю дзецьмі. Гадаваць іх было цяжка. Аднак, дзякуючы вялікай працавітасці і гаспадарлівасці, бабуля змагла не толькі забяспечыць дастатак сям'і, але пры дапамозе старэйшага сына, які пачаў працаваць інжынерам на чыгунцы ў Варшаве, дала магчымасць яшчэ траім дзецям скончыць вышэйшыя вучэльні, што было ў тыя часы для Ліды асаблівым выключэннем. Уся сям'я пад час Свята Божага Нараджэння прыязджала з розных гарадоў Польшчы ў Ліду, каб сустрэцца пры вігілійным стале. І з гэтага месца распачынаюцца ўспаміны маёй мамы, якая, на шчасце, запомніла тыя часы так добра, што ў стане іх і сёння аднавіць.

Так што давайце вернемся ў часе на 75 гадоў назад да дому бабулі - на вуліцу Сувальскую. На жаль, нумар дома не памятаю (а можа ніколі яго і не ведала), але помню, што дом знаходзіўся паблізу яўрэйскага шпіталя і яўрэйскіх могілак; недалёка ад узгорка, за якім пачыналася поле, ніжэй - луг і рака Лідзейка. На гэтым пагорку ездзіў на лыжах, вышэйзгаданы дзядзька Зыгмунт - інжынер, які прыязджаў на Божае Нараджэнне да Ліды з Варшавы, дзе, як казаў - не было ніколі праўдзівай зімы і сапраўднага снегу. Снег ва ўспамінах маёй мамы, як і ў маіх, заўжды лучыўся з Божым Нараджэннем у Лідзе, асабліва ў Дзень Вігіліі, калі ў Варшаве шэра і імжыста, а душа сумуе па снезе, які неразрыўна звязаны са святочным настроем Божага Нараджэння. Як жа прыгожа піша аб гэтым Сафія Косак-Шчуцкая ў " Roku Polskim", кнізе, якая напісана пад час побыту гэтай знакамітай польскай пісьменніцы ў Англіі ў 1953-1954 гадах.

*(...) Прыгажосць снегу цэняць толькі тыя, хто яго не бачыў здаўна, жывучы ў краі, дзе на працягу пяці месяцаў трывае канец кастрычніка. На чым грунтуюцца чары снегу? На цішы, і на тым, што белы. Цішыня заўсёды годная, тады як шум заўсёды паспаліты (...) Шум раздрабняе - цішыня аб'ядноўвае. Усе вялікія рэчы, перад тым як нарадзіцца, патрабуюць цішыні. Бель - гэта чысціня і нявіннасць (...) Свет, чакаючы на прыход Збаўцы, ахутваецца ў белае...*

Ва ўспамінах маёй мамы Божае Нараджэнне ў Лідзе было заўсёды снежнае, а ў Дзень Вігіліі: 24-га снежня за акном віравалі далікатныя пласцінкі белага снегу. Гэта стварала спецыфічны, непаўторны настрой перад святочнай вячэрай. У цёплым, нагрэтым вялікай печчу, пакоі стаяў доўгі авальны стол, за якім магло сесці дваццаць асоб. На гэтым стале раскладалася духмянае сена - яно павінна было напамінаць аб стайні ў мястэчку Бэтлеем, дзе нарадзіўся пан Езус, і было ў мясцовай традыцыі такое ж важнае, як і аплатка. Забыцца пра сена было нельга. Пасля вігілійнай вячэры моладзь выкарыстоўвала гэтае сена для варажбы: даўжыня сцябла выцягнутага з-пад абруса, нібыта вызначала працягласць жыцця. Потым сена трэба было занесці да стайні ці аборы, каб хатняя жывёла, спажыўшы яго, прыдбала здароўя. Абрус на вігілійным стале абавязкова быў снежна-белы - найлепш льняны. Белы колер сімвалізаваў чысціню Дзевы Марыі. На галоўным месцы стаяў сподачак з аплаткам. Самым важным дзеяннем пры святочным стале было дзяленне аплаткам. Пераважгнаўшыся, бабуля, як старэйшая гаспадыня дому, выказвала ўсім прысутным пры стале віншаванні і падыходзіла з аплаткам да кожнага асабіста, каб падзяліцца з ім гэтым каталіцкім сімвалам сямейнага звязу. Менавіта Свята Божага Нараджэння - гэта сямейнае свята, і абавязкова ў гэты дзень пры сямейным стале збіраліся ўсе родныя. Успаміналі тых, што былі далёка, і тых, што адышлі ад нас назаўсёды. Пры вігілійным стале павінна было быць вольным адно сервіраванае месца, якое прызначалася неспадзяванаму госцю. У гэты святы вігілійны вечар кожны, хто пастукаў у дзверы, прымаўся гаспадарамі з адкрытым сэрцам. На вігілійную вячэру запрашалі адзінокіх сваякоў, блізкіх знаёмых, каб разам падзяліцца аплаткам.

Вігілія ў маёй бабулі, а пазней і ў маіх бацькоў, складалася з дванаццаці посных страў. Забаранялася піць алкагольныя напоі - папросту іх не падавалі, але затое заўсёды на стале знаходзілася некалькі гатункаў селядца:

1) Ральмопсы - селядцы, якія пасля ачышчэння ад касцей і шкуркі, набралі водар і смак адпаведных прыпраў ў шкляным слоіку, а таму гатаваліся за пару дзён перад Вігіліяй;

2) селядцы з цыбулькай і яблыкам;

3) селядцы па - каралеўску - з вялікай колькасцю прыпраў з каранёвай гародніны - рабіліся таксама загадзя;

4) "посныя" селядцы - селядцы смажаныя ў цесце.

І яшчэ з рыбы:

5) карп у жэле;

6) шчупак па - яўрэйску - шчупак фаршыраваны;

7) карп смажаны - абавязкова на алеі са сланечніку.

Рыба падавалася з хлебам з поснага цеста і, канешне, з хрэнам. Затым прыносілі вігілійны боршч, таксама посны, празрысты і чырвоны, кіславата - салодкі, запраўлены не воцатам, а лімонам і сокам вішні, што дадавала яму яшчэ прыгажэйшы колер. Да баршчу падаваліся "вушкі" (піражкі па форме падобныя да вуха - *Л. Г.*), фаршыраваныя грыбамі і цыбулькай, смажаныя на алеі, хрусткія, яны былі асабліва выдатныя. Рэцэпты, якія ўтрымлівалі інградыенты і спосаб прыгатавання, бабуля перадала маёй маме, а мая мама - мне. Але хто ж мог параўнацца ў кулінарным майстэрстве з бабуляй?! З упэўненасцю: не я. Галоўнай стравай вігілійнай вячэры была куцця, радавод якой вёўся з тых даўніх часоў, калі пшаніцу малолі ў жаронках. Уласна пшаніца - сімвал багацця, мак - сімвал спакойнага сну, і мёд - асноўныя складальнікі куцці. Але прыгатаваць куццю так, каб была смачная, вельмі няпроста. З маіх дзіцячых гадоў помню, што гэтую сімвалічную вігілійную страву старалася як-небудзь абмінуць, і ела яе толькі па просьбе бацькоў. Зважаючы на тое, што сёння шмат хто нават не ведае значэння слова "куцця", прыпомню, як яе гатавалі. Рэцэпт, які знайшла ў нататнічку, запісаны каліграфічным почыркам бабулі. *"Шклянку зерня пшаніцы вытрымаць у вадзе праз 2 дні, потым варыць да змягчэння, некалькі разоў мяняючы ваду. Абсушыць на сіце. Мак заліць кіпенем і варыць на малым агні. Тры разы прапусціць праз машынку для мяса. Дадаць да зваранай пшаніцы. Дабавіць апараныя кіпенем разынкі, пасечаныя міндальныя і лясныя арэхі. Паставіць на ноч у падвал або халодную камору. Перад Вігіліяй размяшаць разам з мёдам, распушчаным у вадзе."*

Пасвяціла так многа месца куцці, таму што ў 20-х гадах XX-га стагоддзя на Лідскай зямлі назва гэтай стравы была перанесена на назву самой вігілійнай вячэры: запрашалі на "Куццю" гэта значыць на Вігілію. Паводле народнага падання куццю ела Божая маці вечарам перад нараджэннем сына, і таму куцця павінна быць на вігілійным стале.

Страва, якую любілі ўсе - гэта сліжыкі з макам. Мак рыхтаваўся гэтак жа як і для куцці, можа з большай колькасцю бакалеі. Мноства разоў у Варшаве ў мяне пыталіся, што значыць слова "сліжыкі", бо ў Цэнтральнай Польшчы падаюць на вігілійную вячэру мак з ламанцамі. Паводле бабулінага рэцэпту - гэта запечаныя невялікія кавалачкі поснага дражджавога цеста, якія пазней высушвалі ў льняным мяшэчку на працягу месяца. Сліжыкі вымаюцца з мяшочка за 2 гадзіны да Вігіліі і дадаюцца да працёртага маку з мёдам, распушчаным ў вадзе, і рознай бакалеі (разынкі, курага, марэлі- *Л.Г.*). Кампазіцыя мае цудоўны смак! Такія стравы як "сліжыкі з макам" і " вушкі з грыбамі" могуць лічыцца адмыслова лідскімі, бо, як сцвярджаў дзядзька Зыгмунт, які пабываў ў сталіцах розных краін, страў з такім дасканалым смакам там з'есці нельга, бо іх па-просту няма.

Адзінаццатай стравай былі кісялі: журавінавы і аўсяны - вельмі працаёмкі, зроблены з аўсяных шматкоў, злучаных з бульбяным крухмалам. Пад час вігілійнай вячэры гэты кісель падаваўся з макавым малачком, што крышку паляпшала яго слабавыразны ванітны смак. Гэты кісель прывандраваў да дому маіх бацькоў разам з традыцыяй дванаццаці вігілійных страў. Вельмі яго не любіла, але па традыцыі падчас Вігіліі кожную страву трэба было пакаштаваць.

Дванаццатай стравай быў кампот з сушаных сліў, яблыкаў, грушак або толькі са сліў.

Чаму я прысвяціла столькі месца вігілійнай вячэры, якая складалася з дванаццаці страў ў лідскім доме маёй бабулі 75 год таму? Амбіцыі кожнай гаспадыні, якая не працавала прафесійна і для якой цэлым светам быў яе ДОМ, канцэнтраваліся болей меней вакол дасягнення кулінарных поспехаў уяўляных падчас найважнейшых свят - Божага Нараджэння і Вялікадня: калі пры стале збіралася ўся, падчас, шматлікая сям'я, калі прымаліся госці. Акрамя таго, большасць вігілійных страў мела сімвалічнае значэнне, і іх прыгатаванне паводле традыцыі вымагала многа часу.

Аднак вернемся ў Ліду ў дом Стасевічаў на вуліцу Сувальскую ў 1920 год.

Удзельнікі вігілійнай вячэры не абмяжоўваліся толькі ежай. Моладзь разнастаіла вечар калядкамі, пачынаючы ад каляднай песні XVIII стагоддзя на мелодыю паланеза і словы тагачаснага паэта - лідзяніна Францішка Карпінскага "Хрыстос радзіўся, Бог аб'явіўся..." і пад канец спявалі розныя пастэралькі. У тых часах не было доўгаграючых кружэлак, ні магнітафонных касет з музычнымі запісамі, ні CD дыскаў, таму па-просту спявалі: на некалькі галасоў пры акампанеменце мандаліны альбо фартэпіяна, якое было ў доме бабулі. Адбываліся і сольныя выступы. Напрыканцы вігілійнай вячэры атмасфера рабілася меней урачыстай, станавілася больш вясёлай і гаваркой. Набліжалася пара выйсці на пастэрку да бліжэйшага касцёла Айцоў Піяраў, які знаходзіўся на вуліцы Сувальскай (сёння гэта царква па вуліцы Савецкай). Мама ўспамінала, што калі выходзілі з разагрэтага дома, то марознае паветра і скрыпучы пад нагамі снег, дастаўлялі вялікую прыемнасць. У яе памяці застаўся назаўсёды асветлены піярскі касцёл, музыка аргана і прыгожыя калядныя песні. У гэтым урачыстым, радасным настроі дабягае канца Ноч Божага Нараджэння.

* * *

Час Свята Божага Нараджэння цягнуўся да Трох Каралёў. Не ведаю ці ўпрыгожвалі ялінку ў доме маёй бабулі: можа быць, але мне аб гэтым ніхто не распавядаў. Аднак дакладна ведаю, што пачынаючы ад першага дня Божага Нараджэння і да вячэры Трох Каралёў, моладзь ладзіла імпрэзы штодзённа, кожны вечар збіраліся ў каго-небудзь іншага. Спявалі калядкі і пастэральткі, паміж іншым модны быў так званы "сяброўскі флірт". Гэтыя вячоркі разнастаілі калядоўшчыкі, што прыходзілі з бэтлеемскай мігаючай зоркай і цэлым калядным рэпертуарам, які пачынаўся традыцыйна ад "Сярод начной цішы..." Дадам, што рэпертуар быў разнастайным: у спеўніку канца XIX стагоддзя занатавана каля 600 розных калядных песень і пастэралек. Іншая моладзь амаль з акторскім талентам прадстаўляла групы "ірадаў". На чатырох слупках або жэрдках расцягваўся дыван і пад гэткім балдахінам выступалі адпаведна апранутыя Ірад, анёл, чорт, смерць з касой, а часта і служкі Ірада.

Спектакль заўсёды завяршаў чорт словамі: "Мой Ірад, за свае грахі ідзі да пекла, бо ты вельмі брыдкі..!"

Не магу ў гэтым месцы не ўтрымацца ад заўвагі, што ў некаторых рэгіёнах Польшчы да сёння існуюць "Ірадкі" - народныя тэатры. Чула сама: у 90-х гадах XX стагоддзя ў Ломжы пад час спектаклю каля жолаба з дзіцяткам Езусам адыгралася ідэнтычная сцэна паміж чортам і царом Ірадам, толькі тэкст быў іншы - і гэта найменшая змена на працягу 70 год!

Вернемся аднак зноў да дваццатых гадоў - да ўспамінаў маёй мамы аб тым, як праводзілі святочныя вечары старшыя чальцы сям'і Стасевічаў і іх госці, якіх у гасцінным доме бабулі заўсёды было шмат. Пасля вячэры часта гралі ў прэферанс. Гэта гульня ў карты, якую вялі звычайна пры стале тры асобы, часам чатыры, але гэты другі варыянт лічыўся чамусьці горшым. Другія госці вялі размовы або спявалі калядныя песні пад акампанемент фартэпіяна. У куце пакоя на століку, які знаходзіўся заўсёды на адным і тым жа месцы, стаяў вялікі самавар, а на ім імбрычак з запаранай свежай гарбатай, тут жа на туалетным століку - плоская талерка з тыповымі для часу зімовага свята медавікамі, або пячэнькамі ў форме сэрцайкаў, выпечаных з дадаткам мёду. Госці, стомленыя гульнёй у карты, спевамі і размовамі маглі падмацавацца імі ўволю. Я помню, амаль што адчуваю на вуснах непаўторны смак гэтых знакамітых, т.зв. старавіленскіх медавікоў, прасякнутых водарам духмяных прыпраў і зімовага свята. Мая мама таксама іх выпякала.

Гэтак жа ўрачыста праходзіла і развітанне са Старым Годам. Бацькі ўспаміналі, як вялікая група моладзі збіралася ў Сільвестравы вечар ў некага (нічога аб ім не ведаю) палкоўніка Малеўскага (калі не пераблытала прозвішча), які жыў у вялікім прыгожым доме на вуліцы 3-га Мая. Госці збіраліся перад поўначчу ў салоне. Пры дзвярах іх сустракалі адпаведна апранутыя Стары Год і Новы год. Абодва гаварылі прамовы: Адыходзячы Год аб тым, што добрага і пазітыўнага зрабіў падчас свайго кіравання, а Надыходзячы - якія мае планы і як будзе іх рэалізоўваць. Пазней, у момант выбіцця 12 -й гадзіны на насценным гадзінніку, стралялі коркі ад шампанскага, узносіліся тосты і асабістыя віншаванні. Былі танцы, спевы і розныя прыемнасці да раніцы. Днём 1-га студзеня ў лідскіх касцёлах: Айцоў Піяраў і Фарным адбываліся ўрачыстыя імшы. Існаваў звычай: у першы дзень Новага Года гаспадыні да полудня прымалі віншаванні, а мужчыны ў гэты час рабілі кароткія візіты да дамоў сваякоў, сяброў, каб злажыць такія віншаванні. Абмінуць, забыцца пра каго-небудзь, асабліва пра асоб паважнага веку, забаранялася. Адбываліся таксама і абавязковыя ўрадавыя віншаванні. Тут прыпамінаю аповед мамы. У 1930 годзе, калі мяне яшчэ не было на свеце, калі мой бацька працаваў павятовым лекарам у Маладзечне, а мама па заканчэнні вучобы ва ўніверсітэце імя Стэфана Баторыя ў Вільні на аддзяленні батанікі прыступіла да працы настаўніцай у маладзечанскай гімназіі і адначасова кіраўніцай мясцовага Грамадзянскага Жаночага Гуртка (дакладней назвы не помню), прыслалі да яе ў першы дзень новага года машыну з дальняга староства. Ёй належала ў якасці прадстаўніцы Ўраду Рэчы Паспалітай Польскай паўдзельнічаць ва ўрачыстым навагоднім віншаванні старасты. Апрануцца трэба было ў адпаведны для афіцыйнага візіту касцюм. Але гэта ўжо трыццатыя гады.

У дваццатых гадах тэрмін навагодніх святаў як у касцёле, так і ў дамах лідзян завяршаўся Святам Трох Каралёў. У лідскіх касцёлах спявалі песню, прыгожую мелодыю да якой напісаў ксёнз З. Адальгевіч:

*"Зорка заззяла у небе над Бэтлеемам,*
*Анёлы ўзносяць цудоўны свой спеў.*
*Неслі дар каралі Ўладару ўсёй зямлі*
*Але толькі Маці з Дзіцяткам знайшлі"*

Мудрацы - каралі, аддаючы Езусу павагу, падносяць яму ў дар міру, кадзіла і золата. Дзеля ўвекавечання гэтай падзеі на дзвярах дамоў пісалі і пішуць да сённяшняга дня свянцонай крэйдай ініцыялы Трох Каралёў +К+М+В, падзеленыя крыжыкамі: Каспер, Мельхіор, Бальтазар. Гэтыя знакі павінны ахоўваць дом і яго жыхароў цэлы год ад вялікага зла, як і асвячэнне: усе памяшканні абносяцца моцна разагрэтай мешанкай з асвечаных у гэты дзень у касцёле міры і кадзіла. Прыпомнім, што піша Сафія Косак - Шчуцкая ў "Roku Polskim" аб гэтым святочным дні:

*"Свята 6 студзеня завецца Эпіфанія* (Багаяўленне -*Л.Г.*)*, што значыць Аб'яўленне Збаўцы свету. (...) мноства паганцаў прыйдзе да цябе - прамаўляў прарок Ісая - на хуткіх вярблюдах Мадыян і Эфа, усе з Сабы прыйдуць, прынясуць з сабой золата і кадзіла, хвалу Пану прамаўляючы... Месія прыйшоў у свет не толькі дзеля народа выбранага, сынам каторага ёсць, але і для ўсяго чалавецтва. Эпіфанія азначае ўніверсальнасць хрысціянства, народжаную на парозе стайні..."*

**2.**

Якія ж адмысловыя мае ўласныя ўспаміны, звязаныя са Святам Божага Нараджэння ў Лідзе! З перспектывы погляду дзіцяці яны бачацца іначай, не так як у дарослага. Зацікаўленае чаканне Божага Нараджэння пачыналася ўжо ў Адвэнце, канешне не з прычыны паходу на рараты, калі імша пачынаецца вельмі рана. Усе лідскія дзеці ва ўзросце перадшкольным і вучні першапачатковых класаў добра ведалі гэты тэрмін. Для мяне гэта быў час уласнаручнага выканання ланцужкоў і цацак на ялінку, папярэджаны эмацыянальнымі закупамі неабходных аксесуараў. Якім важным падаваўся мне, калі мела 6-7 гадоў, выбар галовак анёлкаў: яны павінны мець бялюткія валасы або чорныя, фон павінен быць ружовым або блакітным? Гэтыя галоўкі і Св. Мікалая я купляла за грошы, выцягнутыя са скарбонкі, у краме на рагу вуліц Фалькоўскага і Школьнай. Гаспадаром крамы быў пан Яўстах Вярбіцкі. Крамка гэтая, якая так уражвала мяне ў дзіцячых гадах, існуе цяпер толькі ў маёй памяці, як і дом дактароў Казубоўскіх, у якім я гасцявала, і які быў разбураны ў 1992 годзе.

Памяць захавала толькі фрагменты міжваеннай Ліды. Напрыклад, не магу прыпомніць, у якім месцы на вуліцы Сувальскай была крама з таварамі для пісьма: каб туды ўвайсці трэба было падняцца па некалькіх прыступках, і там заўсёды адчуваўся пах паперы. Тут мама купляла, так званую паперу гафрыраваную: белую, пастэльную, блакітную на шаты для анёлкаў; глянцавую паперу розных колераў на ланцужкі і на вастраверхія шапачкі для паяцаў, на каляровыя шарыкі і на ланцужкі пераплеценыя саломкай, і на шарыкі - вожыкі, якія было цяжэй выканаць, але яны вельмі прыгожа выглядалі на ялінцы. Усе гэтыя цацкі рабіліся доўгімі снежаньскімі вечарамі з вялікім запалам і стараннасцю. Каб зрабіць, напрыклад, маленькага паяца патрэбна было выдзьмуханае яйка, на якім хтосьці са старэйшых рысаваў тушам твар з усмешкай, а я рабіла і клеіла да гэтай галавы паяца вастраверхую шапачку з глянцавай паперы, а ў доле крыж. Памятаю, што клей для ланцужкоў з глянцавай паперы рабіўся проста з мукі і вады. Прыярытэтам кожнага дзіцяці было, каб як мага болей зробленых ім цацак апынулася на ялінцы. А яшчэ ялінку аздаблялі маленькімі чырвонымі яблычкамі, доўгімі, як ледзяшы, цукеркамі ў срэбных ці бліскучых каляровых абгортках, і глазураванымі пернічкамі ў форме сэрца. Канешне ж, былі і пакупныя шкляныя рознакаляровыя шарыкі, зменлівыя ў полымі свечак. Запалі мне ў памяць два шкляныя домікі і два лебедзі. Але на мой погляд: нават найпрыгажэйшыя пакупныя цацкі не маглі зраўняцца са створанымі маімі рукамі. Усе ўпрыгожанні, слодыч і маленькія свечкі ў срэбных ліхтарыках без цяжкасцей знаходзілі месца на нашай ялінцы. Яна заўсёды была высокая, амаль да столі, пахла зімовым лесам, таму што прывозіў яе проста з лесу знаёмы ляснік, якога лячыў мой тата. Мне здаецца, што калі я пішу гэтыя словы, то адчуваю пах жывіцы змешаны з непаўторным водарам красовага ляснога паветра. Калі ялінка займала месца ў куце пакоя ў прынесеным з падвала спецыяльным стаяку, адчуванне было як у сапраўдным сасновым лесе пад Лідай. Ялінку ў нашым доме традыцыйна ўпрыгожваў тата. І тут пачыналіся мае праблемы і занепакоенасць. Існаваў звычай: у дзень Вігіліі вельмі - вельмі рана тата выязджаў з некалькімі калегамі на паляванне. На навагодні абед і адмысловы навагодні паштэт трэба было ўпаляваць зайца. Помню, што пазней заяц вісеў за вакном, каб да 31-га снежня, калі яго прыгатуюць, вымерз на холадзе. Я бунтавала супроць гэтага палявання з двух прычын. Па-першае - мне было шкада такіх мілых зайчыкаў, якія маглі б сабе бегаць па лесе, а з'есці можна было б штосьці іншае. Па-другое - не магла дачакацца калі тата вернецца, каб паспець упрыгожыць ялінку да з'яўлення на небе першай зоркі. А калі гэтае нешчаслівае паляванне зацягвалася, мой непакой нарастаў. Дзіцячае ўражанне ад палявання засталося. Я да сённяшняга дня іх абсалютная праціўніца: розныя звяры павінны мець права да нармальнага жыцця ў нармальных умовах.

Не помню, каб пасля Вігіліі мяне і майго брата адорвалі падарункамі. Мы знаходзілі іх пад ялінкай адразу пасля абуджэння ад сну ў першы дзень Свята Божага Нараджэння. Ноччу іх прыносіў Святы Мікалай. Вядома што непаслухмяныя дзеці маглі знайсці пад ялінкай у якасці падарунка розгу або "казіную ножку" (бізун), але нас гэта неяк шчасліва мінала. Пасля Вігіліі тата запальваў на ялінцы свечкі, штучныя агеньчыкі, і ўсе хорам спявалі календы. Найбольш любіла дзве: "Дружна пабеглі пастушкі ў Бэтлей, Збаўцу ўбачыць як мага хутчэй..." і "Не спі, абудзіся! Хрыстос нарадзіўся! З неба радасць прамяніцца, будзем весяліцца...".

У доме маіх бацькоў, як і ў доме бабулі, вігілійная вячэра складалася з дванаццаці страў. Пад снежна-белым абрусам ляжала пахучае сена, і ніколі на вігілійным стале не было алкаголю, але заўсёды на гэтым стале было адно сервіраванае месца, і стаяла пустое крэсла для неспадзяванага госця: вандроўніка, заблукаўшага ў гэты Святы Вечар. Адзін раз у маім жыцці здарылася, што такі "заблукаўшы вандроўнік" прыйшоў няведама адкуль і заняў гэтае вольнае месца пры нашым святочным стале. Было гэта на пачатку нямецкай акупацыі ў 1941 годзе, тады мы яшчэ жылі ў сваім уласным доме па вуліцы 11-га Лістапада ( цяпер 7-е Лістапада). Гэты незнаёмец - барадаты мужчына, сімпатычны, аднак выключна маламоўны, быў разам з намі на вігілійнай вячэры. У першы дзень Свята Божага Нараджэння яго ўжо не было. Ён знік гэтак жа нечакана, як і з'явіўся. У маёй свядомасці гэты чалавек застаўся як "заблукаўшы вандроўнік". Кім быў насамрэч, не даведаліся ніколі. І толькі праз гады бацькі расказалі, што мы апынуліся ў Польшчы, дзякуючы таму таямнічаму незнаёмцу, якога прыгарнулі на Вігілію ў 1941 годзе. Мой бацька, арыштаваны савецкай уладай па другім прыходзе савецкіх войск да Ліды, быў вызвалены з вязніцы, і мы змаглі ў рамках першай экспатрыяцыі пакінуць тэрыторыю Беларускай Савецкай Рэспублікі і выехаць у Польскую Рэспубліку. Я назаўжды паверыла, што калі які-небудзь "заблукаўшы ванд-

роўнік" зойме пустое месца пры вігілійным стале, гаспадары будуць узнагароджаныя: дом ахіне дабраславенне Нованароджанага Езуса.

Асабліва люблю Вечар Трох Каралёў, з якім таксама звязаны мае дзіцячыя ўспаміны. У дзіцячым садку, да якога я хадзіла ў Лідзе, адбываўся баль. Дзеткі абавязкова былі ў казачных касцюмах: гэта гномы і Беласнежка, Ясь і Малгося, Хлопчык з пальчык і іншыя казачныя героі. На заканчэнне балю ўсіх чакалі пачастункі: пончыкі і какава. У адным з пончыкаў быў запечаны міндальны арэшак. Той, да каго трапіў пончык з міндалём, выбіраўся Міндальным Каралём і кіраваў балем надалей, а потым атрымоўваў якую-небудзь узнагароду. Мае дзіцячыя ўражанні былі настолькі моцныя, што і праз палову веку помню гэты баль. Аднак не помню ніводнага дзіцяці, якое было ўдзельнікам - ні прозвішча, ні з выгляду.

***

Вігіліі з часоў вайны, за выключэннем гэтай адной, успамінаць не буду. Маю сям'ю выкінулі з уласнага дома перш немцы, а потым расейцы. Нас перасялілі ў малы пакойчык у доме нейкага пана Мамчыца. Дом знаходзіўся блізка ад будынка пажарнай аховы, дастаткова далёка ад вуліцы Сувальскай. Калі дом згарэў, мы кватаравалі ў вельмі кепскіх умовах недалёка ад чыгуначнага віядука пры самай вуліцы, якая пераходзіла ў шашу, ці хутчэй дарогу да вёскі Крупава. Няўжо пад час гэтых пераездаў і кватаравання ў чужых дамах, дзе найважнейшым памяшканнем быў лекарскі кабінет бацькі, а мы гняздзіліся ў нейкім малым пакойчыку, святкавалі Божае Нараджэнне? Канешне, была сціплая Вігілія. Ялінку, напэўна, не ўпрыгожвалі, ды і месца для яе не было. Спявалі калядныя песні? Не помню.

Няхай лепш застануцца ў памяці мілыя сэрцу часы міжваеннага дваццацігоддзя.

*Гэтыя ўспаміны прысвячаю маім бацькам і бабулям з вуліцы Сувальскай і Моргаў у Лідзе, а таксама сяброўкам з лідскага дзяцінства - Роме Пуйдаковай-Ганкоўскай і Люсі Кабылянскай - Костцы. Аўтарка.*

***Пераклад Галіны Лаўрэш.***

[1] Irena Stasiewicz-Jasiukowa. Boze Narodzenie na Kresach w dwudziestoleciu miedzywojennym. Warszaza, 2001.

***Ірэна Стасевіч - Ясюкова***

# Мае лідскія святочныя Вялікія Ночы[1]

**1.**

Мае першыя ўспаміны пра Вяльканац (Вялікдзень) - гэта ўспаміны сэрца, успаміны, схаваныя за туманам настальгіі. Яны атаясамліваюцца з Лідай - горадам, дзе я нарадзілася і дзе правяла першыя гады свайго дзяцінства.

Не ведаю чаму, але вельмі выразна паўстае ў маёй памяці вялікі "свянцоны" стол у маёй бабулі Паўліны Стасевіч, якая жыла на вуліцы Сувальскай. Гэты стол быў накрыты снежна-белым абрусам, дзе пасярод насычана-зялёнага аўсу валадарыў цукровы баранчык з павольна раздзіманай чырвонай харугвай - сімвалам радасці Божага Ўваскрашэння. Побач з баранчыкам месціўся кошычак з рознакаляровымі яйкамі, фарбаванымі фарбамі з раслін, і розныя стравы, якія маглі лічыцца выдатнымі красовымі вынаходніцтвамі: парася запечанае з чырвоным яйкам ў пашчы, шынка з выключным водарам прыпраў, халадцы, каўбасы, бабкі (печыва з бісквітнага цеста - *Л.Г.*) і мазуркі (печыва з пясочнага цеста - *Л.Г.*). Помню, што мая ўлюбёная бабка мела назву " снежная". Як яна гатавалася, я не змагу распавесці, але можа яшчэ ёсць ў Лідзе гаспадыні, якія валодаюць таямніцай гэтага печыва? Вельмі любіла мазурку "цыганскую", назва паходзіла ад таго, што, як казала бабуля, цеста патрабавала так многа арэхаў і міндалю, як цыганка караляў. У гасцявым пакоі адчуваўся моцны пах гіяцынтаў: белых і ружовых. Яны аздаблялі святочны стол. Гэты гіяцынтавы пах адчуваю нават цяпер, калі пішу гэтыя словы, а гіяцынт - мая ўлюбёная кветка да дня сённяшняга, можа таму, што прыпамінае маё лідскае дзяцінства.

Помню, што пасля поўдня ў Вялікую суботу з бліжэйшага касцёла Піяраў прыходзіў ксёндз, каб асвяціць стол з усімі гэтымі прысмакамі: найперш яйкі - сімвал новага жыцця і баранчыка - сімвал ахвяры. Свянцоным яйкам, хлебам і соллю дзялілася паміж сабой наша шматлікая сям'я, якая збіралася разам пасля Рэзурэкцыі (Уваскрашэння - *Л.Г.*) у бабулі за святочным абедам.

Асабліва выразна адбілася ў маёй памяці лідская Вяльканац з 1939 года, перад самым выбухам Другой сусветнай вайны. Тады я атрымала ад бацькоў прэзент: малы "свянцоны" столік для лялек, выраблены з рознакаляровага цукру. І на ім было ўсё: баранчык, яечкі, парсючок, бабкі, мазуркі, з той толькі роз-

ніцай, што гэта "ўсё" было цукровае і мініяцюрнае.

Вельканоцныя святы папярэджваў Вялікі тыдзень, які пачынаўся з Пальмовай (Вербнай) Нядзелі. Вельмі яе любіла за тое, што была каляровай. У Лідзе майго дзяцінства асвячаліся два віды пальм (вербачак), г.зв. "срэбныя вербачкі" з вярбы, з пахам красовых забалочаных лугоў над берагамі Дзітвы і Нёмана, вербачкі з "коцікамі" срэбнага колеру зменлівага на сонцы, і пальмы віленскія з зёлкаў і сушаных кветак з асаблівым водарам. Іх прыгатаванне патрабавала асаблівага майстэрства і ведаў пра спосабы сушкі кветак, каб яны захавалі свой колер і прыгожую форму. Прынамсі, ніколі не чула каб на лідскай зямлі выконвалі высокія, на некалькі метраў пальмы, аздобленыя стужкамі і штучнымі кветкамі, якія сустракаюцца ў Польшчы і сёння. Напрыклад, у Курпях - мясцовасць Лыс, на землях Кракаўскіх і Сядэцкіх, на зямлі Тарноўскай - у Верхаславічах, з якімі звязана імя Вінцэнта Вітоса. У перадвельканоцным перыядзе назірала такую многамятровую прыгожа выробленую пальму - ручная работа аднаго з тамтэйшых народных майстроў.

З маіх дзіцячых гадоў у памяці цвёрда затрымаўся звычай, калі ў Вербную нядзелю па вяртанні з касцёла да дому з асвечанай пальмачкай, мама лёгка біла па плячы мяне і брата "срэбнай" вярбовай пальмачкай, прыгаворваючы:

*"Вярба б'е, не заб'е,*
*за шэсць ноцы*
*дачакаемся Вельканоцы"**,

а потым трэба было з'есць аднаго "коціка" з пальмачкі дзеля захавання здароўя і прыгажосці. Гэтага я не любіла, таму што "коцікі" былі калматыя, і іх было цяжка праглынуць. Аднак дзеці не хацелі быць горшымі за дарослых , і таму, хоць і з неахвотай, пераймалі іх паводзіны, чым спрыялі працягу традыцыі.

Ад Вялікага тыдня пачыналася доўгае чаканне моманту малявання яек, часам у вывары цыбулі, бурачкоў і парасткаў збожжа, але найчасцей у растворах фарб, якія былі куплены ў краме на рагу вуліц Кс. Фалькоўскага і Школьнай (калі памяць мне не здраджвае). Пад час апошняга побыту ў Лідзе спрабавала зіндэнтыфікаваць месца знаходжання крамкі, куды бегала з сяброўкай Гоцяй (прозвішча не помню) па ляндрынкі (маленькія ледзянцы -*Л.Г.*). Аднак вернемся да пісанак. З купленых фарб можна было атрымаць шэсць колераў: чырвоны, блакітны, зялёны, жоўты, аранжавы, і фіялетавы - такі, як вясновыя фіялкі. Ў польскіх вёсках у тыя часы яйкі фарбавалі галоўным чынам у адварах лекавых траў паводле традыцыйных сямейных рацэптаў. Як жа прыгожа пісаў аб гэтай традыцыі ў 1946 годзе ў эміграцыі ў працы "Пісанкі Мар'ян Хеймар", з вялікім замілаваннем ўспамінаючы польскія вельканоцныя традыцыі:

*"На працягу стагоддзяў людзі ў кожнай ваколіцы зналі фарбы: з розных адвараў траў, папараці, ягад і кветак, з кары, сокаў дрэў, жывіцы, фарбавальнікі з ўсяго, што расце на лузе, у гародзе і лесе, рэчыва любога колеру.*

*Ва ўсёй краіне, у кожнай хаце мелі такія свае сакрэты, іх хавалі хітра і раўніва многія гады, аж пакуль не забыліся самі.*

*Сёння для нас гэта гучыць як байка..."*

А фактычна ці насамрэч сёння гэта байка? На шчасце - не. Недалёка ад Гародні, але па польскім баку, у Ліпску над Бобрай творацца найпрыгажэйшыя многакаляровыя пісанкі - выкананыя ў тэхніцы "бацік" ("пісанне" - маляванне ўзору на абалонцы яйка пчаліным воскам). Гэтыя крохкія вырабы мастацтва з-пад пальцаў здольных мастачак, падарожнічаюць пазней у Францыю, Нямеччыну, і як даведалася, нават у Канаду. Спецыяльныя раслінныя фарбы вырабляе пані Ізабела Філевіч, якая жыве блізка польска - літоўскай мяжы. Маленькія яечкі г.зв. райскіх курак з вельмі цвёрдай абалонкай, яна фарбуе ў адвары дубовай кары, прыгатаваным паводле свайго рэцэпту, альбо ў адвары з шалупіння цыбулі, затым з дапамогай звычайнай шпількі або ляза маленькіх нажніц выдрапоўвае на гэтых яечках абразкі Маці Божай Вострабрамскай, Чанстахоўскай, Сінайскай і аздабляе складанай літоўскай вышыўкай паводле ручнікоў і кашулек. Пісанкі Ізабэлы Філевіч, выкананыя ў тэхніцы "драпання", таксама знакамітыя ў свеце. Яе запрашаюць за мяжу праводзіць майстар - класы мастацтва польскага пісанкарства, каб не адышлі ў нябыт, як некалі вусныя пераказы аб класічных раслінных фарбах для яек *"з верасу, жалудоў, з грыбоў мухамораў і з дзікай чарамшы"*, пра якія пісаў з настальгіяй Мар'ян Хеймар.

Вернемся, аднак у Ліду перад 1939 годам, тады яшчэ павятовы горад. У Фарным і Піярскім касцёлах адбываліся святочныя набажэнствы, усталёўваліся труны Хрыста, каля якіх пазней адбываліся шматгадзінныя малітвы, і стаялі на варце пажарнікі і скаўты. Дзеці, і я ў тым ліку, мелі яшчэ іншыя, свае дзіцячыя перадсвяточныя інтарэсы. Існаваў мілы звычай дарыць дзецям шакаладныя яйкі ў каляровых бліскучых абгортках, якія перад Святам, выстаўленыя ў вітрынах крам, будзілі захапленне і жаданне. І зноў працытую Хеймара з яго твора "Пісанкі":

*"Бо можна было ў крамах у горадзе, паназіраць за такімі цудоўнымі велікоднымі яйкамі, нават купіць, зрэшты ўжо не ведаю без перабольшвання, ці гэта праўда, ці гэта казка, таму што былі цалкам з шакаладу, або з сапраўднага марцыпану, а на іх дзівосныя свечачкі, перлінкі, стужачкі і пацеркі.*

*Былі з атласу і саф'яну, і кардонавыя, і драўляныя, і адчыненыя, як скрынка, а ў іх, аж зацямняюць вочы цукеркі са смажанай садавінай...*

*Але я тых, з казкі, не залічваю да сапраўдных, да пісанак..."*

---

* У Беларусі, дзе святкуюць не Вяльканац, як у Польшчы, а Вялікдзень, гэтае прыслоўе гучыць так:
*"Вярба б'е, не заб'е,*
*за тыдзень -*
*Вялікдзень". (Рэд.)*

**2.**

І вось, пасля доўгай падрыхтоўкі, надыходзіла свята Вельканоцы (Вялікадня), аб якім звеставалі гукі касцельных званоў па ўсім горадзе. Яны заклікалі на рэзурэкцыю ( малітва аб уваскрашэнні -*Л.Г.*). А потым была чуваць песня, якая пранікала праз муры касцёлаў:

*"Вясёлы дзень для нас настаў,*
*Якога цэлы свет чакаў;*
*Сягодня Хрыстус з мёртвых паўстаў!*
*Альлялюя, Альлялюя, Альлялюя!"*

Пасля святочнага "свянцонага" абеда, які цягнуўся даволі доўга, пачыналася гульня з каляровымі яйкамі, якая называлася "біткі". Два ўдзельнікі білі адным яйкам ў другое, перамагаў той, хто разбіў яйка праціўніка, і ў якасці ўзнагароды атрымоўваў яечка. Майстэрства палягала на тым, каб ударыць у тое месца пісанкі, дзе абалонка слабейшая, ну ў любым выпадку не ў чубок яйка; можна было заняцца качаннем яек па стале: той, хто збіў фарбаванку, забіраў яйка. Найцяжэйшая гульня, якая вымагала спрыту: трэба было злавіць яйка, падкінутае дагары. Удзельнік, якому пашчасціла злапаць не разбітае яйка станавіўся яго ўласнікам. Дзіця, якое здабыло найболей фарбаванак, прызначалася Каралём Пісанак і атрымоўвала ў прэзенце шакаладнае яйка. Калі надвор'е на свята было пагоднае і цёплае, мы з братам выносіліся на лесвіцу нашага дома на вуліцы 11-га Лістапада (сёння вуліца 7-е Лістапада) і па яе нахіле скачвалі яйкі. Той, каму пашчасціла разбіць некалькі, атрымоўваў узнагароду. Вось такія вельканоцныя (велікодныя) гульні былі ў маіх дзіцячых гадах.

Пачынаўся другі дзень свята - "дынгусовы" (дынгус - марская рыба - *Л.Г.*), які яшчэ меў назоў "мокры панядзелак". У гэтым месцы далучу даволі выразную "Спяванку", якая дазваляе ўявіць дзеі дня, пяра Ганны Варэцкай:

*"Дынгусовы танец ў Вельканоцную раніцу,*
*Каго сёння запросіць, да кашулі змочыць...*
*У танцы вёдры і збаны.*
*З імі сёння ўсе сябры.*
*Не хавайся! Весяліся!*
*Халодная вада толькі на карысць.*
*Калі хочаш пагуляць,*
*Трэба з намі станцаваць!"*

Напэўна "мокры панядзелак" меў сваё зачараванне, але я яго ніколі не любіла, хоць "халодная вада толькі на карысць". Яна часта небяспечная ў наступствах, бо добра памятаю, што аднаго разу пасля такой ледзяной лазні захварэла.

Хачу звярнуць увагу, што ўжываная назва "смігус- дынгус" патрабуе каментара. "Смігус" (альбо "смігус зялёны" ці "смігус сухі") быў вядомы ў паўночнай Польшчы і на Крэсах даўнейшай Рэчы Паспалітай. Магчымасць адкупіцца ад "смігуса мокрага" палягала на жартаўлівых ударах па "ахвяры" зялёнай галінках вярбы (ці нават пугай з вярбы) - гэта была такая спецыфічная форма заляцанняў моладзі.

Вярба - дрэва вясновае, вельмі рана пачынае зелянець, паводле народных паданняў мае выключную жыццядайную моц. "Дынгус" (мае нямецкае паходжанне: dzingen - гандляваць, выкупляць) - гэта вельканоцны звычай палівання вадой для атрымання выкупу ў рознай форме. Звычай вельмі стары, у XV стагоддзі ў Польшчы касцельныя ўлады яго забаранілі. У 1420 годзе адзін з дазволаў сіноду познаньскай дыяцэзыі гучыць так: " Dingus prohibeatur". "Дынгус" захаваўся да сёння і можа быць радаснай забавай, вясёлым "танцам дынгусовым" паводле Ганны Варэцкай.

Пасля гэтага адступлення перанясёмся зноў у міжваенную Ліду ў дом маёй бабулі Паўліны на вуліцу Сувальскую.

**3**

Тэрмін вельканоцны, паводле каталіцкага календара, доўжыцца за Зялёных Свят. Менавіта на гэтае вясновае свята ў горадзе на ганках і верандах ставіліся бярозкі, спілаваныя ў шматлікіх прыгожых бярозавых гаях пад Лідай. З "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча маем досвед, што дом Сапліцы стаяў *" (...) на беразе ручая, на пагорку невялікім, у бярозавым гаі"*. І вось ужо назіраем гэтыя красовыя бярозы ў сваёй свежай вясновай красе, насычанай зяляніне на ганках лідскіх дамоў, убраныя луской маляваных вельканоцных яек, якія пабіліся напярэдадні Зялёных Святаў.

Вельмі важны ў касцельнай літургіі Дзень Аб'яўлення Духа Святога - Зялёныя Святы, з пахам аеру, лотаці балотнай і незабудкамі, паволі знікае са свядомасці ўваходзячага ў жыццё новага пакалення, і нават не ведама чаму?! І ўсё ж, нават шэрая штодзённая рэчаіснасць можа быць цікавай і каляровай, калі зможам паглядзець на яе больш уважліва і пачуць яе музыку, калі захочам атрымліваць асалоду ад белага вельканоцнага баранчыка і вясёлых пісанак, калі паддамося чарам простых безназоўных легенд, як тая, вядомая на Лідскай зямлі, з адказам, адкуль узяліся пісанкі. Гучыць яна так: *"Божая Маці, якая хацела ўратаваць сына ад смерці, прыйшла да Пілата з вялікім кошыкам цудоўных, зробленых ёй самой пісанак. А калі Пілат не выратаваў Хрыста, кош выпаў з рук забітай горам Божай Маці, і каляровыя яйкі рассыпаліся па цэлым свеце, дасягнуўшы Нёмана і Дзітвы, і нават маленькай рэчкі Лідзейкі, якая праплывае праз Ліду"*.

***Пераклад Галіны Лаўрэш.***

[1] Irena Stasiewicz-Jasiukowa. Moje lidzkie Wielkanoce // Ziemia Lidzka. 1998. №2-3(30-31).

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Шасцёра ў аўтамабілі**

У траўні я ўжо ўласна ў рэдакцыі не працаваў, толькі чакаў ад'езду ў дывізію.

Наступіў ён у сярэдзіне траўня. Я апісаў яго дакладна ("Гістарычныя папраўкі" ў томе "Тры павароты") хоць з фельетоннымі ноткамі. Мы доўга стаялі перад фасадам "Масквы". Грузавік прымусіў сябе чакаць, а калі нарэшце рушылі, то клопаты з маторам прывялі да таго, што няпоўныя дзвесці кіламетраў мы ехалі два дні.

Хто ж тады вырушыў? Было нас шасцёра. Я падаваў імёны з ініцыяламі. Цяпер можна, мабыць, расшыфраваць?

Нашым начальнікам быў адзіны прафесійны вайсковец, палкоўнік Букаемскі. Якая маляўнічая постаць! Львовец, легіянер. У сямнаццатым годзе Пільсудскі пасылае яго ў Францыю. Хлопец добра складзены, д'ябальскі прыстойны, з ваеннай практыкай. Словам, становіцца ад'ютантам Галера... Калі ў 1923 годзе, як падаецца, выбухнула дойлідская справа, яго прызнанні, як сведкі, мелі сапраўды бясцэнную каштоўнасць. Пасля траўня вяртаецца ў войска, даходзіць да звання палкоўніка. Жыве ў Дубне, дзе мае дом. Пасля верасня вывезены. У Андарса трапіў у вайсковую вязніцу, бо пасварыўся з камандуючым. Сядзеў у цяжкіх умовах. Быў выпушчаны толькі пасля выхаду Андэрса з Савецкага Саюза, але сляды той вязніцы яшчэ прысутнічалі на яго прыстойным твары з вялікімі шэрымі вачыма і жывапісным арліным носам.

Не ведае добра, як да нас адносіцца. Нібы старшы па званні, але ў палітыцы... Залазіць у кабіну.

На версе застаёмся ўпяцярых. Зыгмунт Мадзялеўскі, стары камуніст - браў удзел яшчэ ў легендарнай, эфімернай, Заглубяўскай рэспубліцы. Доўгі стаж у Францыі. Прыдбаў сабе псеўданім Фішар, што вельмі аблегчыла яго ворагам антыяўрэйскія выпады.

Выглядаў вельмі кепска: 37, 38 ці нават 39 год. Выпушчаны нядаўна. Мае рудыя вусы і мяшкі пад вачыма. Невысокі. Голас прыгожы, скрыпучы. Яшчэ сёння чую ў памяці цэлыя фразы, якія выказваў тым сваім голасам.

Прыняў мяне стрымана: пэўна ўразіла яго мая цялячая радасць. Толькі шмат пазней абодва паглядзелі на сябе іначай.

Праз адзінаццаць гадоў я стаяў у ганаровай варце каля яго труны, у зале Сойму. Ляжаў не змяніўшыся ў твары, з тымі сваімі рудаватымі, тырчаўшымі вусікамі, трохі сярдзіты, і ўжо напэўна расстроены, што так залішне рана падвяло тое непаслухмянае сэрца.

Болек Друждзь, высокі, вышэйшы за мяне хлопец. Малады, не мае яшчэ трыццаткі. Вялікія, чорныя вочы, абаяльная ўсмешка. З нейкай вясковай сям'і конюха. Камсамолец.

Пазнаёміўся з ім на машыне. Адразу адчуў да яго асаблівую сімпатыю. Блізкімі былі мы і падчас падрыхтоўкі Першай дывізіі і потым ў дарозе ў Польшчу.

Яго дарога была найтрагічнейшая. Прыехаў у свой родны горад, сустрэўся са знаёмымі. Была Люблінская Польшча, перадваенныя сяброўствы і знаёмствы важылі не многія. Пасля размовы пальнуў сабе ў лоб.

Цяпер смяўся і спяваў разам са мною.

Мар'ян Нашкоўскі прыйшоў да аўтамабіля пасля цяжкай усяночнай працы, пра якую ведалі толькі я з Болькам. Меў прадстаўнічы твар і прыгожыя цёмна-блакітныя вочы. Зрэшты, хто ж яго не ведае?

Ян Караськевіч. Варшаўскі кіроўца трамвая, здаецца, ва ўсякім разе ўсе партыйныя інтэлектуалісты ў дывізіі асабліва цанілі яго пралетарскае паходжанне, прымушаючы яго спяваць розныя песенькі, з якіх найбольш аўтэнтычна "рэстаранна" ўдавалася яму "Гармонік на тры чвэрці ціха грае".

Таксама быў вясёлы, высокі, шараваты бландын з задзёртым носам і гулліва раздвоеным падбародкам. Сустрэў яго нядаўна. Нічколькі не змяніўся.

Спявалі з ім і Друждзем усё вайсковае, што нам прыходзіла ў галаву. Настроі былі добрыя: а як жа іначай магло быць? Машына імчыць, надвор'е выдатнае, перад намі захапляльная праца. Вяртанне дадому здаецца блізкім, але не настолькі, каб у ім бачыць штонебудзь іншае акрамя радасці...

**Прыезд у Сельцы**

Потым былі напасці з машынай. Начавалі ў нейкай разанскай вёсцы. Памятаю шырокую, парослую травою вуліцу, чыстыя домікі з разьбянымі ганкамі, велізарны месяц. Не мог заснуць: да позняй ночы швэндаліся пад вокнамі мясцовыя дзяўчаты на выданне ў кампаніі патнаццаці-, шаснаццацігадовых смаркачоў: старэйшыя былі на заводах або ўжо ў войску.

Тут, на вёсцы, бачылася больш яскрава, чым у горадзе, які велізарны ваенны высілак той край узяў на сябе: амаль усіх мужчын. У Маскве некалі пад канец вайны я ўбачыў у метро кампанію свежазмабілізава-

ных васямнаццацігодкаў. Гэта было ўражвальна: найвышэйшы з іх даставаў мне да пляча. Усе такія нізкія, бо якраз, калі раслі, атрымоўвалі ваенныя, скупыя пайкі.

Цяпер з гожымі дзяўчатамі швэндаліся смаркачы, ніжэйшыя за іх, пісклівыя і баязлівыя.

Ранак, я ўжо не думаў пра тыя начныя з'явы. Машына капрызнічала далей. Толькі пад вечар дабраліся на месца пастою.

Першы раз пасля Банева быў зноў у лесе. Быў падобны, пераважна сасновы, з моцным дамешкам бярозы.

Вёска Сельцы ляжала над Акою, ля заходняга краю вялікага лясіста-балоцістага абшару, які называўся "Мяшчэра". Здаўна размяшчаліся тут лясныя летнія лагеры розных вайсковых частак. Адзін з іх быў прызначаны для нас.

Мы размясціліся ў невялікім, аднапавярховым драўляным бараку. Першы вечар атруцілі нам жыццё камары, якіх аказалася ўражвальна шмат, столькі як і на Палессі. Позьнім вечарам прыехаў камандзір дывізіі. Наступным днём пачаліся першыя арганізацыйныя крокі.

Для мяне дывізія пачыналася вельмі няўдала. Я быў фатальна апрануты - яшчэ ў тых "падшэўкавых" портках і гумовых тапачках. У дадатак разбалеліся ў мяне зубы, шчака напухла, мусіў яе перавязаць хусткай. Выглядаў, як карыкатура "польскага пана" з "Кракадзіла".

Палкоўнік Берлінг увайшоў, аглядзеў нас. Канешне найбольш прадстаўнічы - Нашкоўскі - стаў яго ад'ютантам. Караськевіч меў хітрую міну: пайшоў у інтэнданты. Друзьджа прызначылі камандзірам рабочай роты.

Бо мы, прынамсі, не былі першыя. Ужо перад намі накіравалі сюды з Масквы некалькі дзясяткаў змабілізаваных, у якіх у пасведчанні "стаяла" - "паляк". Пераважна па-польску яны ўжо не размаўлялі. Праз колькі дзён, "прапускаючы" іх праз рэгістрацыю, я перажыў нямала ўзрушэнняў. Малады, прыстойны чалавек, не валодаючы добра польскай, на запытанне пра прозвішча, адказаў:

- Путрамант.

Спрабаваў яго распытваць. Нічога не мог сказаць пра продкаў. Жыў у Маскве, там нарадзіўся... Быў пазней у батальёне сапёраў.

Але гэта яшчэ нічога. У Львове, у нейкім таварыстве, перажыў гісторыю нашмат больш несур'ёзную.

Нейкая трыццацігадовая пані, невысокая, чорная, з лёгка негрыцянскімі рысамі, пачуўшы маё прозвішча, пляснула ў рукі: яна з дому таксама Путрамант.

- А якое бацька меў імя? - пытаю.

- Уладзіслаў.

Здубянеў. Як мой.

- А прафесія?

- Афіцэр расейскай арміі. Паручнік.

Падумаў, што кпіць. Але яна таксама была перапужана.

- Што з ім?...

- Загінуў.

Аддыхаўся. Запытаў для праформы:

- Дзе?

І зноў захліснула мяне ўражанне:

- У 1914 годзе. Пад Голдапам..

Там якраз мой прапаў без вестак і толькі праз некалькі месяцаў аказалася, што трапіў у няволю. Каб два Ўладзіславы Путраманты, паручнікі расейскай арміі аказаліся на тым самым адрэзку фронту і... Не сустракаў болей той пані.

Каб закончыць з дзівосамі: сярод савецкіх палякаў знайшоўся нехта, хто падаў - з Петрыкава. Канешне, я адразу спытаў пра доктара Руткоўскага. Змяшаўся. Буркнуў пару слоў. Зразумеў - 37 год...

**Тры катэгорыі**

Так, але гэта потым. Пакуль што я пайшоў у пякарню. Усё адбылося так, як я апісаў праз год ("Гістарычныя папраўкі" з тома "Тры павароты"), абураны спробамі "бранзавення" такой нядаўняй яшчэ гісторыі. Дадам толькі, што майстар па прыпеку, які так неахвотна прыняў мяне ў пякарні і так пужаў мрояй суду - не думаў пэўна, што акажацца прарокам. Застаўся ў пякарні - і праз пару месяцаў усё ж трапіў пад суд. Пагражала яму смяротная кара за раскраданне вайсковай маёмасці. "Выкруціўся" на некалькі гадоў турмы.

Калі палкоўнік Берлінг ласкава вызваліў мяне з той халернай пякарні, я пару дзён блытаўся каля камандавання дывізіі, потым паслалі мяне разам з Мадзалеўскім у дывізійны аддзел кадраў.

Мы сядзелі ў нейкай будзе. Перад намі чэргі змабілізаваных і добраахвотнікаў. Мы пыталіся імя, прозвішча, прафесію, адукацыю. Было яшчэ пару графаў у фармулярах - але не зашмат.

Тры катэгорыі - калі груба - паўставалі перад намі.

На пачатку былі савецкія палякі. Паразуменне савецкіх уладаў з СПП не было надта дакладным, справа грамадзянства па некалькіх важных пунктах - няясная. Акрамя таго розныя райваенкаматы прысылалі да нас усіх навабранцаў, у якіх у пашпарце ў графе "нацыянальнасць" было напісана "паляк". У Савецкім Саюзе графа гэтая ўспадкоўваецца па бацьку. Таму ў той першай, напрыклад, рабочай роце значная большасць змабілізаваных не гаварыла ўжо па-польску ні слова.

Але ў гэтай катэгорыі былі вельмі маляўнічыя выключэнні. Аб'явіліся, на прыклад, два маладыя хлопцы, якія размаўлялі па-польску беззаганнай мазурскай гаворкай, але з устаўленымі словамі тыпу "калхоз", якія вымаўлялі з расейскім акцэнтам.

Аказваецца, што недзе ў Сібіры пад Іркуцкам ёсць дзве польскія вёскі, зусім не вывезеныя, а якія складаюцца з нашчадкаў эмігрантаў, што добраахвотна выехалі туды перад першай вайной, захавалі мову - і не літаратурную - але, канешне, прынялі новыя словы...

Адносна большая частка прадстаўнікоў той

першай катэгорыі належала да афіцэраў. Амаль уся лінейная кадра гэта былі савецкія палякі рознай стадыі аддалення ад мовы. Былі такія, якія валодалі ёй даскanала - гэта пераважна красовыя, з Меншчыны, Палесся, Украіны. Намеснік камандзіра, палкоўнік Кяневіч, напрыклад, незвычайна маляўнічая постаць. Я прыпомніў абшарніцкую сям'ю Кяневічаў з Брынёва пад Петрыкавам. Пытаюся Кяневіча, ці не з Палесся. Пацвярджае. Пра тых абшарнікаў ужо не пытаюся...

Былі дваякія палярна супрацьлеглыя адносіны савецкіх палякаў да I дывізіі. Былі такія, якія з нязвыклай лёгкасцю знайходзілі забытыя сцежкі разумовыя, звычаёвыя, пачуццёвыя, якія ў павароце да пальшчызны ішлі нават далей, чым мы сабе зычылі. Здараліся, напрыклад, выпадкі вяртання да веры.

Была таксама рэакцыя наўпрост супрацьлеглая. 15 ліпеня - пакольki ўгодкі Грунвальда - мелася быць прысяга. Перад прысягай звярнуўся да мяне адзін з курсантаў школы падхарунжых, паведаміўшы, што прысягаць не можа. Развагі вельмі простыя: ён камсамолец, грамадзянін сацыялістычнай краіны. Не ведае, якая яна будзе, тая Польшча. Не збіраецца станавіцца грамадзянінам буржуазнай дзяржавы...

А ён акурат добра размаўляў па-польску. Правёў з ім доўгую размову. Не пераканаў.. Ён прасіў, каб яго адаслалі ў савецкую частку. Я стараўся яму гэта арганізаваць.

Большасць савецкіх палякаў не ўпадала аднак ні ў адну, ні ў другую крайнасць. Добра разумелі значэнне I дывізіі і яе спецыфіку.

Другая катэгорыя - гэта былі высланыя. Тых было, канешне, найболей. Гэта былі тыя, якія па-просту не здалелі адысці з Андэрсам. Не здалелі, бо былі залішне далёка, напрыклад, на Новай Зямлі. Можна сабе ўявіць іхнія настроі.

Былі сярод іх - нешматлікія - афіцэры, былі падафіцэры, леснікі, паліцыянты, вайсковыя асаднікі, трохі дзеці афіцэраў. Былі, канешне, кулакі.

Калі б мы хацелі падысці да тых людзей "анкетна" - не было б з кім працаваць. Усе былі для акідвання. Зрэшты, цалкам зразумела, паколькі аказаліся яны ў тых усіх Комі АССР, Варкутах і Карэліях якраз паводле пунктаў анкет.

Думаю, што найвялікшай заслугай I дывізіі ёсць адшуканне тых людзей для Народнай Польшчы, для сацыялізму. Не ваенныя перамогі - хоць іх і не недаацэньваю, - але гэтая перамога чыста людская ёсць найзнакаміцейшая "на шляху ад Леніна да Берліна".

**Агітацыя і прапаганда**

Як яе дасягнулі? Вельмі проста, праз агітацыю і прапаганду. Толькі гэта былі вельмі добрыя тыя агітацыя і прапаганда, вельмі трапныя, непараўнальна адрозныя і ад стылю, які быў перад тым - і, нажаль, ад таго, што пачалося пазней, у т.л. пасля вайны.

Першым элементам палітычнага выхавання была праўда. З таго пункту гледжання атмасфера I дывізіі адрознівалася ад атмасферы дывізій андэрсаўскіх.

Афіцыйна ў Савецкім Саюзе пра вывазкі не гаварылася. А тут гаварылася, і гэта ад пачатку.

Прыходзіла чарговая партыя навабранцаў. Мадзалеўскі з некалькімі памочнікамі запісваў звесткі, размяркоўваў іх па частках. Потым адзін з яго памочнікаў, часам ніжэйпадпісаны, рабіў шыхтаванне ў дзве шарэнгі, казаў палічыцца, выраўняцца, рабіў "зважай" і "спаволь".

Людзі ішлі ў гэтую дывізію дэзынфармаваныя. У іх асяродках гаварылі ім, што гэта ўсё ліпа, што аддадуць іх у нейкую савецкую частку. Нам вельмі на руку былі тыя гаворкі, бо танным коштам дазвалялі дэмантаваць усю варожую прапаганду на тэму дывізіі. Вядома, што як прыхопіш некага на адным відавочным абмане, то падрываецца вера да ўсяго, што ён гаворыць.

Рабілася: "Зважай. На права раўнуй!". Прыходзіў афіцэр з кіравання асветы. Так на пачатку называлася палітычна-выхаваўчая праца. Аддаваўся рапарт. Афіцэр казыраў і гаварыў пяці- дзесяціхвілінную прамову.

Казаў:

- Гэта не дывізія Чырвонай Арміі. Гэтая дывізія падпарадкаваная Саюзу польскіх патрыётаў. Будзе яна змагацца плячо да пляча з Чырвонай Арміяй за вызваленне Польшчы з-пад нямецкай акупацыі. За Польшчу - не савецкую рэспубліку, але сяброўскую да Савецкага Саюза...

Тыя некалькі так відавочных фраз выклікалі проста незвычайныя эфекты: перш за ўсё на фоне кантрасту з плёткамі. Гаварылі таксама пра асабістыя лёсы тых, хто прыйшоў. Так больш-менш:

- Мы ведаем, што вы прайшлі праз вельмі цяжкія выпрабаванні. Хочам, каб як найхутчэй пра іх забылі. Маем супольнага ворага. Няхай уся вашая нянавісць скіруецца супраць яго...

Назіраў за людзьмі пасля кожнай размовы. Былі гэта іншыя людзі. Была ў іх надзея. Можна было з імі нешта спрабаваць.

Канешне, здараліся і непажаданыя рэакцыі - і гэта ў двух кірунках. Бачыў людзей, якія стваралі вакол сябе групкі, гаварылі галоўным чынам супраць Савецкага Саюза, СПП, Ванды Васілеўскай. Аднаго з іх я заўважыў, узяў на адну і другую размову. Падаўся мне прыстойным і інтэлегентным. Пасля пары размоваў змяніў, здаецца, некаторыя свае погляды. Пазней пайшоў у школу падхарунжых (ужо не пры мне), стаў афіцэрам. У першыя гады пасля вайны атрымоўваў перамогі ў лёгкай атлетыцы.

Але аднаго дня я ўбачыў зусім іншае зборышча. Малы, гарачы навабранец размахваў рукамі:

- А я вам кажу, што гэта толькі так, для бачнасці. Быць не можа, каб Савецкі Саюз ствараў войска, якое будзе біцца не за Савецкую Польшчу. Гэта так, для Амерыкі... А напраўду то пойдзем усе за Польскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку.

Быў ён вельмі здзіўлены, калі я яму сказаў адзін на адзін, што ён вядзе правакацыйную работу. Напэўна, зрэшты, ён таго не хацеў...

Ён належаў да трэцяй катэгорыі тых дабраахвотнікаў. У ёй таксама не бракавала драмаў...

### Трэцяя катэгорыя

У выніку гвалтоўнасці гітлераўскага ўдару з даўніх польскіх зямель уцякло ў глыб Савецкага Саюза вельмі няшмат т. зв. "заходнікаў". Уцякалі наогул людзі вельмі актыўныя, настроеныя на барацьбу з гітлерызмам - акрамя невялікай жменькі такіх, якія свядома заставаліся пад акупацыяй для канспіратыўнай барацьбы.

З даўніх польскіх грамадзян вялікая група мужчын выйшла з Андэрсам. Пазасталіся такія, якія не здалелі - і такія, якім з Андарсам было не па дарозе. Гэтыя якраз пачалі прыбываць.

Канешне, гэта з трэцяй катэгорыі былых КПП-аўцаў, прыхільнікаў, левага актыву паўстала ядро "асветнага" апарата, якое здзейсніла цуд такой грунтоўнай перападрыхтоўкі дзесяці тысяч чалавек у рэкордна кароткі час некалькіх месяцаў.

І сярод тых, наймацнейшых, здараліся розныя перагіны. Я цытаваў прыклад класічнага "дагматызму". Хапала і наўпрост супрацьлеглых пера填бораў - калі розныя тактычныя зрухі некаторыя прымалі як праяву дзейснай і непазбежнай неабходнасці.

У той перыяд панавання культу асобы нарадзіўся класічны "дагматычны апартунізм". Гэта толькі на першы погляд парадаксальны набор словаў. Дагматычны ў ім быў падыход да рэчаіснасці, апартуністычныя адносіны да начальства. Усё, што зверху, прымалася не толькі як абавязковае, але і вартае энтузіязму.

Вось прыклад - не з І дывізіі. Адзін мой знаёмы ў той час быў у Сярэдняй Азіі. Было там тады вельмі цяжка, галадна, вядома. І быў разам з ім такі класічны падхалім. Якраз увялі назад пагоны ў афіцэраў, заміж "камандзіраў" пачалі іх нанава называць менавіта афіцэрамі і г.д.

Падхалімы пачалі ў тым бачыць грунтоўныя змены. Ужо хацелі не толькі слухаць загады, але іх апярэджваць. Мой знаёмы, не могучы даўжэй чуць трызненні гэтага тыпа, вырашыў з яго пажартаваць.

- Ведаеш, - распавядаў адным ранкам, - учора перадавалі па радыё дэкрэт Прэзідыюма Вярхоўнага Савета. З гэтага часу ў маскоўскія тэатры можна хадзіць толькі ў фраку або смокінгу...

Падхалім здзіўляецца, пару секунд, захоплены знянацку, хапае паветра. Але адразу вяртае прысутнасць духу:

- Вельмі слушна! Гэта падкрэсліць перад усім светам, як высока вырас жыццёвы ўзровень савецкага рабочага і ўсіх людзей працы.

У дывізіі такім "фракамі" для падхалімаў былі " Ўсе нашыя штодзённыя справы", спяваныя разам з "Ротай" што вечар, салюты, нават орлікі. Але, канешне, пераважная большасць гэтай трэцяй катэгорыі аказалася людзьмі не толькі дысцыплінаванымі, але і разумнымі. Пра іх узровень сведчыць, што пасярод іх можа з паўтузіна засядала пазней у Палітычным Бюро, іншыя многія сталі міністрамі, ужо не гаворачы пра генералаў. Гэта той незвычайна высокі ўзровень палітычнай кадры забяспечыў цуда перападрыхтоўкі тамтых дзесяці тысяч чалавек.

### Орлікі

Орлікі... Мілыя, нязграбныя орлікі Першай дывізіі! Адзін з элементаў яе спецыфікі, які адрозніваў яе як ад частак Чырвонай Арміі, так і ад арміі Пілсудскага ці Андэрса.

Бо, ясная рэч, знайшліся такія, якія цалкам слушна пастараліся не дапусціць спаўзання дывізіі ў адзін ці другі бок. Орлік быў не без значэння. Былі такія, якія наогул прапанавалі яго выкінуць. Калі ім давозілі, што гэта было б глупствам, адразу вылазілі іншыя, якія жадалі "звыклага", з каронай.

Абаронцы дывізійнай спецыфікі мусілі стварыць, як аказалася пазней, цэлую міфалогію.

Не ведаю хто, але досыць рана, яшчэ да нашага выезду ў Сельцы, пусціў версію: вяртаемся да орлікаў пястаўскіх, адкідваем ягелонаўскія. Пястаўскія глядзяць улева і маюць крылы зложаныя, ягелонаўскія глядзяць управа, і крылы распасцёртыя да палёту. Ясная сімволіка: тыя першыя глядзяць на захад і не маюць імперыялістычных замашак, другія глядзяць на ўсход, і ўжо іхнія крылы цягнуць да вайсковага...

Ніхто перад тым не звяртаў увагі на такія дэталі. У групе некалькіх арганізатараў ні адзін не памятаў, як тыя орлікі выглядалі дакладна. Пачаліся пошукі пястаўскіх арлоў.

У Маскве быў адзін такі выкапень польскасці - Павел Этынгер. Дзядок, тэатральны крытык, гісторык мастацтва, самотны, эвакуяваны з Варшавы яшчэ ў 1915 годзе. Пісаў у "Новыя гарызонты" нейкую дробязь. Меў вялікую бібліятэку.

Звярнуліся да яго. Выкапаў нейкі альбом з рэпрадукцыямі сярэднявечных артэфактаў. Сярод іх знайшлі пару арлоў з надмагілляў шлёнскіх Пястаў. Усе былі досыць вычварныя: у XIII - XIV стагоддзях не хапала Слюдкі Гёты. Выбралі найзноснейшага. Калі яго ўжо намалявалі, паслалі на манетны двор, адлілі некалькі тысяч штук і прыслалі ў дывізію - нехта з навабранцаў прыцягнуў старога "ягелонаўскага" арла. Гэтыя нашыя былі, як гаварылася, нязграбныя, цяжкія, нешта ў іх было мядзведжае. Тыя старыя былі хударлявыя, штыўныя, элегантныя.

Але, што горш, таксама глядзелі "на захад". І нават не сваволілі тымі крыламі!

А столькі трэба было тады і асабліва пазней тлумачыць, чаму такія, чаму, асабліва, без кароны. Нягледзячы ні на што, думаю, што слушна адкінулі тую карону. А тое, што мусілі тлумачыць, тым лепей, было гэта прычынай для размовы. Нават, што нязграбныя, мне таксама падабалася.

Калі ў студзені 44-га года мы ехалі некуды на Тулу, на нейкай станцыйцы ўбачылі нас савецкія кабеты і падлеткі. Апошнія адразу дарабілі да тых орлікаў дзіўную гіпотэзу:

- Арлоўская дывізія!

Быццам бы за ўзяцце Арла далі нам на шапкі орлікаў...

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшла кніга “Францыск Скарына са слаўнага горада Полацка”, 324 ст. Наклад 500 асобнікаў.







У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшла кніга Францыска Скарыны “Маем найбольшае самі”, перастварэнні Алеся Разанава, 224 ст., наклад 500 асобнікаў.

У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў зборнік навуковых артыкулаў “Вялікае Княства Літоўскае: палітыка, эканоміка, культура”. У дзвюх частках. Частка 1. 508 ст., наклад 400 асобнікаў.







У Смаленску ў выдавецтве “Інбелкульт” выйшла кніга Вячаслава Насевіча “Беларусы: станаўленне этнасу і нацыянальная ідэя”, 526 ст., наклад 300 асобнікаў.

У Менску ў выдавецтве “Медысонт” выйшла кніга Мікалая Плавінскага “Бітва на Нямізе 3 сакавіка 1067 года”, 54 ст., наклад 200 асобнікаў.







У выдавецтве “Папуры”, г. Менск, выйшла кніга Юзафа Ігнацыя Крашэўскага “Кароль у Нясвіжы. 1784”, 192 ст. Наклад 2000 асобнікаў.



***Вінцэнт Дмахоўскі. Нагародавічы. Алей. 1843 г.***